**ПО́ЛАТЫ** по́лотый.

**ПОЛАЎЗРО́СТАВЫ** половозрастно́й.

**ПО́ЛАЎЦЫ** *ист.* по́ловцы.

**ПО́ЛАЦК** *м. г.* По́лоцк.

**ПО́ЛАЦКІ** по́лоцкий.

**ПО́ЛАЦКІ РАЁН** По́лоцкий райо́н.

**ПО́ЛБА** *ж. бот.* по́лба.

**ПО́ЛБЕННЫ** по́лбенный; **~нная ка́ша** по́лбенная ка́ша.

**ПО́ЛЕ** *ср. в разн. знач.* по́ле; **жы́тняе п.** ржано́е по́ле; **палі́ кні́гі** поля́ кни́ги; **палі́ капелюша́** поля́ шля́пы; **спарты́ўнае п.** спорти́вное по́ле; **п. шчыта́** *(в геральдике)* по́ле щита́; **п. дзе́яння** по́ле де́ятельности; ○ **магні́тнае п.** магни́тное по́ле; **сілаво́е п.** силово́е по́ле; **бі́тае п.** *шахм.* би́тое по́ле; ◊ **у по́лі зро́ку** в по́ле зре́ния; **п. бо́ю (бі́твы)** по́ле бо́я; **у чы́стым по́лі** в чи́стом по́ле; **шука́й ве́тру ў по́лі** ищи́-свищи́; ищи́ ве́тра в по́ле; **аднаго́ по́ля я́гады** одного́ по́ля я́годы; **адна́, як былі́нка ў по́лі** одна́, как были́нка в по́ле; **благу́ю траву́ з по́ля вон** *посл.* худу́ю траву́ с по́ля вон; **во́льнаму во́ля, шалёнаму п.** *посл.* во́льному во́ля, а шально́му по́ле; **шука́й до́лі ў чы́стым по́лі** *посл.* ищи́ до́ли в чи́стом по́ле.

**ПОЛЕАХО́ЎНЫ** полезащи́тный; **~ныя лясны́я пало́сы** полезащи́тные лесны́е по́лосы.

**ПОЛІАКРЫ́Л, -лу** *м. хим.* полиакри́л.

**ПОЛІАКРЫ́ЛАВЫ** *хим.* полиакри́ловый.

**ПОЛІАМІ́ДНЫ** полиами́дный.

**ПОЛІАМІ́ДЫ,** *ед.* **поліамі́д** *м. хим.* полиами́ды.

**ПОЛІАТРЫ́Т, -ту** *м. мед.* полиартри́т.

**ПОЛІАРТЫКУЛЯ́РНЫ** *анат.* полиартикуля́рный.

**ПОЛІБАЗІ́Т, -ту** *м. мин.* полибази́т.

**ПО́ЛІВА** *ср. с.-х.* пропо́лка *ж.*

**ПОЛІВАЛЕ́НТНЫ** *хим.* поливале́нтный.

**ПОЛІВІНІ́ЛАВЫ** *хим.* поливини́ловый.

**ПОЛІВІНІЛАЦЭТА́Т, -ту** *м. хим.* поливинилацета́т.

**ПОЛІВІНІЛХЛАРЫ́Д, -ду** *м. хим.* поливинилхлори́д.

**ПОЛІВІНІЛХЛАРЫ́ДНЫ** поливинилхлори́дный.

**ПОЛІВІТАМІ́ННЫ** поливитами́нный.

**ПОЛІВІТАМІ́НЫ** *ед. нет* поливитами́ны.

**ПОЛІГАНА́ЛЬНЫ** *мат.* полигона́льный.

**ПОЛІГЕНІ́ЗМ, -му** *м. антр.* полигени́зм.

**ПОЛІГІБРЫ́Д** *м. зоол. бот.* полигибри́д.

**ПОЛІГІНІ́Я** *ж.* полигини́я.

**ПОЛІЛІНЕ́ЙНЫ** *мат.* полилине́йный.

**ПОЛІМАРФІ́ЗМ, -му** *м. биол., мин.* полиморфи́зм.

**ПОЛІМАРФІ́ЧНЫ** полиморфи́ческий.

**ПОЛІМЕРЫЗА́ТАР** *м. тех.* полимериза́тор.

**ПОЛІМЕРЫЗА́ЦЫЯ** *ж. хим.* полимериза́ция.

**ПОЛІМЕРЫ́Я** *ж. хим.* полимери́я.

**ПОЛІМЕТАЛІ́ЧНЫ** *геол.* полиметалли́ческий.

**ПОЛІМЕТА́ЛЫ, -лаў** *ед. нет* полимета́ллы.

**ПОЛІМЕТРЫ́Я** *ж. лит.* полиметри́я.

**ПОЛІНЕЎРЫ́Т, -ту** *м. мед.* полиневри́т.

**ПОЛІНЕЎРЫТЫ́ЧНЫ** *мед.* полиневрити́ческий.

**ПОЛІПЛАІДЫ́Я** *ж. бот., зоол.* полиплоиди́я.

**ПОЛІПРАПІЛЕ́Н, -ну** *м. хим.* полипропиле́н.

**ПОЛІПРАПІЛЕ́НАВЫ** полипропиле́новый.

**ПОЛІРЫТМІ́Я** *ж. муз.* полиритми́я.

**ПО́ЛІС I, -са** *м. ист.* по́лис.

**ПО́ЛІС II,** *м. фин.* по́лис; **страхавы́ п.** страхово́й по́лис.

**ПОЛІСЕМАНТЫ́ЧНЫ** *лингв.* полисеманти́ческий.

**ПОЛІСЕМІ́Я** *ж. лингв.* полисеми́я.

**ПОЛІСІЛАГІ́ЗМ, -му** *м. филос.* полисиллоги́зм.

**ПОЛІСІНТЭТЫ́ЧНЫ** *лингв.* полисинтети́ческий.

**ПО́ЛІСНЫ** *фин.* по́лисный.

**ПОЛІСПЕРМІ́Я** *ж. физиол., бот.* полисперми́я.

**ПОЛІСТЫРО́Л, -лу** *м. спец.* полистиро́л.

**ПОЛІСТЫРО́ЛАВЫ** полистиро́ловый, полистиро́льный.

**ПОЛІТЫПА́Ж** *м. полигр.* политипа́ж.

**ПОЛІТЭІ́ЗМ, -му** *м. рел.* политеизм.

**ПОЛІТЭІ́СТ** *м. рел.* политеист.

**ПОЛІТЭІСТЫ́ЧНЫ** политеисти́ческий.

**ПОЛІТЭХНІЗАВА́НЫ** политехнизи́рованный.

**ПОЛІТЭХНІЗАВА́ЦЦА** *несов. страд.* политехнизи́роваться.

**ПОЛІТЭХНІЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* политехнизи́ровать.

**ПОЛІТЭХНІЗА́ЦЫЯ** *ж.* политехниза́ция.

**ПОЛІТЭХНІ́ЗМ, -му** *м.* политехни́зм.

**ПОЛІТЭХНІ́ЧНЫ** политехни́ческий.

**ПОЛІУРЫ́Я** *ж. мед.* полиури́я.

**ПОЛІУРЭТА́Н, -ну** *м. хим.* полиурета́н.

**ПОЛІУРЭТА́НАВЫ** *хим.* полиурета́новый.

**ПО́ЛІЎКА** *ж.* **1.** похлёбка; *(рыбная)* уха́; **2.** *(жидкая часть кушанья)* жи́жа; ◊ **(прада́цца) за сачаві́чную ~ку** (прода́ться) за чечеви́чную похлёбку.

**ПО́ЛІЎНЫ** пропо́лочный.

**ПОЛІФАНІ́ЗМ, -му** *м. муз.* полифони́зм.

**ПОЛІФАНІ́ЧНЫ** *муз.* полифони́ческий.

**ПОЛІФАНІ́Я** *ж. муз.* полифони́я.

**ПОЛІФУРКА́ЦЫЯ** *ж. книжн.* полифурка́ция.

**ПОЛІХЛАРЫ́Д, -ду** *м. хим.* полихлори́д.

**ПОЛІХЛОРВІНІ́Л, -лу** *м. хим.* полихлорвини́л.

**ПОЛІХЛОРВІНІЛАВЫ** *хім.* полихлорвиниловый.

**ПОЛІХРАМАТЫЧНЫ** *иск.* полихроматический.

**ПОЛІХРАМІЯ** *ж.* *иск.* полихромия.

**ПОЛІЦУКРЫД, -ду** *м.* *хим.* полисахарид.

**ПОЛІЦЭНТРЫЗМ, -му** *м.* *филос.* полицентризм.

**ПОЛІЦЭНТРЫЧНЫ** полицентрический; **~ная структура горада** полицентрическая структура города.

**ПОЛІЭМБРЫЯНІЯ** *ж.* *биол.* полиэмбриония.

**ПОЛІЭТЫЛЕН, -ну** *м.* *хим.* полиэтилен.

**ПОЛІЭТЫЛЕНАВЫ** полиэтиленовый.

**ПОЛІЯМІЕЛІТ, -ту** *м.* *мед.* полиомиелит.

**ПОЛІЯНІТ, -ту** *м.* *мин., горн.* полианит.

**ПОЛК,** *род.* **палка** *м.* *прям., перен.* полк; ◊ **нашага (у нашым) палку прыбыло** нашего полку прибыло.

**ПОЛКА** *ж.* **1.** *(кусок ткани)* полотнище *ср.;* **2.** *обл.* пелёнка.

**ПОЛУДЗЕНЬ, -дня** *м.* **1.** полдник; **2.** *обл.* обед.

**ПОЛЧЫШЧА** *ср.* полчище.

**ПОЛЫ** полый; **полае сцябло** полый стебель; ○ **полыя вены** полые вены.

**ПОЛЫМЕГАСІЦЕЛЬ** *м.* *спец.* пламегаситель.

**ПОЛЫМЕПАДОБНЫ** пламеобразный.

**ПОЛЫМНЫ** пламенный; **~ная печ** *тех.* пламенная печь.

**ПОЛЫМЯ** *ср.* *прям., перен.* пламя; ○ **з агню ды ў п.** *погов.* из огня да в полымя.

**ПОЛЬДЭР** *м.* *спец.* польдер.

**ПОЛЬКА I** *ж.* *(к* **паляк)** полька.

**ПОЛЬКА II** *ж.* *(танец)* полька.

**ПОЛЬКА III** *ж.* *(стрижка)* полька.

**ПОЛЬНЫ** *см.* **палявы.**

**ПОЛЮС** *м.* *в разн. знач.* полюс; ○ **Паўночны п.** Северный полюс; **Паўднёвы п.** Южный полюс; **магнітный п.** *физ.* магнитный полюс; **п. свету** *астр.* полюс мира; **дадатны (адмоўны) п.** *физ.* положительный (отрицательный) полюс; **п. холаду** полюс холода.

**ПОЛЮСНЫ** полюсный.

**ПОМАРАКА** *ж.* умопомрачение *ср.*

**ПОМАЧ** *ж.* помощь.

**ПОМЕЖ 1.** *нареч.* рядом; по соседству; **2.** *(з кім-чым) в знач. предлога с твор. разг.* подле *(кого-чего);* **п. з хатай** подле дома.

**ПОМЕСЬ** *ж.* **1.** *(гибрид)* помесь; **2.** *перен.* *(соединение чего-л. разнородного)* помесь, смесь.

**ПОМНІК** *м.* *в разн. знач.* памятник; **п. Купалу** памятник Купале; **археалагічныя ~кі** археологические памятники; **~кі пісьменнасці** памятники письменности.

**ПОМНІЦЦА** *несов.* **1.** *(сохраняться в памяти)* помниться; **мне ~няцца гэтыя дні** мне помнятся эти дни; **2.** *безл.* *вводн. сл.* помнится:

**вы, п., прыхóдзілі да мянé** вы, пóмнится, приходи́ли ко мне.

**ПÓМНІЦЬ** *несов.* пóмнить; ◊ **не п. сябé** не пóмнить себя́; **п. сябé** пóмнить себя́; **п. да нóвых вéнікаў** *погов.* пóмнить до нóвых вéников.

**ПÓМПА** I *ж.* насóс *м.,* пóмпа.

**ПÓМПА** II *ж. (пышность)* пóмпа; **рабíць штó-нéбудзь з ~пай** дéлать чтó-л. с пóмпой.

**ПÓМПАВЫ** *тех.* насóсный, пóмповый.

**ПÓМСЛІВА** *нареч.* мсти́тельно.

**ПÓМСЛІВАСЦЬ** *ж.* мсти́тельность.

**ПÓМСЛІВЫ** мсти́тельный.

**ПÓМСТА** *ж.* месть, мщéние *ср.;* ○ **крóўная п.** крóвная месть.

**ПÓМСЦІЦЦА** *несов. см.* **пóмсціць.**

**ПÓМСЦІЦЬ** *несов.* мстить; **п. вóрагу** мстить врагу́.

**ПÓНАЖ** *м. (в ткацком станке)* педáль *ж.*

**ПÓНАЖЫ** *ед. нет воен. ист.* пóножи.

**ПÓНАЧЫ** *нареч.* нóчью.

**ПÓНІ** *нескл.* пóни.

**ПÓНЧА** *нескл. ср.* пóнчо.

**ПÓНЧЫК** *м.* пóнчик.

**ПОП** I, *род.* **папá** *м.* поп; ◊ **шалёны п. хрысціў** шальнóй поп крести́л; **які́ п., такí і прыхóд (такáя і парáфія)** *посл.* какóв поп, такóв и прихóд; **не п.— не ўбірáйся ў рызу** *посл.* не поп — не наряжáйся в ри́зу; **п. саграшы́ў, а дзякá вéшаюць** *погов.* с больнóй головы́ на здорóвую; **п. сваё, а чорт сваё** *погов.* поп своё, а чёрт своё.

**ПОП** II: **на папá ( пастáвіць, стаць)** на попá (постáвить, стать).

**ПОП-ÁРТ, -ту** *м. иск.* поп-áрт.

**ПÓПАЎЗЕНЬ, -зня** *м. зоол.* пóползень.

**ПÓПАЎЗКАМ** *нареч. обл. см.* **паўзкóм.**

**ПÓПЕЛ, -лу** *м.* пéпел; золá *ж.;* **п. ад папярóсы** пéпел от папирóсы; **ператвары́цца ў п.** преврати́ться в пéпел; **выграбáць п. з пéчы** выгребáть золу́ из пéчи.

**ПОПЕЛАБЕТÓН, -ну** *м. стр.* пеплобетóн.

**ПОПЕЛАЎЛÓЎЛІВАННЕ** *ср. спец.* золоулáвливание.

**ПОПЕЛАЎЛÓЎНІК** *м. спец.* золоуловИ́тель.

**ПÓПЕЛІШЧА** *ср. обл.* пепели́ще.

**ПÓПЕЛЬНІЦА** *ж.* пéпельница.

**ПÓПЕЛЬНЫ** пéпельный; зóльный; **~ная мáса** пéпельная (зóльная) мáсса.

**ПÓПІК** *м. уменьш. пренебр.* пóпик.

**ПÓПКА** *м. разг. (попугай)* пóпка.

**ПОП-КУЛЬТУ́РА** *ж. книжн.* поп-культу́ра.

**ПÓПЛАЎ, -лаву** *м.* пóйма *ж.,* заливнóй луг; луг *(вообще).*

**ПÓПЛЕЧ** *нареч. (только о людях)* ря́дом; бок ó бок; *(дружно)* рукá óб руку; *(при гл. нахождения, состояния — ещё)* вóзле, пóдле; **яны́ сядзéлі п.** они́ сидéли ря́дом (бок ó бок); **ён падышóў і стаў п.** он подошёл и стал ря́дом (вóзле, пóдле); **ён ішóў п. з бáцькам** он шёл ря́дом (бок ó бок) с отцóм; **стая́ць п. з брáтам** стоя́ть ря́дом с брáтом (вóзле, пóдле брáта),

**ПО́ПЛІСКА** *ж. разг.* па́лка, дрючо́к *м.*

**ПОП-МАСТА́ЦТВА** *ср. книжн.* поп-иску́сство.

**ПОП-МУ́ЗЫКА** *ж. книжн.* поп-му́зыка.

**ПО́ПРАДКІ** *ед. нет разг.* посиде́лки.

**ПО́ПРАЎКА** *ж.* выздоровле́ние *ср.*, попра́вка.

**ПО́ПЫТ, -ту** *м. эк.* спрос; **п. выклікáе прапанава́нне** спрос вызыва́ет предложе́ние; **плацежаздо́льны п.** платёжеспосо́бный спрос.

**ПО́РА** *ж.* по́ра; *см.* **по́ры.**

**ПО́РАЗАВА** *ср. г. п.* По́розово.

**ПО́РАЗАЎСКІ** по́розовский.

**ПО́РАТЫ** по́ротый; *см.* **паро́ць** 1.

**ПО́РАЎНІ** *нареч. (в непосредственном соседстве)* ря́дом, ря́дышком.

**ПОРАЎТВАРЭ́ННЕ** *ср.* порообразова́ние.

**ПО́РАХ, -ху** *м. прям., перен.* по́рох; ○ **бязды́мны п.** безды́мный по́рох; ◊ **п. дарэ́мна тра́ціць** по́рох да́ром тра́тить; **не хапа́е ~ху** не хвата́ет по́роху; **~ху не вы́думае** по́роха (по́роху) не вы́думает (не изобретёт); **панюхаць ~ху** понюхать по́роху; **не ню́хаць ~ху** не ню́хать по́роху; **па́хне ~хам** па́хнет по́рохом; **трыма́ць п. сухі́м** держа́ть по́рох сухи́м; **ёсць яшчэ́ п. у парахаўні́цах** есть ещё по́рох в пороховни́цах.

**ПО́РКА** *ж.* по́рка; *см.* **паро́ць** 1.

**ПО́РКАННЕ** *ср. прост.* **1.** ты́канье; *см.* **по́ркаць; 2.** копа́ние; *см.* **по́ркацца.**

**ПО́РКАЦЦА** *несов. прост.* **1.** ры́ться, копа́ться; ковыря́ться; **п. ў чужы́х рэ́чах** ры́ться (копа́ться) в чужи́х веща́х; **2.** копа́ться, вози́ться.

**ПО́РКАЦЬ** *несов. прост.* ты́кать; **п. па́льцам у што-не́будзь** ты́кать па́льцем во что́-л.

**ПОРСК, -ку** *охот.* порск.

**ПО́РСКАННЕ** *ср. охот.* порска́нье.

**ПО́РСКАЦЬ** *несов. охот.* порска́ть.

**ПО́РСКНУЦЬ** *сов. и однокр. охот.* порскну́ть.

**ПО́РСТКА** *нареч. разг.* ре́зво.

**ПО́РСТКАСЦЬ** *ж.* **1.** вспы́льчивость; **2.** ре́звость.

**ПО́РСТКІ** **1.** вспы́льчивый; **2.** ре́звый.

**ПОРТ** I *м.* порт; **марскі́ п.** морско́й порт.

**ПОРТ** II, *род.* **по́рту** *м.* льняна́я (бума́жная) ткань.

**ПО́РТА** *нескл. ср. спец.* по́рто.

**ПО́РТА** *ист.* По́рта.

**ПО́РТАЧКІ, -чак** *ед. нет разг.* штани́шки.

**ПО́РТКІ, -так** *ед. нет разг.* штаны́, портки́, порты́.

**ПО́РТЭР, -ру** *м. (сорт пива)* по́ртер.

**ПО́РТЭРНАЯ** *сущ. уст.* по́ртерная.

**ПО́РТЭРНЫ** по́ртерный.

**ПО́РУЧ** *нареч. (о людях)* ря́дом; *(при гл. состояния, нахождения — ещё)* во́зле, по́дле; **дзе́ці іду́ць п.** де́ти иду́т ря́дом.

**ПО́РУЧАНЬ, -чня** *м.* по́ручень.

**ПО́РУЧНЕВЫ** пери́льный.

**ПО́РУЧНІ,** *ед.* **по́ручань, -чня** *м.* по́ручни, пери́ла.

**ПО́РУЧЫ** *ед. нет ист., церк.* по́ручи.

**ПО́РХАЎКА** *ж. бот.* дождеви́к *м.*

**ПО́РЦІК** *м. архит.* по́ртик.

**ПО́РЦЫЯ** *ж.* по́рция.

**ПО́РШАНЬ, -шня** *м. тех.* по́ршень.

**ПО́РШНЕВЫ** *тех.* поршнево́й.

**ПО́РЫ,** *ед.* **по́ра** *ж. в разн. знач.* по́ры.

**ПО́РЫСТАСЦЬ** *ж.* по́ристость.

**ПО́РЫСТЫ** *в разн. знач.* по́ристый.

**ПО́САХ** *м.* по́сох.

**ПО́СВІСТ, -ту** *м.* по́свист.

**ПО́СЕДАМ: п. сядзе́ць** си́днем (си́дмя́) сиде́ть.

**ПО́СКУДЗЬ** *ж. разг. презр.* по́гань, ме́рзость; *(о человеке — ещё)* мразь.

**ПО́СЛЕ** *нареч., предлог разг. см.* **пасля́.**

**ПО́СЛУХ** *м.* **1.** *род.* **-ху** *церк.* послуша́ние *ср.;* **2.** *род.* **-ха** *ист.* по́слух, свиде́тель.

**ПО́СНІК** *м. рел.* по́стник.

**ПО́СНІЦА** *ж.* **1.** *рел.* по́стница; **2.** *разг. неодобр.* по́стная пи́ща.

**ПО́СНІЦКІ** *рел.* по́стнический.

**ПО́СНІЦТВА** *ср. рел.* по́стничество.

**ПО́СНІЧАЦЬ** *сов. разг.* по́стничать.

**ПО́СНЫ** *в разн. знач.* по́стный; **п. абе́д** по́стный обе́д; **~ная цяля́ціна** по́стная теля́тина; **п. дзень** по́стный день; **п. твар** по́стная физионо́мия; ○ **п. цу́кар** по́стный са́хар.

**ПО́СПЕХ, -ху** *м.* **1.** успе́х; уда́ча *ж.;* **пажада́ць ~ху** пожела́ть успе́ха (уда́чи); **кні́га ма́е п.** кни́га име́ет успе́х; **з ~хам** с успе́хом; **2.** *только мн.* успе́хи; **до́брыя ~хі ў матэма́тыцы** хоро́шие успе́хи в матема́тике; **вытво́рчыя ~хі** произво́дственные успе́хи.

**ПОСТ** I, *род.* **паста́** *м. в разн. знач.* пост; **баявы́ п.** боево́й пост; **узбро́ены п.** вооружённый пост; **заня́ць п. дыр́эктара** заня́ть пост дире́ктора; ◊ **на пасту́** на посту́.

**ПОСТ** II, *род.* **по́сту** *м.* **1.** *церк., перен.* пост; **2.** *рел.* по́стничество *ср.;* ○ **вялі́кі п.** *рел.* вели́кий пост.

**ПОСТАДАПТА́ЦЫЯ** *ж. биол.* постадапта́ция.

**ПО́СТАЦЬ** I *ж.* **1.** фигу́ра; стан *м.;* стать; **2.** оса́нка.

**ПО́СТАЦЬ** II *ж. разг.* полоса́, за́нятая одно́й жни́цей.

**ПОСТІНФА́РКТНЫ** *мед.* постинфа́рктный.

**ПОСТПАЗІЦЫ́ЙНЫ** *грам.* постпозицио́нный.

**ПОСТПАЗІ́ЦЫЯ** *грам.* постпози́ция.

**ПОСТПАКЕ́Т** *м. спец.* постпаке́т.

**ПО́СТРАХ, -ху** *м. разг.* остра́стка *ж.*

**ПО́СТРЫГ, -гу** *м. церк.* по́стриг.

**ПО́СТУП, -пу** *м. прям., перен.* по́ступь *ж.*

**ПОСТЭМБРЫЯНА́ЛЬНЫ** *биол.* постэмбриона́льный.

**ПО́СУД, -ду** *собир. м.* посу́да *ж.*

**ПО́СУЛ, -лу** *м. разг.* посу́л, обеща́ние *ср.*

**ПО́СУХУ** *нареч.* по́суху.

**ПО́СЦІЛКА** *ж.* пости́лка; покрыва́ло *ср.*

**ПОТ,** *род.* **по́ту** *м. в разн. знач.* пот; *(на теле — ещё)* испа́рина *ж.;* ◊ **по́там і крывёю (кро́ўю)** по́том и кро́вью; **сагна́ць сем пато́ў** *з каго* согна́ть семь пото́в *с кого;* **сышло́ сем пато́ў** сошло́ семь пото́в; **увагна́ць (кі́нуць) у п.** вогна́ть (бро́сить) в пот; **аблíва́цца по́там** облива́ться по́том; **да сёмага по́ту** до седьмо́го по́та; **цыга́нскі п.** цыга́нский пот; **крыва́вы п.** крова́вый пот; **пакры́цца хало́дным по́там** покры́ться холо́дным по́том.

**ПОТААДДЗЯЛЕ́ННЕ** *ср. физиол. см.* **потавыдзяле́нне.**

**ПО́ТАВЫ** потово́й; ○ **~выя зало́зы** потовы́е же́лезы.

**ПОТАВЫДЗЯЛЕ́ННЕ** *ср. физиол.* потоотделе́ние.

**ПО́ТАЙКАМ** *нареч.* тайко́м, укра́дкой.

**ПО́ТАЙКІ** *нареч. см.* **по́тайкам.**

**ПО́ТАРЧ** *нареч.* **1.** *(стоять)* торчко́м; **2.** *(падать)* кувырко́м; **ляце́ць п.** лете́ть кувырко́м.

**ПО́ТНІК** *м.* потни́к.

**ПО́ТНЫ** *в разн. знач.* по́тный.

**ПО́ТЫМ** *нареч.* пото́м, зате́м; по́сле; **папрацу́й, п. адпачні́** порабо́тай, пото́м (зате́м) отдохни́; **я п. гэ́та зраблю́** я пото́м (по́сле) э́то сде́лаю.

**ПО́ТЫРЧ** *нареч. см.* **по́тарч.**

**ПО́ЎДЗЕНЬ** I, *род.* **по́ўдня** *м. в разн. знач.* юг; **пту́шкі адлята́юць на п.** пти́цы улета́ют на юг; **на по́ўдні кра́іны** на ю́ге страны́.

**ПО́ЎДЗЕНЬ** II, *род.* **по́ўдня** *м.* по́лдень; **у п.** в по́лдень; ○ **сапра́ўдны п.** *астр.* и́стинный по́лдень.

**ПО́ЎЗАННЕ** *ср.* **1.** по́лзание; **2.** *перен.* по́лзание, пресмыка́тельство; 1, 2 *см.* **по́ўзаць.**

**ПО́ЎЗАЦЬ** *несов.* **1.** по́лзать; **мура́шкі ~заюць па дрэ́ве** муравьи́ по́лзают по де́реву; **п. на кара́чках** по́лзать на четвере́ньках; **2.** *перен. (унижаться)* по́лзать, пресмыка́ться; ◊ **п. на калéнях** *перад кім* по́лзать, пресмыка́ться; ◊ **п. на калéнях** *перад кім* по́лзать на колéнях *перед кем.*

**ПО́ЎНА** *нареч.* **1.** по́лно; **п. налі́ць шкля́нку** по́лно нали́ть стака́н; **2.** *в знач. сказ. разг.* полно́; **у ле́се п. грыбо́ў** в лесу́ полно́ грибо́в.

**ПОЎНАГАЛО́СНЫ** *лингв.* полногла́сный.

**ПОЎНАГАЛО́ССЕ** *ср. лингв.* полногла́сие.

**ПОЎНАМЕТРА́ЖНЫ** *кино* полнометра́жный.

**ПОЎНАРАЗМЕ́РНЫ** полноразме́рный.

**ПО́ЎНАСЦЮ** *нареч.* **1.** *(без изъятий)* по́лностью, сполна́; **2.** *(во всех отношениях)* соверше́нно, по́лностью, целико́м, вполне́; **п. зго́дзен** по́лностью (целико́м, вполне́) согла́сен; ◊ **ца́лкам і п.** целико́м и по́лностью.

**ПОЎНАЎЛА́ДДЗЕ** *ср.* полновла́стие.

**ПОЎНАЎЛА́ДНА** *нареч.* полновла́стно.

**ПОЎНАЎЛА́ДНАСЦЬ** *ж.* полновла́стие *ср.*

**ПОЎНАЎЛА́ДНЫ** полновла́стный.

**ПОЎНАЎЛА́ДСТВА** *ср. см.* **поўнаўла́ддзе.**

**ПОЎНАФАРМА́ТНЫ** полноформа́тный.

**ПО́ЎНАЧ** I *ж. в разн. знач.* се́вер *м.;* **на п. ад Мі́нска** к се́веру от Ми́нска; **раслі́ннасць ~чы** расти́тельность се́вера.

**ПО́ЎНАЧ** II *ж. (середина ночи)* по́лночь.

**ПО́ЎНАЧ** *(самая северная территория Европы и Азии и полярная область) м.* Се́вер; **наро́ды ~чы** наро́ды Се́вера.

**ПО́ЎНІК** *м. см.* **по́ўня.**

**ПО́ЎНІЦЦА** *несов.* наполня́ться, по́лниться; ◊ **чу́ткамі зямля́ п.** *посл.* слу́хом земля́ по́лнится.

**ПО́ЎНІЦЬ** *несов.* наполня́ть, по́лнить; **галаву́ яго́ ~нілі ро́зныя меркава́нні** го́лову его́ наполня́ли ра́зные соображе́ния.

**ПО́ЎНЫ 1.** *в разн. знач.* по́лный; *(сил, радости и т. п. — ещё)* испо́лненный; *(целиком поглощённый каким-л. чувством — ещё)* преиспо́лненный; **~нае вядро́** по́лное ведро́; **~ная перамо́га** по́лная побе́да; **п. збор тво́раў** по́лное собра́ние сочине́ний; **яму́ няма́ ~ных трыццаці́ год** ему́ нет по́лных тридцати́ лет; **п. эне́ргіі** испо́лненный эне́ргии; **2.** *(отличающийся полнотой)* по́лный, ту́чный; ○ **~ныя прыме́тнікі** по́лные прилага́тельные; **п. ход!** по́лный ход!; ◊ **на п. рот, на ~ную губу́ (е́сці, упі́сваць, умі́наць)** за о́бе щеки́ (есть, упи́сывать); **у ~най ме́ры** в по́лной ме́ре; **на ~ную сі́лу** в по́лную си́лу; **~наю ме́раю** по́лной ме́рой; **у ~ным сэ́нсе сло́ва** в по́лном смы́сле сло́ва; **у ~ным пара́дзе** в по́лном пара́де; **на ~ным сур'ёзе** на по́лном серьёзе; **у ~ным ро́зуме** в по́лном рассу́дке (уме́); **не ў ~ным ро́зуме** не в по́лном рассу́дке (уме́); **~ная ча́ша** по́лная ча́ша; **на ~ным хаду́** на по́лном ходу́.

**ПО́ЎНЯ** *ж.* полнолу́ние *ср.*

**ПОЎСЦЬ** *ж. (у животных)* шерсть; подшёрсток *м.*

**ПО́ЎХА** *ж. разг.* оплеу́ха, пощёчина, затре́щина; ◊ **даць по́ўху** дать затре́щину, отве́сить оплеу́ху.

**ПО́ХАПКАМ** *нареч. разг.* второпя́х.

**ПО́ХВА** *ж.* **1.** *анат. бот.* влага́лище *ср.;* **2.** *см.* **но́жны.**

**ПО́ХВАВЫ** *см.* **по́хвенны.**

**ПО́ХВЕННЫ** *анат., бот.* влага́лищный.

**ПО́ЦЕМАК, -мку** *м. см.* **пацёмкі.**

**ПО́ЦЕМКАМ** *нареч.* впотьма́х; в полумра́ке; в су́мерках.

**ПО́ЦЕМКІ, -мкаў** *мн.* потёмки; ◊ **блука́ць у ~мках** блужда́ть в потёмках.

**ПО́ЦІСК, -ку** *м.* пожа́тие *ср.;* ◊ **п. рукі́** рукопожа́тие.

**ПО́ЦЯГАМ** *нареч. разг.* во́локом.

**ПО́ЧКА** *ж. (зачаток нового организма)* по́чка.

**ПО́ЧУТ**: **і ~ту няма́** ни слу́ху ни ду́ху.

**ПО́ЧЫРК, -ку** *м.* по́черк; **выра́зны п.** разбо́рчивый по́черк; **каліграф-**

**фі́чны п.** каллиграфи́ческий по́черк.

**ПО́ШАПАК, -пку** *м. разг. см.* **шэпт.**

**ПО́ШАПКАМ** *нареч. разг. см.* **шэптам.**

**ПО́ШАСЦЬ** *ж.* **1.** эпиде́мия; пове́трие *ср.; (скота — ещё)* падёж *м.;* **2.** *перен.* зара́за; пове́трие *ср.;* напа́сть; ме́рзость; ○ **марава́я п.** морово́е пове́трие; морова́я я́зва.

**ПО́ШВЫРАК, -рка** *м.* **1.** *разг.* бросо́к, швыро́к; **2.** *спорт.* швыро́к.

**ПО́ШВЫРКАМ** *нареч. разг.* швырко́м.

**ПО́ШЛА** *нареч.* по́шло.

**ПО́ШЛАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* по́шлость; **п. паво́дзін** по́шлость поведе́ния; **гавары́ць ~ці** говори́ть по́шлости.

**ПО́ШЛІНА** *ж.* по́шлина; ○ **забаро́нныя ~ны** запрети́тельные по́шлины.

**ПО́ШЛІННЫ** по́шлинный.

**ПО́ШЛЫ** по́шлый.

**ПО́ШТА** *ж. в разн. знач.* по́чта; **дасла́ць па по́шце** посла́ть по по́чте; **зане́сці пісьмо́ на ~ту** отнести́ письмо́ на по́чту; **разно́сіць ~ту** разноси́ть по́чту; ○ **палява́я п.** полева́я по́чта; ◊ **лятү́чая п.** лету́чая по́чта.

**ПО́ШУК, -ку** *м.* по́иск.

**ПО́ШУКАВА-ВЫРАТАВА́ЛЬНЫ** по́иско́во-спаса́тельный.

**ПО́ШУКАВА-РАЗВЕ́ДВАЛЬНЫ** по́иско́во-разве́дочный.

**ПО́ШУКАВЕЦ** *м.* поискови́к.

**ПО́ШУКАВЫ** по́иско́вый; **~вых работы** по́иско́вые рабо́ты.

**ПО́ШУКІ,** *ед.* **по́шук, -ку** *м.* **1.** по́иски; ро́зыски; изыска́ние *ср.;* **у ~ках** *(каго-чаго)* в по́исках *(кого-чего);* **пасля́ до́ўгіх ~каў** по́сле до́лгих по́исков; **адпра́віцца на п.** отпра́виться на по́иски (ро́зыски); **п. сро́дкаў** изыска́ние средств; **2.** по́иски, иска́ние *ср.;* **п. пра́ўды** по́иски (иска́ние) пра́вды; **п. мастака́** иска́ния худо́жника; **3.** *(разведочные работы)* по́иски; **п. на рудано́сных пло́шчах** по́иски на рудоно́сных площадя́х; **4.** *(с целью проектирования)* изыска́ния; **геалагі́чныя п. для будаўні́цтва** геологи́ческие изыска́ния для строи́тельства.

**ПО́ШЧАК, -ку** *м.* **1.** *(о пении птиц)* щёкот, щекота́ние *ср.;* трель *ж.;* **салаў́іны п.** соловьи́ный щёкот (соловьи́ная трель); **2.** дробь *ж.;* **бараба́нны п.** бараба́нная дробь; **3.** о́тзвук, э́хо *ср.*

**ПО́ЯС** *м. в разн. знач.* по́яс; **скураны́ п.** ко́жаный по́яс; **па п. у вадзе́** по по́яс в воде́; **гара́чы п.** *геогр.* жа́ркий по́яс; **тары́фны п.** *эк.* тари́фный по́яс; **п. плаўле́ння** *тех.* по́яс плавле́ния; ○ **ратава́льны п.** спаса́тельный по́яс; **плечавы́ п.** *анат.* плечево́й по́яс; **гадзінны п.** часово́й по́яс; ◊ **заткну́ць за п.** *каго* заткну́ть за́ пояс *кого.*

**ППА (проціпаве́траная абаро́на)** ПВО (противовозду́шная оборо́на).

**ППХА (проціпаве́траная хімі́чная абаро́на).** ПВХО (противовозду́шная хими́ческая оборо́на).

**ПРА** *предлог с вин. (для указания на предмет мысли, речи, чувства и т. п.)* о, об *(ком-чём);* про; **гавары́ць п. літарату́ру** говори́ть о литерату́ре; **я ўспаміна́ю п. цябе́** я

вспоминáю о тебé (про тебя́); **пагаварыць п. адпачынак** поговорить об óтпуске.

**ПРААМЕРЫКАНСКІ** проамерикáнский.

**ПРААНАЛІЗАВАНЫ** проанализи́рованный.

**ПРААНАЛІЗАВАЦЬ** *сов.* проанализи́ровать.

**ПРААНАТАМАВАЦЬ** *сов.* проанатоми́ровать.

**ПРААРАНЫ** пропáханный.

**ПРААРАЦЬ** *сов. в разн. знач.* пропахáть; **п. разóру** пропахáть бóрозду́; **п. да абéду** пропахáть до обéда.

**ПРААРФАВАНЫ** *с.-х.* провéянный.

**ПРААРФАВАЦЦА** *сов. с.-х.* *(очиститься при веянии)* провéяться.

**ПРААРФАВАЦЬ** *сов. с.-х. (веялкой) в разн. знач.* провéять; **п. зéрне** провéять зернó; **п. дзве гадзіны** провéять два часá.

**ПРААРФÓЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд. с.-х.* провéиваться; *см.* **праарфавáцца, праарфóўваць.**

**ПРААРФÓЎВАЦЬ** *несов. с.-х.* *(веялкой)* провéивать.

**ПРААСВЯШЧЭННЫ** *церк.* преосвящéнный.

**ПРААСВЯШЧЭНСТВА** *церк.* преосвящéнство.

**ПРААХКАЦЬ** *сов. разг.* проáхать.

**ПРАБАБКА** *ж.* прабáбушка, прабáбка.

**ПРАБАВАННЕ** *ср.* прóбование.

**ПРАБАВАЦЦА** *несов. страд.* прóбоваться; испы́тываться; отвéдываться; *см.* **прабавáць** 1, 2.

**ПРАБАВАЦЬ** *несов.* **1.** прóбовать, испы́тывать; **п. свае сілы** прóбовать (испы́тывать) свои́ си́лы; **2.** *(есть для пробы)* прóбовать, отвéдывать; **п. на смак** прóбовать на вкус; **3.** *(стремиться сделать что-л.)* предпринимáть попы́тки; *(с инф.)* пытáться, порывáться; покушáться.

**ПРАБАВІЦЦА** *сов. разг.* пробы́ть; промéдлить, задержáться, промéшкать.

**ПРАБАВІЦЬ** *сов. разг. (время)* провести́; скоротáть; затрáтить.

**ПРАБАДАЦЬ** *сов. (рогами)* прободáть.

**ПРАБАДЗЕННЕ** *ср. мед.* прободéние.

**ПРАБАДЗЯЦЦА** *сов. разг.* пробродить, прослоня́ться; проскитáться.

**ПРАБАДНЫ** *мед.* прободнóй.

**ПРАБАЛАКАЦЬ** *сов. разг.* пробалагу́рить, прокаля́кать.

**ПРАБАЛАНСАВАЦЬ** *сов.* пробаланси́ровать.

**ПРАБАЛБАТАЦЦА** *сов. разг.* проболтáться, проговори́ться; **ён неспадзявана ~таўся** он неожи́данно проболтáлся (проговори́лся).

**ПРАБАЛБАТАЦЬ** *сов.* **1.** проболтáть; протаратóрить; **яна ~тала цэлую гадзіну** онá проболтáла (протаратóрила) цéлый час; **2.** *(выдать секрет)* проболтáть; **п. таямніцу** проболтáть тáйну; **3.** *(невнятно сказать)* пролопотáть;

**п. нéшта незразумéлае** пролопотáть что-то непонЯтное.

**ПРАБАЛЯВÁЦЬ** *сов.* пропировáть.

**ПРАБАМБÍЦЬ** *сов.* пробомбúть.

**ПРАБАНКАВÁЦЬ** *сов. карт.* прометáть *(банк).*

**ПРАБАНКЕТАВÁЦЬ** *сов.* пропировáть.

**ПРАБАРАБÁНЕНЫ** пробарабáненный.

**ПРАБАРАБÁНІЦЬ** *сов. в разн. знач.* пробарабáнить.

**ПРАБАРАЗНÍЦЬ** *сов.* пробороздúть.

**ПРАБАРАНАВÁНЫ** проборонённый, проборонóванный.

**ПРАБАРАНАВÁЦЬ** *сов. в разн. знач.* проборонúть, проборонoвáть.

**ПРАБАРАНÓЎВАЦЦА** *несов. страд.* проборáниваться; *см.* **прабаранóўваць.**

**ПРАБАРАНÓЎВАЦЬ** *несов.* проборáнивать.

**ПРАБАСАВÁЦЬ** *сов. разг. см.* **прабасíць.**

**ПРАБАСÍЦЬ** *сов. разг.* пробасúть.

**ПРАБАСТАВÁЦЬ** *сов.* пробастовáть.

**ПРАБАСЦÍ** *сов. см.* **прабадáць.**

**ПРАБАТРÁЧЫЦЬ** *сов.* пробатрáчить.

**ПРАБÁЎЛЕНЫ** *разг.* проведённый; затрáченный; *см.* **прабáвіць.**

**ПРАБАЎЛЯ́ЦЦА** *несов. разг.* жить кóе-как, перебивáться.

**ПРАБАЎЛЯ́ЦЬ** *несов. разг. (время)* проводúть; коротáть; затрáчивать.

**ПРАБÁЦЬКА** *м.* прародúтель, прáотец.

**ПРАБÁЦЬКАЎСКІ** прародúтельский, праотцóвский.

**ПРАБАЧÁЛЬНАСЦЬ** *ж.* извинúтельность, простúтельность.

**ПРАБАЧÁЛЬНЫ** извинúтельный, простúтельный.

**ПРАБÁЧАНЫ** прощённый, извинённый.

**ПРАБАЧÁЦЦА** *несов. страд.* прощáться, извинЯ́ться; *см.* **прабачáць.**

**ПРАБАЧÁЦЬ** *(каму) несов.* прощáть *(кого, кому),* извинЯ́ть *(кого); см.* **прабáчыць.**

**ПРАБÁЧЛІВЫ** извинЯ́ющийся; **гаварыць ~вым тóнам** говорúть извинЯ́ющимся тóном.

**ПРАБÁЧНАСЦЬ** *ж.* извинúтельность.

**ПРАБÁЧНЫ** извинúтельный.

**ПРАБÁЧЫЦЬ** *(каму) сов.* простúть *(кого, кому),* извинúть *(кого);* **прабáчце ямý** простúте егó (емý), извинúте егó; ◊ **прабáч(це)** *вводн. сл.* а) *(форма извинения)* виновáт, простú(те); извинú(те); б) *(для выражения протеста)* извинú(те).

**ПРАБАЧЭ́ННЕ** *ср.* **1.** *(действие)* прощéние; **2.** извинéние, прощéние; **3.** извинéние; **тваé ~нні мянé не кранáюць** твоú извинéния менЯ́ не трóгают; ◊ **прашý ~ння** прошý прощéния.

**ПРАБÉГ, -гу** *м. в разн. знач.* пробéг; **лыжны п.** лЫжный пробéг; **цеплавóз знахóдзіўся ў ~гу двóе сýтак** тепловóз находúлся в пробéге двóе сýток.

**ПРАБÉГАЦЦА** *сов.* пробéгаться.

**ПРАБЕ́ГАЦЬ** *сов. в разн. знач.* пробе́гать; *(суетливо — ещё)* промета́ться; *(в поисках чего-л.—ещё)* проры́скать; **дзе́ці ўсю ра́ніцу ~галі ў са́дзе** де́ти всё у́тро пробе́гали в саду́; **сабака ~гаў два дні** соба́ка пробе́гала два дня; **п. ўро́к** пробе́гать уро́к.

**ПРАБЕ́ГЛЫ** *разг. (много видавший, опытный)* быва́лый, тёртый.

**ПРАБЕ́ГЧЫ** *сов. в разн. знач.* пробежа́ть; **п. це́раз по́ле** пробежа́ть че́рез по́ле; **параво́з ~г за гадзі́ну 60 кіламе́траў** парово́з пробежа́л за час 60 киломе́тров; **час ху́тка ~г** вре́мя бы́стро пробежа́ло; **п. па́льцамі па кла́вішах** пробежа́ть па́льцами по кла́вишам; **п. вача́мі** *па чым, што* пробежа́ть глаза́ми (взгля́дом) *по чему, что;* ◊ **(чо́рная) ко́шка ~гла памі́ж і́мі** (чёрная) ко́шка пробежа́ла ме́жду ни́ми; **маро́з (хо́лад) на ску́ры (па спі́не) ~г** моро́з по ко́же (по спине́) пробежа́л.

**ПРАБЕ́ГЧЫСЯ** *сов. в разн. знач.* пробежа́ться; **ён злез з сане́й і ~гся** он слез с сане́й и пробежа́лся; **п. па клавіяту́ры** пробежа́ться по клавиату́ре.

**ПРАБЕ́ЖКА** *ж.* пробе́жка.

**ПРАБЕ́Л, -лу** *м.* пробе́л.

**ПРАБЕ́ЛЕНЫ** пробелённый; **~нае палатно́** пробелённое полотно́.

**ПРАБЕ́ЛКА** *ж.* пробе́лка.

**ПРАБЕ́ЛЬВАННЕ** *ср.* пробе́ливание, пробе́лка *ж.*

**ПРАБЕ́ЛЬВАЦЦА** *несов.* **1.** *(о холсте, бумаге и т. п.)* пробе́ливаться; **2.** *страд.* пробе́ливаться; *см.* **прабе́льваць.**

**ПРАБЕ́ЛЬВАЦЬ** *несов.* пробе́ливать.

**ПРАБЕ́ЛЬНАЯ** *сущ. тех.* пробе́льная.

**ПРАБЕ́ЛЬНЫ** I *(к* **прабе́лка, прабе́льванне)** пробе́льный; **п. цэх** пробе́льный цех.

**ПРАБЕ́ЛЬНЫ** II *(к* **прабе́л)** *тип.* пробе́льный.

**ПРАБІВА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* пробива́емость.

**ПРАБІВА́ННЕ** *ср.* **1.** пробива́ние, проби́вка *ж.;* прола́мывание, продыря́вливание; **2.** нака́лывание; проса́живание; **3.** прока́лывание, протыка́ние; 1—3 *см.* **прабіва́ць.**

**ПРАБІВА́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* пробива́ться; *(проделываться — об отверстии — ещё)* прола́мываться, продыря́вливаться; **2.** *(наткнувшись на колючее, получать повреждение)* напа́рываться; нака́лываться; 1, 2 *см.* **прабі́цца; 3.** *страд.* пробива́ться; прола́мываться, продыря́вливаться; нака́лываться, проса́живаться; прока́лываться, протыка́ться, пронза́ться; *см.* **прабіва́ць.**

**ПРАБІВА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* пробива́ть; *(проделывать отверстие — ещё)* прола́мывать, продыря́вливать; **2.** *(повреждать уколом)* нака́лывать; проса́живать; **3.** прока́лывать, протыка́ть, пронза́ть.

**ПРАБІ́ВАЧНЫ** *спец.* проби́вочный.

**ПРАБІ́РАВАННЕ** *ср. спец.* пробирование.

**ПРАБІ́РАВАНЫ** *спец.* проби́рованный.

**ПРАБІ́РАВАЦЦА** *несов. страд. спец.* пробирова́ться.

**ПРАБІ́РАВАЦЬ** *несов. спец. в разн. знач.* проби́ровать.

**ПРАБІРА́ННЕ** *ср. разг.* отчи́тывание; прорабо́тывание, прорабо́тка *ж.;* пропеча́тывание *см.* **прабіра́ць** 2.

**ПРАБІРА́ЦЦА** *несов.* **1.** *(с трудом проходить)* пробира́ться; **2.** *(попадать вутрь)* пробира́ться, проника́ть; 1, 2 *см.* **прабра́цца; 3.** *страд.* пробира́ться; отчи́тываться; прораба́тываться; пропеча́тываться; *см.* **прабіра́ць** 2, 3.

**ПРАБІРА́ЦЬ** *несов.* **1.** *(о морозе)* пробира́ть, пронима́ть, прохва́тывать; **2.** *разг. (бранить)* пробира́ть, отчи́тывать; *(критиковать — ещё)* прораба́тывать; *(в печати — ещё)* пропеча́тывать; **3.** *(проделывать узкую полосу или отверстие в чём-л.)* пробира́ть; 1—3 *см.* **прабра́ць.**

**ПРАБІ́РАЧНЫ** проби́рочный.

**ПРАБІ́РКА** *ж.* проби́рка.

**ПРАБІ́РНЫ** *спец.* проби́рный; **~нае кляймо́** проби́рное клеймо́; **~ная спра́ва** проби́рное де́ло; ○ **п. ка́мень** проби́рный ка́мень; **~ная пала́тка** *ист.* проби́рная пала́тка.

**ПРАБІ́РШЧЫК** *м.* проби́рщик.

**ПРАБІ́РШЧЫЦА** *ж.* проби́рщица.

**ПРАБІТНЫ́** *разг. см.* **прабіўны́** 2.

**ПРАБІ́ТЫ** **1.** *в разн. знач.* проби́тый; проло́мленный, продыря́вленный; **2.** нако́лотый, проса́женный; **3.** проко́лотый, про́ткнутый, пронзённый; 1—3 *см.* **прабі́ць.**

**ПРАБІ́ЎКА** *ж. спец. в разн. знач.* проби́вка.

**ПРАБІЎНЫ́** **1.** *спец.* пробивно́й; **2.** *(энергичный)* пробивно́й; расторо́пный.

**ПРАБІ́ЦЦА** *сов.* **1.** *в разн. знач.* проби́ться; *(проделаться — об отверстии — ещё)* пролом́иться, продыря́виться; **п. праз гушча́р** проби́ться сквозь ча́щу; **рака́ ~бі́лася праз ска́лы** река́ проби́лась сквозь ска́лы; **у дне ~бі́лася дзі́рка** в дне пролом́илась ды́рка; **~бі́лася зялёная траві́ца** проби́лась зелёная тра́вка; **2.** *(наткнувшись на колючее, получить повреждение)* наколо́ться; напоро́ться; **каро́ва ~бі́лася на сук** коро́ва напоро́лась (наколо́лась) на сук; ◊ **п. ў лю́дзі** проби́ться в лю́ди; **не п.** не проби́ться.

**ПРАБІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* проби́ть; *(проделать отверстие — ещё)* пролом́ить, продыря́вить; **п. сцяну́** проби́ть (пролом́ить) сте́ну; **п. даро́гу праз лес** проби́ть доро́гу че́рез лес; **гадзі́ннік ~біў пало́ву пе́ршай** часы́ проби́ли полови́ну пе́рвого; **п. мяч** проби́ть мяч; **2.** *(повредить уколом)* наколо́ть, просади́ть; **п. нагу́** наколо́ть (просади́ть) но́гу; **3.** проколо́ть. проткну́ть, пронзи́ть; ◊ **п. сабе́ даро́гу** проби́ть себе́ доро́гу (путь); **гарма́тай не ~б'еш** пу́шкой не прошибёшь; **ілбо́м сцяну́ не ~б'еш** *посл.* лбом сте́ну не прошибёшь.

**ПРАБЛЕ́МА** *ж.* пробле́ма.

**ПРАБЛЕМА́ТЫКА** *ж.* проблема́тика.

**ПРАБЛЕМАТЫ́ЧНА** *нареч.* проблемати́чески; предположи́тельно.

**ПРАБЛЕМАТЫ́ЧНАСЦЬ** *ж.* проблемати́чность; предположи́тельность.

**ПРАБЛЕМАТЫ́ЧНЫ** проблемати́ческий, проблемати́чный; предположи́тельный.

**ПРАБЛЕ́МНА-АРЫЕНТАВА́НЫ** пробле́мно-ориенти́рованный.

**ПРАБЛЕ́МНАСЦЬ** *ж.* пробле́мность.

**ПРАБЛЕ́МНЫ** пробле́мный.

**ПРАБЛІ́СКАЦЬ** *сов.* проблесте́ть, проблиста́ть, просверка́ть; **~кала мала́нка** просверка́ла мо́лния.

**ПРАБЛІ́СКВАЦЬ** *несов. прям., перен.* проблёскивать, пробле́скивать; *см.* **прабліснуць.**

**ПРАБЛІ́СНУ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* проблесну́ть; **праз хма́ры ~ну́ла со́нца** сквозь ту́чи проблесну́ло со́лнце; **ра́дасць ~ну́ла ў вача́х** ра́дость проблесну́ла в глаза́х.

**ПРАБЛІШЧА́ЦЬ** *сов.* проблесте́ть, проблиста́ть, просверка́ть.

**ПРАБЛУДЗІ́ЦЬ** *сов.* проплута́ть, проблужда́ть.

**ПРАБЛУКА́ЦЬ** *сов.* **1.** пробро́дить; **2.** *(в поисках дороги)* проплута́ть, проблужда́ть, прокружи́ть; **3.** *(пространствовать)* проблужда́ть; проскита́ться.

**ПРАБЛЫ́ТАЦЦА** *сов. разг.* прослоня́ться; проблужда́ть.

**ПРАБЛЯЯ́ЦЬ** *сов.* пробле́ять.

**ПРАБО́ІНА** *ж.* пробо́ина.

**ПРАБО́Й** *м.* **1.** *род.* **-бо́ю** *спец. (действие)* пробо́й; **п. дыэле́ктрыка** пробо́й диэле́ктрика; **2.** *род.* **-бо́я** пробо́й, скоба́ *ж.*; **п. для замка́** пробо́й для замка́.

**ПРАБО́ЙКА** *ж. (ручной инструмент)* пробо́йка.

**ПРАБО́ЙНІК** *м. тех.* пробо́йник.

**ПРАБО́ЙНЫ** пробо́йный; **~нае ко́льца** пробо́йное кольцо́.

**ПРАБО́Р** *м.* пробо́р; **прамы́ п.** прямо́й пробо́р; **ко́сы п.** косо́й пробо́р; **англі́йскі п.** англи́йский пробо́р.

**ПРАБО́РКА** *ж. разг. (выговор)* пробо́рка; нахлобу́чка, нагоня́й *м.*; **даць прабо́рку** дать пробо́рку (нахлобу́чку, нагоня́й).

**ПРАБО́ЎТАЦЦА** *сов. разг. (нек-рое время)* поплеска́ться, побара́хтаться.

**ПРАБО́ЎТАЦЬ** *сов. (о жидкости)* проболта́ть.

**ПРАБРАЗГАТА́ЦЬ** *сов. разг.* продребезжа́ть; *(чем-л. металлическим)* прозвя́кать, пробренча́ть.

**ПРАБРАЗГАЦЕ́ЦЬ** *сов. разг. см.* **прабразгата́ць.**

**ПРАБРА́ЗГАЦЬ** *сов.* прогреме́ть; прохло́пать; *(чем-л. металлическим)* прозвя́кать, проля́згать, пробренча́ть.

**ПРАБРА́НЫ** **1.** про́бранный, про́нятый, прохва́ченный; **2.** *разг.* про́бранный, отчи́танный; прорабо́танный; пропеча́танный; **3.** про́бранный; 1—3 *см.* **прабра́ць.**

**ПРАБРАХА́ЦЦА** *сов. прост. (проговориться)* проболта́ться.

**ПРАБРАХА́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* проля́ять; **п. не́калькі разо́ў** проля́ять не́сколько раз; **саба́ка ~ха́ў усю́ ноч** соба́ка проля́яла всю ночь; **2.** *перен. груб.* проболта́ть, прочеса́ть языко́м.

**ПРАБРА́ЦЦА** *сов.* **1.** *(с трудом пройти)* пробра́ться; **п. праз нато́ўп** пробра́ться сквозь толпу́; **2.** *(попасть внутрь)* пробра́ться, прони́кнуть; **п. ў ха́ту праз акно́**

пробра́ться (прони́кнуть) в дом че́рез окно́.

**ПРАБРА́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** *(о морозе)* пробра́ть, проня́ть, прохвати́ть; **маро́з ~ра́ў мяне́ да касце́й** моро́з пробра́л (про́нял, прохвати́л) меня́ до косте́й; **2.** *разг. (выбранить)* пробра́ть, отчита́ть; *(раскритиковать — ещё)* прорабо́тать; *(в печати — ещё)* пропеча́тать; **п. у газе́це** прорабо́тать (пропеча́тать) в газе́те; **3.** *(сделать пробор)* пробра́ть.

**ПРАБРУКАВА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* промости́ть.

**ПРАБРЫВА́ЦЦА** *несов. страд.* пробрива́ться.

**ПРАБРЫВА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* пробрива́ть.

**ПРАБРЫ́НКАЦЬ** *сов. разг. в разн. знач.* пробренча́ть.

**ПРАБРЫСЦІ́** *сов. разг. (пройти по воде или по высокой траве)* пробрести́.

**ПРАБРЫ́ТЫ** пробри́тый.

**ПРАБРЫ́ЦЦА** *сов.* пробри́ться.

**ПРАБРЫ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* пробри́ть.

**ПРАБУБНІ́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** проби́ть в бу́бен; **2.** *перен.* пробубни́ть, пробормота́ть, проворча́ть.

**ПРАБУ́ДЖАНЫ** пробуждённый; *см.* **прабудзі́ць.**

**ПРАБУДЖА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* пробужда́ться; *см.* **прабудзі́цца, прабуджа́ць.**

**ПРАБУДЖА́ЦЬ** *несов.* пробужда́ть; *см.* **прабудзі́ць.**

**ПРАБУ́ДЖВАЦЦА** *несов. возвр., страд. см.* **прабуджа́цца.**

**ПРАБУ́ДЖВАЦЬ** *несов. см.* **прабуджа́ць.**

**ПРАБУДЖЭ́ННЕ** *ср.* пробужде́ние; *см.* **прабудзі́ць, прабудзі́цца.**

**ПРАБУДЗІ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* пробуди́ться; **~дзі́ліся надзе́і** пробуди́лись надёжды.

**ПРАБУДЗІ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* пробуди́ть; **п. акты́ўнасць** пробуди́ть акти́вность; **п. пачу́цці** пробуди́ть чу́вства.

**ПРАБУКСАВА́ЦЬ** *сов.* пробуксова́ть.

**ПРАБУКСІ́РАВАЦЬ** *сов.* пробукси́ровать.

**ПРАБУКСО́ЎВАННЕ** *сов.* пробуксо́вывание.

**ПРАБУКСО́ЎВАЦЬ** *несов.* пробуксо́вывать.

**ПРАБУКСО́ЎКА** *ж.* пробуксо́вка.

**ПРАБУ́РАНЫ** *тех.* пробурённый.

**ПРАБУРКАВА́ЦЬ** *сов. прям., перен.* проворкова́ть.

**ПРАБУРЧА́ЦЬ** *сов.* **1.** прорыча́ть, проворча́ть, проурча́ть; **саба́ка ~ча́ў** соба́ка прорыча́ла (проворча́ла); **2.** *разг. неодобр. (сердито пробормотать)* проворча́ть, пробурча́ть, пробрюзжа́ть; **3.** *в знач. безл. сказ.* проурча́ть.

**ПРАБУРЫ́ЦЬ** *сов. тех. в разн. знач.* пробури́ть.

**ПРАБУЦВЕ́ЦЬ** *сов.* протле́ть, прогни́ть.

**ПРАБЫВА́ННЕ** *ср.* пребыва́ние.

**ПРАБЫВА́ЦЬ** *несов. книжн.* пребыва́ть.

**ПРАБЫ́ЦЬ** *сов.* пробы́ть; **у го́радзе я ~бы́ў два дні** в го́роде я про́был

два дня; **п. тыдзень у адпачынку** пробы́ть неде́лю в о́тпуске.

**ПРАБЯГА́ЦЦА** *несов. страд.* пробега́ться; *см.* **прабяга́ць.**

**ПРАБЯГА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* пробега́ть; *см.* **прабе́гчы.**

**ПРАБЯЛІ́ЦЦА** *сов. спец. (о холсте, бумаге и т. п.)* пробели́ться.

**ПРАБЯЛІ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* пробели́ть; **п. цу́кар** пробели́ть са́хар; **п. дзве гадзі́ны** пробели́ть два часа́.

**ПРА́ВА** *ср. в разн. знач.* пра́во; **~вы чалаве́ка** права́ челове́ка; **мець п.** име́ть пра́во; ○ **усеагу́льнае вы́барчае п.** всео́бщее избира́тельное пра́во; **пасі́ўнае вы́барчае п.** пасси́вное избира́тельное пра́во; **~вы грамадзя́нства** права́ гражда́нства; **а́ўтарскае п.** а́вторское пра́во; **п. на пра́цу (на адпачы́нак, на адука́цыю)** пра́во на труд (на о́тдых, на образова́ние); **п. прыста́нішча** пра́во убе́жища; **дзяржа́ўнае п.** госуда́рственное пра́во; **прыго́ннае п.** крепостно́е пра́во; **ры́мскае п.** ри́мское пра́во; **магдэбу́ргскае п.** магдебу́ргское пра́во; **рэ́чавае п.** ве́щное пра́во; ◊ **кула́чнае п.** кула́чное пра́во; **сваё п. пра́віць** гнуть свою́ ли́нию; **на птушы́ных ~ва́х** на пти́чьих права́х; **пра́віць п.** управля́ть, распоряжа́ться.

**ПРАВААБАРО́НЦА** *м.* правозащи́тник.

**ПРАВААБАРО́НЧЫ** правозащи́тный; **~чая арганіза́цыя** правозащи́тная организа́ция.

**ПРАВААДНО́СІНЫ** *ед. нет юр.* правоотноше́ние *ср.*

**ПРАВААПАРТУНІСТЫ́ЧНЫ** *полит.* правооппортунисти́ческий.

**ПРАВААХО́ЎНІК** *м. (работник правоохранительных органов)* правоохрани́тель.

**ПРАВААХО́ЎНЫ** правоохрани́тельный; **~ныя о́рганы** правоохрани́тельные о́рганы.

**ПРАВАБАКО́ВЫ** правосторо́нний.

**ПРАВАБО́РАЦ, -рца** *м. выс.* правобо́рец.

**ПРАВАБЯРЭ́ЖЖА** *ср.* правобере́жье.

**ПРАВАБЯРЭ́ЖНЫ** правобере́жный.

**ПРАВАВЕ́Д** *м.* правове́д.

**ПРАВАВЕ́РНАСЦЬ** *ж. церк., перен.* правове́рность.

**ПРАВАВЕ́РНЫ** *в разн. знач.* правове́рный.

**ПРАВАВІ́К, -ка́** *м. разг.* правови́к.

**ПРАВАВЫ́** правово́й; **~ва́я свядо́масць** правово́е созна́ние; **п. пара́дак** правово́й поря́док; ○ **~ва́я дзяржа́ва** правово́е госуда́рство.

**ПРАВАГА́ЦЦА** *сов.* **1.** *(поколебаться)* прокача́ться; **2.** *перен.* проколеба́ться.

**ПРАВАГЕГЕЛЬЯ́НЕЦ, -нца** *м. филос.* правогегелья́нец.

**ПРАВАДЗЕ́ЙНЫ: п. член** *чаго* действи́тельный член *чего*; **п. член акадэ́міі наву́к** действи́тельный член акаде́мии нау́к.

**ПРАВАДНІ́К** I, **-ка́** *м.* проводни́к; *(для охраны или указания пути — ещё)* провожа́тый; **п. ваго́на** проводни́к ваго́на; **п. экспеды́цыі** проводни́к (провожа́тый) экспеди́ции.

**ПРАВАДНІ́К** II, **-ка́** *м. прям., перен.* проводни́к; **п. электры́чнасці** проводни́к электри́чества; **тэа́тр — п. культу́ры** теа́тр — проводни́к культу́ры.

**ПРАВАДНІ́ЦА** *ж.* проводни́ца; *(для охраны или указания пути — ещё)* провожа́тая.

**ПРАВАДЫ́Р, -ра́** *м.* **1.** *(руководитель общественного движения, партии)* вождь; **2.** *(тот, кому принадлежит руководство группой лиц)* предводи́тель.

**ПРАВАДЫ́РКА** *ж.* предводи́тельница.

**ПРАВАДЫ́РСКІ** предводи́тельский.

**ПРАВАДЫ́РСТВА** *ср.* руково́дство, предводи́тельство.

**ПРАВАДЫ́РСТВАВАЦЬ** *(у каго) несов. (редко)* предводи́тельствовать *(кем).*

**ПРАВАЁВАНЫ** *разг. см.* **праваява́ны.**

**ПРАВАЖДА́ЦЦА** *сов. разг.* провози́ться, проканите́литься, прова́ландаться.

**ПРАВАЗДО́ЛЬНАСЦЬ** *юр.* правоспосо́бность.

**ПРАВАЗДО́ЛЬНЫ** *юр.* правоспосо́бный.

**ПРАВАЗІ́ЦЦА** *сов. (катаясь)* proката́ться.

**ПРАВАЗІ́ЦЬ** *сов.* провози́ть; **цэ́лы дзень ~зі́ў дро́вы** це́лый день провози́л дрова́.

**ПРАВАЗНА́ВЕЦ, -на́ўца** *м.* правове́д.

**ПРАВАЗНА́ЎСТВА** *ср.* правове́дение.

**ПРАВАЗНА́ЎЦА** *м. см.* **правазна́вец.**

**ПРАВАЗНЫ́** провозно́й.

**ПРАВАКАВА́ННЕ** *ср.* провоци́рование.

**ПРАВАКАВА́НЫ** провоци́рованный.

**ПРАВАКАВА́ЦЦА** *несов. страд.* провоци́роваться.

**ПРАВАКАВА́ЦЬ** *несов.* провоци́ровать.

**ПРАВАКА́ТАР** *м.* провока́тор.

**ПРАВАКА́ТАРКА** *ж.* провока́торша.

**ПРАВАКА́ТАРСКІ** провока́торский.

**ПРАВАКАЦЫ́ЙНА** *нареч.* провокацио́нно.

**ПРАВАКАЦЫ́ЙНЫ** провокацио́нный.

**ПРАВАКА́ЦЫЯ** *ж. в разн. знач.* провока́ция.

**ПРАВА́Л, -лу** *м. в разн. знач.* прова́л; **п. у гара́х** прова́л в гора́х; **п. пла́наў інтэрве́нтаў** прова́л пла́нов интерве́нтов; **п. у па́мяці** прова́л в па́мяти.

**ПРАВАЛАВО́ДЗІЦЦА** *сов. разг.* проволы́ниться, проканите́литься.

**ПРАВАЛАВО́ДЗІЦЬ** *сов. разг.* проволы́нить, проканите́лить.

**ПРАВАЛАКА́ЦЦА** *несов. страд. разг.* прота́скиваться, провола́киваться; продева́ться; протя́гиваться; *см.* **правалака́ць.**

**ПРАВАЛАКА́ЦЬ** *несов. разг.* **1.** прота́скивать, проволáкивать; **2.** *(сквозь что-л.)* продева́ть; протя́гивать.

**ПРАВАЛА́КВАЦЦА** *несов. страд. разг. см.* **правалака́цца.**

**ПРАВАЛА́КВАЦЬ** *несов. разг. см.* **правалака́ць.**

**ПРАВАЛАЧЫ́** *сов. разг.* **1.** протащи́ть, проволо́чь, проволочи́ть; **2.** *(сквозь что-л.)* проде́ть; протяну́ть.

**ПРАВАЛАЧЫ́СЯ** *сов. разг.* проволо́чься, проволочи́ться.

**ПРАВАЛАЧЫ́ЦЦА** *сов. разг.* **1.** пброди́ть, протаска́ться; **2.** *уст. (нек-рое время поухаживать)* проволочи́ться.

**ПРАВАЛАЧЫ́ЦЬ** *сов. (нек-рое время)* проволо́чь, протащи́ть.

**ПРАВА́ЛЕНЫ** *в разн. знач.* прова́ленный; *см.* **правалі́ць I.**

**ПРАВАЛІ́ЦЦА** *сов.* **1.** *в разн. знач.* провали́ться; **п. ў я́му** провали́ться в я́му; **мост ~лі́ўся** мост провали́лся; **куды́ ты ~лі́ўся?** куда́ ты провали́лся?; **п. на экза́мене** провали́ться на экза́мене; **усё пла́ны ~лі́ліся** все пла́ны провали́лись; **2.** *(о глазах)* впасть, ввали́ться, провали́ться; ◊ **гато́ў скрозь зямлю́ п.** гото́в сквозь зе́млю провали́ться; **як скрозь зямлю́ ~лі́ўся** как сквозь зе́млю провали́лся; **каб ты ~лі́ўся!** чтоб ты пропа́л!; **п. з трэ́скам** провали́ться с тре́ском.

**ПРАВАЛІ́ЦЬ** I *сов. в разн. знач.* провали́ть; **п. падло́гу** провали́ть пол; **п. экза́мен па матэма́тыцы** провали́ть экза́мен по матема́тике; **п. прапано́ву** провали́ть предложе́ние.

**ПРАВАЛІ́ЦЬ** II *сов. (нек-рое время — шерсть, войлок)* проваля́ть.

**ПРАВАЛО́ЧАНЫ** *разг.* **1.** прота́щенный, проволочённый, проволо́ченный; *см.* **правалачы́** 1.

**ПРАВАЛТУ́ЗІЦЦА** *сов. разг.* прово́зи́ться.

**ПРАВА́ЛЬВАННЕ** *ср.* прова́ливание, прова́л *м.*; **п. гле́бы** прова́л по́чвы.

**ПРАВА́ЛЬВАЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* прова́ливаться; **2.** *(о глазах)* впада́ть, вва́ливаться, прова́ливаться; 1, 2 *см.* **правалі́цца; 3.** *страд.* прова́ливаться; *см.* **правальва́ць.**

**ПРАВА́ЛЬВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* прова́ливаться; *см.* **правалі́ць** 1.

**ПРАВАЛЬСАВА́ЦЬ** *сов.* провальси́ровать.

**ПРАВАЛЭ́НДАЦЦА** *сов. разг.* **1.** проканите́литься; **2.** прова́ндаться, прослоня́ться, прошля́ться.

**ПРАВАЛЭ́НДАЦЬ** *сов. разг.* прова́ндаться, прослоня́ться, прошля́ться.

**ПРАВАЛЯ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* проваля́ться.

**ПРАВАМЕ́РНАСЦЬ** *ж.* правоме́рность.

**ПРАВАМЕ́РНЫ** правоме́рный.

**ПРАВАМО́ЦНАСЦЬ** *ж. юр.* правомо́чность.

**ПРАВАМО́ЦНЫ** *юр.* правомо́чный.

**ПРАВАМО́ЦТВА** *ср. юр.* правомо́чие.

**ПРАВАНДРАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(нек-рое время)* пропутеше́ствовать, простра́нствовать; **2.** *(провести нек-рое*

*время, скитаясь)* проброди́ть, проскита́ться.

**ПРАВАНСА́ЛЬ, -лю** *м. кул.* прованса́ль.

**ПРАВАНСА́ЛЬСКІ** прованса́льский.

**ПРАВА́НСКІ** прова́нский; **п. але́й** прова́нское ма́сло.

**ПРАВАПАРА́ДАК, -дку** *м. юр.* правопоря́док.

**ПРАВАПАРУША́ЛЬНІК** *м. юр.* правонаруши́тель.

**ПРАВАПАРУШЭ́ННЕ** *ср. юр.* правонаруше́ние.

**ПРАВАПЕРАЕ́МНАСЦЬ** *ж.* правопрее́мство.

**ПРА́ВАПІС, -су** *м.* правописа́ние *ср.*

**ПРАВАПІ́СНЫ** *(относящийся к правописанию)* орфографи́ческий; **~ная камі́сія** орфографи́ческая коми́ссия; **~ныя но́рмы** орфографи́ческие но́рмы.

**ПРАВАПНАВА́НЫ** *спец.* произвестко́ванный.

**ПРАВАПНАВА́ЦЬ** *сов. спец.* произвесткова́ть.

**ПРАВА́Р, -ру** *м. тех.* прова́р.

**ПРАВАРАЖЫ́ПЦЬ** *сов. (на картах)* прогада́ть, проворожи́ть.

**ПРАВА́РАНЫ** *в разн. знач.* прова́ренный.

**ПРАВА́РВАННЕ** *ср.* прова́ривание.

**ПРАВА́РВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* прова́риваться; *см.* **праварыцца, права́рваць.**

**ПРАВА́РВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* прова́ривать.

**ПРАВАРКАТА́ЦЬ** *сов. разг.* промурлы́кать.

**ПРАВАРО́НЕНЫ** *разг.* проворо́ненный, прохло́панный; *см.* **праваро́ніць.**

**ПРАВАРО́НІЦЬ** *сов. разг.* проворо́нить, проморга́ть, прошля́пить, прохло́пать; **п. зру́чны вы́падак** проворо́нить (проморга́ть) удо́бный слу́чай.

**ПРАВАРО́НЬВАЦЬ** *несов. разг.* проворо́нивать, прохло́пывать; *см.* **праваро́ніць.**

**ПРАВАРО́ЧАЦЦА** *сов. разг.* проворо́чаться.

**ПРАВАРО́ЧАЦЬ** *сов. разг.* проворо́чать.

**ПРАВАРО́ЧВАЦЦА** *несов. страд. прост.* провёртываться, провора́чиваться; *см.* **праваро́чваць.**

**ПРАВАРО́ЧВАЦЬ** *несов. прост. (быстро делать что-л.)* провёртывать, провора́чивать.

**ПРАВАРТАВА́НЫ** прокара́уленный, простороже́нный, простереже́нный.

**ПРАВАРТАВА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* прокара́улить, просторожи́ть, простере́чь; **п. усю́ ноч** прокара́улить (просторожи́ть, простере́чь) всю ночь; **п. злю́дзея** прокара́улить (просторожи́ть, простере́чь) во́ра.

**ПРАВАРЫ́НА** *ж. обл.* сто́йло *ср.*, стано́к *м.*

**ПРАВАРЫ́ННЫ** *обл.* сто́йловый, стано́чный.

**ПРАВАРЫ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* провари́ться.

**ПРАВАРЫ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* провари́ть; **ры́бу трэ́ба як след п.** ры́бу на́до как сле́дует провари́ть;

**усю ра́ніцу п. варэ́нне** всё у́тро проварить варе́нье; **п. шво** *тех.* провари́ть шов.

**ПРАВАСВЯДО́МАСЦЬ** *ж. книжн.* правосозна́ние *ср.*

**ПРАВАСКАВА́НЫ** провощённый.

**ПРАВАСКАВА́ЦЦА** *сов.* пропита́ться во́ском.

**ПРАВАСКАВА́ЦЬ** *сов.* провощи́ть.

**ПРАВАСКО́ЎВАННЕ** *ср.* прова́щивание.

**ПРАВАСКО́ЎВАЦЦА** *несов.* **1.** пропи́тываться во́ском; **2.** *страд.* прова́щиваться.

**ПРАВАСКО́ЎВАЦЬ** *несов.* прова́щивать.

**ПРАВАСЛА́ЎЕ** *ср.* правосла́вие.

**ПРАВАСЛА́ЎНАЯ** *сущ.* правосла́вная.

**ПРАВАСЛА́ЎНЫ 1.** *прил.* правосла́вный; **2.** *в знач. сущ.* правосла́вный.

**ПРАВАСТРЫ́ЦЬ** *сов. (нек-рое время)* проточи́ть.

**ПРАВАСУ́ДДЗЕ** *ср.* правосу́дие.

**ПРАВАСУ́ДНЫ** правосу́дный.

**ПРАВАСХАДЗІ́ЦЕЛЬСТВА** *ср. ист., дипл.* превосходи́тельство.

**ПРАВАТА́** *ж.* правота́.

**ПРАВАФЛАНГО́ВЫ 1.** *прил.* правофланго́вый; **2.** *в знач. сущ.* правофланго́вый.

**ПРАВАЦЭНТРЫ́СЦКІ** правоцентри́стский.

**ПРАВАШЧЫ́ЦЦА** *сов.* пропита́ться во́ском.

**ПРАВАШЧЫ́ЦЬ** *сов.* провощи́ть.

**ПРАВАЭКСТРЭМІ́СЦКІ** правоэкстреми́стский.

**ПРАВАЯВА́НЫ** *разг.* провоёванный; *см.* **праваява́ць** 2.

**ПРАВАЯВА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(нек-рое время)* провоева́ть; **п. тры гады́** провоева́ть три го́да; **2.** *разг. (издержать на военные нужды)* провоева́ть; **п. усе́ гро́шы** провоева́ть все де́ньги.

**ПРАВЕ́ДАНЫ** прове́данный, навещённый; *см.* **праве́даць** 1.

**ПРАВЕ́ДАЦЬ** *сов.* **1.** *(каго)* прове́дать, навести́ть; наве́даться *(к кому)*; **п. ся́бра** прове́дать (навести́ть) прия́теля; **2.** *(о чём-л.)* прове́дать; **п. аб яго́ прыхо́дзе** прове́дать о его́ прихо́де.

**ПРАВЕ́ДВАННЕ** *ср.* **1.** прове́дывание; **2.** прове́дывание; 1, 2 *см.* **праве́дваць.**

**ПРАВЕ́ДВАЦЬ** *несов.* **1.** *(каго)* прове́дывать, навеща́ть; наве́дываться *(к кому)*; **2.** *(о чём-л.)* прове́дывать; 1, 2 *см.* **праве́даць.**

**ПРАВЕ́ДЗЕНЫ** *в разн. знач.* проведённый; *(совершённый — ещё)* произведённый; *см.* **праве́сці** 1.

**ПРА́ВЕДНА** *нареч. в разн. знач.* пра́ведно.

**ПРА́ВЕДНАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* пра́ведность.

**ПРА́ВЕДНІК** *м. в разн. знач.* пра́ведник; ◊ **спаць сном ~ка** спать сном пра́ведника.

**ПРА́ВЕДНІЦА** *ж. в разн. знач.* пра́ведница.

**ПРА́ВЕДНЫ** *в разн. знач.* пра́ведный.

**ПРАВЁЖ, -вяжу́** *м. ист.* правёж.

**ПРАВЕ́ЗЕНЫ** *в разн. знач.* провезённый; *см.* **праве́зці** 1.

**ПРАВЕ́ЗЦІ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* провезти́; **шафёр ~вёз мяне́ калля́**

*(быть воплощением каких-л. качеств)* олицетворя́ть; **у. ску́пасць** олицетворять ску́пость.

**УВАСКРАСА́ЦЬ** *несов. прям., перен.* воскреса́ть; *см.* **уваскраша́ць.**

**УВАСКРАША́ЦЦА** *несов. страд.* воскреша́ться; *см.* **уваскраша́ць.**

**УВАСКРАША́ЦЬ** *несов. прям., перен.* воскреша́ть; *см.* **уваскрэ́сіць.**

**УВАСКРАШЭ́ННЕ** *ср.* воскреше́ние.

**УВАСКРЭ́СЕННЕ** *ср. прям., перен.* воскресе́ние; *см.* **уваскраса́ць, уваскрэ́снуць.**

**УВАСКРЭ́СІЦЬ** *сов. прям., перен.* воскреси́ть; **яго́ ўжо не ўваскрэ́сіш** его́ уже́ не воскреси́шь; **у. во́браз у па́мяці** воскреси́ть о́браз в па́мяти.

**УВАСКРЭ́СЛЫ** *разг. прям., перен.* воскре́сший.

**УВАСКРЭ́СНУЦЬ** *сов. прям., перен.* воскре́снуть.

**УВАСКРЭ́ШАНЫ** *прям., перен.* воскрешённый.

**УВАСЛА́НЫ** *разг.* у́стланный.

**УВАСЛА́ЦЬ** *сов. разг.* устели́ть, устла́ть.

**УВАСО́БІЦЦА** *сов.* воплоти́ться; олицетвори́ться.

**УВАСО́БІЦЬ** *сов.* **1.** *(представить в образе живого существа)* олицетвори́ть; **у. пры́роду** олицетвори́ть приро́ду; **2.** *(выразить в вещественном образе)* воплоти́ть; олицетвори́ть; **у. ідэ́ю ў карці́не** воплоти́ть иде́ю в карти́не.

**УВАСО́БЛЕНЫ 1.** олицетворённый; **2.** воплощённый; олицетворённый; 1, 2 *см.* **увасо́біць.**

**УВАССА́НЫ** всо́санный, впи́танный.

**УВАССА́ЦЦА** *сов.* всоса́ться, впита́ться.

**УВАССА́ЦЬ** *сов.* всоса́ть, впита́ть; ◊ **у. з малако́м ма́церы** всоса́ть с молоко́м ма́тери.

**УВАСЬМЁХ** *нареч. (только о мужчинах или только о женщинах)* ввосьмеро́м.

**УВАСЬМЯРЫ́Х** *нареч. (о лицах разного пола или о существах ср. рода)* ввосьмеро́м.

**УВАТКА́НЫ 1.** во́тканный; **2.** на́тканный; **3.** у́тканный; за́тканный; **4.** изо́тканный; 1—4 *см.* **уватка́ць.**

**УВАТКА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(вставить посредством тканья)* воткать; **2.** *(изготовить тканьём какое-л. количество за определённое время)* натка́ть; **3.** *(покрыть сплошь тканым узором)* утка́ть; затка́ть; **4.** *(украсить посредством тканья)* изотка́ть.

**УВАТКНУ́ТЫ** во́ткнутый; вонзённый; вса́женный.

**УВАТКНУ́ЦЦА** *сов.* воткну́ться; вонзи́ться; всади́ться.

**УВАТКНУ́ЦЬ** *сов.* воткну́ть; *(что-л. острое — ещё)* вонзи́ть; всади́ть; ◊ **у. сваé тры гро́шы** су́нуть свой нос; **у. язы́к** встрять в разгово́р.

**УВАХО́Д** *м.* **1.** *род.* **увахо́ду** *(действие)* вход; **у. забаро́нены** вход запрещён; **2.** *род.* **увахо́да** *(место для прохода внутрь)* вход; **у. у буды́нак** вход в зда́ние.

**УВАХО́ДЖАННЕ** *ср.* вхожде́ние; *см.* **увахо́дзіць.**

**УВАХО́ДЗІНЫ, -дзін** *ед. нет разг.* новосе́лье *ср.*

**УВАХО́ДЗІЦЬ** *несов. в разн. знач.* входи́ть; *см.* **увайсці́ 1;** ◊ **(не) у. у пла́ны** *чые* (не) входи́ть в пла́ны *чьи.*

**УВАХО́ДНАЯ** *сущ. канц.* входя́щая.

**УВАХО́ДНЫ 1.** входно́й; **у. біле́т** входно́й биле́т; **~ныя дзве́ры** входна́я дверь; **2.** *канц.* входя́щий.

**УВАЧАВІ́ДКІ** *нареч.* **1.** на глаза́х; **даро́га ўвачаві́дкі падсыха́ла** доро́га на глаза́х подсыха́ла; **2.** воо́чию; **уба́чыць (упэўніцца) у.** уви́деть (убеди́ться) воо́чию.

**УВАЧЧУ́: цёмна ўваччу́ ста́ла** в глаза́х потемне́ло; ◊ **хто баіцца, таму́ ўваччу́ дваіцца** *посл.* у стра́ха глаза́ велики́.

**УВЕ́ДАНЫ** у́знанный; по́знанный; *см.* **уве́даць.**

**УВЕ́ДАЦЬ** *сов.* узна́ть; позна́ть; ◊ **у., пачы́м фунт лі́ха** узна́ть, почём фунт ли́ха.

**УВЕ́ДВАННЕ** *ср.* узнава́ние; познава́ние; *см.* **уве́дваць.**

**УВЕ́ДВАЦЦА** *несов. страд.* узнава́ться; познава́ться; *см.* **уве́дваць.**

**УВЕ́ДВАЦЬ** *несов.* узнава́ть; познава́ть; *см.* **уве́даць.**

**УВЕ́ДЗЕНЫ 1.** *в разн. знач.* введённый; **2.** введённый; учреждённый; **3.** посвящённый; **4.** введённый; 1—4 *см.* **уве́сці.**

**УВЕ́ЗЕНЫ** ввезённый; *см.* **уве́зці.**

**УВЕ́ЗЦІ** *сов.* ввезти́; **у. калёсы ў хлеў** ввезти́ теле́гу в сара́й; **у. з-за мяжы́ тава́ры** ввезти́ из-за грани́цы това́ры.

**УВЕКАВЕ́ЧАННЕ** *ср.* увекове́чение; *см.* **увекаве́чыць.**

**УВЕКАВЕ́ЧАНЫ** увекове́ченный; *см.* **увекаве́чыць.**

**УВЕКАВЕ́ЧВАННЕ** *ср. (действие)* увекове́чивание; *см.* **увекаве́чваць.**

**УВЕКАВЕ́ЧВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* увекове́чиваться; *см.* **увекаве́чыцца, увекаве́чваць.**

**УВЕКАВЕ́ЧВАЦЬ** *несов.* увекове́чивать; *см.* **увекаве́чыць.**

**УВЕКАВЕ́ЧЫЦЦА** *сов.* увекове́читься.

**УВЕКАВЕ́ЧЫЦЬ** *сов.* увекове́чить; **у. па́мяць геро́я** увекове́чить па́мять геро́я.

**УВЕ́НЧАНЫ** *см.* **увянча́ны;** ◊ **у. ла́ўрамі** уве́нчанный ла́врами.

**УВЕ́НЧВАННЕ** *ср. (действие)* увенча́ние.

**УВЕ́НЧВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* уве́нчиваться; *см.* **увянча́цца, уве́нчваць.**

**УВЕ́НЧВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* уве́нчивать; *см.* **увянча́ць.**

**УВЕ́РАВАЦЬ** *сов.* уве́ровать.

**УВЕРАДЗІ́ЦЦА** *сов. (чаще в ирон. смысле)* уста́ть, утоми́ться.

**УВЕРАДЗІ́ЦЬ** *сов.* переутоми́ть рабо́той; натруди́ть.

**УВЕ́РСЕ** *нареч.* вверху́.

**УВЕ́РХ** *нареч. в разн. знач.* вверх; **у. па рацэ́** вверх по реке́; **на бе́разе ляжа́ла ло́дка, паве́рнутая ўверх дном** на берегу́ лежа́ла ло́дка, повёрнутая вверх дном; ◊ **пераваярну́ць усё ўверх дном** переверну́ть всё вверх дном.

**УВЕРЦЮ́РА** *ж. муз.* увертю́ра.

**УВЕ́РЧАНЫ** завёрнутый, увёрнутый.

**УВЕ́РЧВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* завёртываться, увёртываться; *см.* **увярцецца, уве́рчваць.**

**УВЕ́РЧВАЦЬ** *несов.* завёртывать, увёртывать.

**УВЕ́РЫЦЦА** *сов. разг.* уве́риться.

**УВЕ́РЫЦЬ** *сов. разг.* уве́ровать.

**УВЕ́СНУ** *нареч. см.* **вясно́й.**

**УВЕ́СЦІ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* ввести́; **у. каня́ ў хлеў** ввести́ ло́шадь в хлев; **у. ў сям'ю** ввести́ в семью́; **у. глюко́зу** ввести́ глюко́зу; **2.** *(установи́ть, завести)* ввести́; учреди́ть; **у. дзяжу́рства** ввести́ (учреди́ть) дежу́рство; **3.** *(познакомить с чем-л.)* посвяти́ть; **у. ў сваé пла́ны** посвяти́ть в свои́ пла́ны; **4.** *(сделать употребляемым или действующим)* ввести́; **у. мяч у гульню́** ввести́ мяч в игру́; **у. ў дзе́янне** ввести́ в де́йствие; ◊ **у. ў курс** *чаго* ввести́ в курс *чего;* **у. ў зман** ввести́ в обма́н; **у. ў злосць** разозли́ть; **у. ў ву́шы** *каму* подсказа́ть *кому,* надоу́мить *кого;* **у. ў строй** ввести́ в строй.

**УВЕ́СЬ,** *род.* **усяго́,** *дат.* **усяму́,** *вин.* **уве́сь, усяго́,** *твор., предл.* **усі́м;** *ж.* **уся́,** *ср.* **усё;** *мн.* **усé** *мест. опред. м. в разн. знач.* весь; **у. мо́кры** весь мо́крый; **у. твар пабялéў** всё лицо́ побеле́ло; **у. запа́с вы́йшаў** весь запа́с вы́шел; **патра́ціць усé гро́шы** израсхо́довать все де́ньги; ◊ **у. у** *каго* весь в *кого;* **на ўвесь го́лас** во весь го́лос; **на ўвесь рост** во весь рост; **у. час, праз у. час** всё вре́мя; **усяго́ найле́пшага** всего́ наилу́чшего; всех благ; **ад усёй душы́** от всей души́; **на ўсю іва́наўскую** во всю ива́новскую; **усяго́ до́брага!** всего́ хоро́шего!; **на ўсю сі́лу** что есть си́лы, что есть мо́чи; **банке́т на ўвесь свет** *погов.* пир на весь мир.

**УВЕ́ЧАР** *нареч.* ве́чером.

**УВЕ́ЧАРЫ** *нареч. см.* **уве́чар.**

**УВЕ́ШАНЫ** уве́шанный, обве́шанный; *см.* **уве́шаць.**

**УВЕ́ШАЦЦА** *сов.* уве́шаться, обве́шаться.

**УВЕ́ШАЦЬ** *сов.* уве́шать, обве́шать; **у. сцяну́ карці́намі** уве́шать (обве́шать) сте́ну карти́нами.

**УВЕ́ШВАЦЦА 1.** *несов.* уве́шиваться, обве́шиваться; *см.* **уве́шацца; 2.** *страд.* уве́шиваться, обве́шиваться; *см.* **уве́шваць.**

**УВЕ́ШВАЦЬ** *несов.* уве́шивать, обве́шивать; *см.* **уве́шаць.**

**УВЁРСТВАННЕ** *ср. тип.* **1.** *(действие)* вёрстка *ж.;* **2.** увёрстка *ж.;* 1, 2 *см.* **увёрстваць.**

**УВЁРСТВАЦЦА** *несов. тип.* **1.** увёрстываться; **2.** *страд.* вёрстываться; увёрстываться; *см.* **увёрстваць.**

**УВЁРСТВАЦЬ** *несов. тип.* **1.** вёрстывать; **2.** *(умещать)* увёрстывать.

**УВЁРСТКА** *ж. тип.* вёрстка; *см.* **увёрстваць** 1.

**УВІВА́ННЕ** *ср.* **1.** ввива́ние, вплета́ние; **2.** увива́ние; **3.** увива́ние; **4.** украше́ние, увива́ние; 1—4 *см.* **увіва́ць.**

**УВІВА́ЦЦА** *несов.* **1.** ввива́ться, вплета́ться; **2.** *(умещаться)* увива́ться; *см.* **уві́цца; 3.** *разг. (ухаживать)* увива́ться; **4.** *страд.* ввива́ться, вплета́ться; украша́ться; *см.* **увіва́ць.**

**УВІВА́ЦЬ** *несов.* **1.** ввива́ть, вплета́ть; **2.** *(обвивать)* увива́ть; **3.** *(наматывая, умещать)* увива́ть; **4.** украша́ть, увива́ть; 1—3 *см.* **уві́ць.**

**УВІЁЛЕВЫ** *физ.* увио́левый.

**УВІ́ЛЬВАННЕ** *ср.* увиливание, уска́льзывание.

**УВІ́ЛЬВАЦЬ** *несов. прям., перен.* увиливать, ускольза́ть, уска́льзывать; *см.* **увільну́ць.**

**УВІЛЬГАТНЕ́ННЕ** *ср.* увлажнение.

**УВІЛЬГАТНІЦЦА** *сов.* увлажни́ться.

**УВІЛЬГАТНІЦЬ** *сов.* увлажни́ть.

**УВІЛЬГАТНЯЛЬНІК** *м. тех.* увлажни́тель.

**УВІЛЬГАТНЯЦЦА** *несов. возвр., страд.* увлажня́ться.

**УВІЛЬГАТНЯЦЬ** *несов.* увлажня́ть.

**УВІЛЬГОТНЕНЫ** увлажнённый.

**УВІЛЬНУЦЬ** *сов. прям., перен.* увильну́ть, ускользну́ть; **у. ад уда́ру** увильну́ть от уда́ра; **у. ад прамо́га адка́зу** увильну́ть (ускользну́ть) от прямо́го отве́та.

**УВІНАЦЦА** *несов. страд.* завёртываться; *см.* **увіна́ць.**

**УВІНАЦЬ** *несов. разг. (во что-л.)* завёртывать.

**УВІНУЦЦА** *сов. разг. (во что-л.)* заверну́ться.

**УВІНУЦЬ** *сов. разг. (во что-л.)* заверну́ть.

**УВІТЫ 1.** вви́тый, вплетённый; **2.** уви́тый; **3.** уви́тый; 1—3 *см.* **уві́ць.**

**УВІХАЦЦА** *несов.* **1.** управля́ться, хлопота́ть; **гаспады́ня ўвіха́ецца каля́ пе́чы** хозя́йка управля́ется (хлопо́чет) о́коло пе́чи; **2.** *разг. (ухаживать)* увива́ться.

**УВІЦЦА** *сов.* **1.** вви́ться, вплести́сь; **2.** *(уместиться)* уви́ться.

**УВІЦЬ** *сов.* **1.** ввить, вплести́; **у. шаўко́вую ні́тку ў шнуро́к** ввить (вплести́) шёлковую ни́тку в шнуро́к; **2.** *(обвить)* уви́ть; **у. а́рку гірля́ндамі** уви́ть а́рку гирля́ндами; **3.** *(наматывая, уместить)* уви́ть; **у. усю́ пра́жу на верацяно́** уви́ть всю пря́жу на веретено́.

**УВІШНЫ** прово́рный, ло́вкий, вёрткий.

**УВОГУЛЕ** *нареч.* **1.** *(в целом)* вообще́, в о́бщей сло́жности; **2.** *в знач. вводн. сл.* вообще́, в о́бщем.

**УВОД** *м.* **1.** *род.* **уво́ду** *(действие)* ввод; *см.* **уво́дзіць** 1, 4; **2.** *род.* **уво́да** *(устройство)* ввод.

**УВОДЗІНЫ** *ед. нет* **1.** *(вступительная часть)* введе́ние *ср.*, вступле́ние *ср.;* **2.** *(предварительные сведения)* введе́ние *ср.;* **у. ў мовазна́ўства** введе́ние в языкозна́ние; **3.** *рел.* введе́ние.

**УВОДЗІЦЦА** *несов.* **1.** *церк.* вводи́ться; **2.** *страд.* вводи́ться; учрежда́ться; посвяща́ться; *см.* **уво́дзіць.**

**УВОДЗІЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* вводи́ть; **2.** *(устанавливать, заводить)* вводи́ть; учрежда́ть; **3.** *(знакомить с чем-либо)* посвяща́ть; **4.** *(делать употребляемым или действующим)* вводи́ть; 1—4 *см.* **увесці.**

**УВОДНЫ** *юр.* вво́дный; **у. ліст** вво́дный лист.

**УВОЗ, -зу** *м. в разн. знач.* ввоз.

**УВОЗІЦЦА** *несов. страд.* ввози́ться; *см.* **уво́зіць.**

**УВОЗІЦЬ** *несов.* ввози́ть; *см.* **увезці.**

**УВОЛЮ** *нареч.* вво́лю, вдо́воль.

**УВОСЕНЬ** *нареч.* о́сенью, по о́сени; ◊ **кураня́т у. лі́чаць** цыпля́т по о́сени счита́ют.

**УВОСЬМЕРА** *нареч.* вво́сьмеро.

**УВУЛЯРНЫ** *лингв.* увуля́рный.

**УВЫСЬ** *нареч. см.* **увышыню́.**

**УВЫШЫНЮ** *нареч.* ввысь.

**УВЯДЗЕННЕ** *ср.* **1.** введе́ние; **2.** введе́ние; учрежде́ние; **3.** введе́ние; 1—3 *см.* **уве́сці** 1, 2, 4.

**УВЯ́ЗАНЫ 1.** увя́занный; **2.** *перен. разг.* увя́занный, согласо́ванный; **3.** ввя́занный; 1—3 *см.* **увяза́ць** I.

**УВЯЗА́ЦЦА** *сов.* **1.** *в разн. знач.* увяза́ться; **рэ́чы до́бра ўвяза́ліся** ве́щи хорошо́ увяза́лись; **пла́ны до́бра ўвяза́ліся з мясцо́вымі ўмо́вамі** пла́ны хорошо́ увяза́лись с ме́стными усло́виями; **за на́мі ўвяза́ўся саба́ка** за на́ми увяза́лась соба́ка; **2.** *перен. разг. (вмешаться)* ввяза́ться; **у. ў бой** ввяза́ться в бой.

**УВЯЗА́ЦЬ** I *сов.* **1.** увяза́ть; **у. рэ́чы** увяза́ть ве́щи; **2.** *перен. разг.* увяза́ть, согласова́ть; **у. дзе́янні назе́мных войск з дзе́яннямі авія́цыі** увяза́ць (согласова́ть) де́йствия назе́мных войск с де́йствиями авиа́ции; **3.** *(вплести вязанием)* ввяза́ть; **у. каляро́вую пало́ску ў шкарпэ́тку** ввяза́ть цветну́ю поло́ску в носо́к.

**УВЯЗА́ЦЬ** II *несов.* **1.** *(в чём-л. вязком или тесном)* увяза́ть, завяза́ть; застрева́ть; **2.** *перен. разг.* увяза́ть; погряза́ть.

**УВЯ́ЗВАННЕ** *ср.* **1.** *(действие)* увя́зывание, увя́зка *ж.;* **2.** *перен. разг.* увя́зка *ж.,* увя́зывание, согласо́вывание; **3.** ввя́зывание; 1—3 *см.* **увя́зваць.**

**УВЯ́ЗВАЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* увя́зываться; **2.** *перен. разг. (вмешиваться)* ввя́зываться; 1, 2 *см.* **увяза́цца;** **3.** *страд.* увя́зываться; согласо́вываться; ввя́зываться; *см.* **увя́зваць.**

**УВЯ́ЗВАЦЬ** *несов.* **1.** увя́зывать; **2.** *перен. разг.* увя́зывать, согласо́вывать; **3.** *(вплетать вязанием)* ввя́зывать; 1—3 *см.* **увяза́ць** 1.

**УВЯ́ЗКА** *ж.* увя́зка.

**УВЯ́ЗНУЦЬ** *сов.* **1.** *(в чём-л. вязком или тесном)* увя́знуть, завя́знуть; застря́ть; **2.** *перен. разг. (оказаться в затруднительном положении)* увя́знуть; погря́знуть; **у. у даўга́х** увя́знуть (погря́знуть) в долга́х.

**УВЯНЧА́ННЕ** *ср.* увенча́ние; *см.* **увянча́ць.**

**УВЯНЧА́НЫ** *в разн. знач.* уве́нчанный; *см.* **увянча́ць.**

**УВЯНЧА́ЦЦА** *сов.* увенча́ться; **у. по́спехам** увенча́ться успе́хом.

**УВЯНЧА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* увенча́ть; **у. прэ́міяй ле́пшы твор маста́цтва** увенча́ть пре́мией лу́чшее произведе́ние иску́сства; **у. буды́нак ве́жай** увенча́ть зда́ние ба́шней.

**УВЯРНУ́ЦЬ** *сов.* ввали́ть; **у. камяні́ ў я́му** ввали́ть ка́мни в я́му.

**УВЯРСТА́НЫ** *тип.* **1.** ввёрстаный; **2.** увёрстанный; *см.* **увярста́ць** 2.

**УВЯРСТА́ЦЦА** *сов. тип.* уверста́ться.

**УВЯРСТА́ЦЬ** *сов. тип.* **1.** вверста́ть; **2.** *(уместить)* уверста́ть.

**УВЯРЦЕ́ЦЦА** *сов.* заверну́ться, уверну́ться.

**УВЯРЦЕ́ЦЬ** *сов.* заверну́ть, уверну́ть.

**УВЯРЭ́ДНІК, -ку** *м. бот.* мы́тник.

**УВЯСНУ́** *нареч. см.* **вясно́й.**

**УГА́** *межд.* ого́; **уга́, во які́ госць у нас!** ого́, вот како́й гость у нас!

**УГАВАРЫ́ЦЦА** *сов.* **1.** уговори́ться, договори́ться; **2.** *разг.* оговори́ться.

**УГАВАРЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** уговори́ть; убеди́ть; урезо́нить; склони́ть; **2.** успоко́ить, уте́шить; **у. дзіця́** успоко́ить (уте́шить) ребёнка.

**УГАВО́Р, -ру** *м.* **1.** угово́р, увеща́ние *ср.;* **не паддава́цца нія́кім ~рам** не поддава́ться никаки́м угово́рам (увеща́ниям); **2.** угово́р; согла-

шéние *ср.;* **дзéйнічаць па ўгавóру** дéйствовать по уговóру; ◊ **у. даражэ́й за грóшы** уговóр дорóже дéнег.

**УГАВÓРАНЫ** **1.** уговорённый; убеждённый; урезóненный; склонённый; **2.** успокóенный, утéшенный; 1, 2 *см.* **угаварыць.**

**УГАВÓРВАННЕ** *ср.* **1.** *(действие)* уговóр *м.,* уговáривание; убеждéние, урезóнивание; увещáние; **2.** успокáивание, утешéние.

**УГАВÓРВАЦЦА** *несов.* **1.** уговáриваться, договáриваться, *см.* **угаварыцца** 1; **2.** *страд.* уговáриваться; убеждáться; урезóниваться; склоняться; успокáиваться; *см.* **угавóрваць.**

**УГАВÓРВАЦЬ** *несов.* **1.** уговáривать; убеждáть; урезóнивать; увещáть; увещевáть; склонять; **2.** успокáивать, утешáть.

**УГАВÓРНЫ** увещáтельный.

**УГАВÓРШЧЫК** *м.* увещáтель, уговóрщик.

**УГАДÁНЫ** угáданный; *см.* **угадáць.**

**УГАДÁЦЬ** *сов. в разн. знач.* угадáть; **у. настрóй** угадáть настроéние; **у. надвóр'е** угадáть погóду; **у ім лёгка ўгадáць геóлага** в нём легкó угадáть геóлога.

**УГÁДВАННЕ** *ср.* угáдывание; *см.* **угáдваць.**

**УГÁДВАЦЦА** *несов.* **1.** *(намечаться)* угáдываться; **у цéмры ледзь ~валіся абрысы стадыёна** в темнотé éле угáдывались очертáния стадиóна; **2.** *страд.* угáдываться; *см.* **угáдваць.**

**УГÁДВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* угáдывать; *см.* **угадáць.**

**УГАДЗÍЦЬ** *сов.* угодить.

**УГÁДЧЫК** *м. разг.* угáдчик.

**УГÁДЧЫЦА** *ж. разг.* угáдчица.

**УГАÍЦЬ** *сов.* заживить, излечить.

**УГАЙДÁЦЦА** *сов. разг.* укачáться.

**УГАЙДÁЦЬ** *сов. разг.* укачáть.

**УГАЛÓП** *нареч.* галóпом.

**УГАМАВÁННЕ** *ср. обл.* **1.** усмирéние; **2.** укрощéние, обуздáние; 1, 2 *см.* **угамавáць.**

**УГАМАВÁНЫ** *обл.* **1.** утихомиренный, усмирённый; **2.** укрощённый, обýзданный; 1, 2 *см.* **угамавáць.**

**УГАМАВÁЦЦА** *сов. обл.* *(успокоиться)* утихомириться, уходиться.

**УГАМАВÁЦЬ** *сов. обл.* **1.** *(успокоить)* утихомирить, усмирить; **2.** укротить, обуздáть.

**УГАМАНÍЦЦА** *сов. разг.* угомониться.

**УГАМАНÍЦЬ** *сов. разг.* угомонить.

**УГАМÓН** *м.:* **угамóну нямá** нет угомóну.

**УГАМÓНЬВАЦЦА** *несов. возвр., страд. разг.* угомоняться.

**УГАМÓНЬВАЦЬ** *несов. разг.* угомонять.

**УГАМÓЎВАЦЦА** *несов. обл.* **1.** *(успокаиваться)* утихомириваться, **2.** *страд.* утихомириваться, усмиряться, обýздываться; *см.* **угамóўваць.**

**УГАМÓЎВАЦЬ** *несов. обл.* **1.** *(успокаивать)* утихомиривать, усмирять; **2.** укрощáть, обýздывать.

**УГАНЯЦЦА** I *несов. страд.* вгоняться; вбивáться, вколáчиваться; *см.* **уганяць.**

**УГАНЯЦЦА** II *несов.* **1.** *(за чым) разг.* быть любителем *(чего),* быть

па́дким *(на что)*; **2.** *прост.* бе́гать, уха́живать.

**УГАНЯ́ЦЬ** *несов.* **1.** *прям., перен.* вгоня́ть; **2.** вгоня́ть, вбива́ть, вкола́чивать; 1, 2 *см.* **увагна́ць.**

**УГА́Р, -ру** *м. спец.* уга́р.

**УГАРАДЗІ́ЦЬ** *сов.* **1.** огороди́ть; **2.** *(в свою пользу)* оттороди́ть.

**УГА́РВАЦЦА** *несов.* разгора́ться; *см.* **угарэ́цца.**

**УГА́РВАЦЬ** *несов.* *(уменьшаться при горении, плавке)* угора́ть.

**УГАРНУ́ЦЬ** *сов.* **1.** загрести́; **у. по́пел у печ** загрести́ золу́ в пе́чку; **2.** *(у што)* заверну́ть, оберну́ть *(чем)*, обверну́ть *(чем)*; **у. цвікі́ ў папе́ру** заверну́ть гво́зди в бума́гу; обверну́ть (оберну́ть) гво́зди бума́гой.

**УГА́РНЫ** *спец.* уга́рный.

**УГАРУ́** *и* **УГО́РУ** *нареч. разг.* вверх, кве́рху; **шар падня́ўся ўгару́** шар подня́лся вверх (кве́рху); ◊ **ісці́ ўгару́** идти́ в го́ру; **ла́пкі ўго́ру** ла́пки вверх.

**УГАРЫ́** *нареч.* вверху́; наверху́.

**УГАРЭ́ЦЦА** *сов.* разгоре́ться; **дро́вы ўгарэ́ліся** дрова́ разгоре́лись.

**УГАРЭ́ЦЬ** *сов.* *(уменьшиться при горении, плавке)* угоре́ть.

**УГАЦІ́ЦЬ** *сов.* **1.** вложи́ть в гать; **2.** *разг.* *(израсходовать всё, многое)* ухло́пать; вбу́хать; **у. усе́ гро́шы** ухло́пать все де́ньги; **у. усё ма́сла ў кацёл** вбу́хать всё ма́сло в котёл.

**УГІ́Н, -ну** *м.* вгиб, проги́б.

**УГІНА́ННЕ** *ср.* вгиба́ние, прогиба́ние.

**УГІНА́ЦЦА** *несов.* **1.** вгиба́ться, прогиба́ться; **2.** *(под тяжестью чего-л.)* сгиба́ться; склоня́ться; **3.** *страд.* вгиба́ться; прогиба́ться; *см.* **угіна́ць** 1.

**УГІНА́ЦЬ** *несов.* **1.** вгиба́ть, прогиба́ть; **2.** пону́ривать, опуска́ть; 1, 2 *см.* **увагну́ць** 1, 2.

**УГЛЕ́ДЖАНЫ** **1.** заме́ченный, уви́денный; **2.** усмо́тренный; 1, 2 *см.* **угле́дзець.**

**УГЛЕ́ДЗЕЦЦА** *сов.* **1.** всмотре́ться, вгляде́ться; **2.** *(устремить взор)* уста́виться; **3.** *разг.* уви́деться, встре́титься.

**УГЛЕ́ДЗЕЦЬ** *сов.* **1.** заме́тить, уви́деть, зави́деть; **2.** *(установить, найти)* усмотре́ть; **у. сур'ёзную памы́лку ў дакла́дзе** усмотре́ть серьёзную оши́бку в докла́де.

**УГЛЫ́Б** *нареч. см.* **углыбіню́.**

**УГЛЫБІНЮ́** *нареч.* вглубь.

**УГЛЫ́БІЦЦА** *сов. в разн. знач.* углуби́ться; **у. ў зямлю́** углуби́ться в зе́млю; **у. ў лес** углуби́ться в лес; **у. ў кні́гу** углуби́ться в кни́гу.

**УГЛЫБЛЯ́ЦЦА** *несов. в разн. знач.* углубля́ться; **см. углы́біцца.**

**УГЛЯДА́ННЕ** *ср.* всма́тривание, вгля́дывание.

**УГЛЯДА́ЦЦА** *несов.* **1.** всма́триваться, вгля́дываться; **2.** *(устремлять взор)* уставля́ться.

**УГЛЯ́ДВАЦЦА** *несов.* *см.* **угляда́цца.**

**УГЛЯДЗЕ́ЦЦА** *сов.* всмотре́ться, присмотре́ться; **калі́ до́бра ўглядзе́цца, дык мо́жна заўва́жыць** е́сли хороше́нько всмотре́ться (присмотре́ться), то мо́жно заме́тить.

**УГНАЕ́ННЕ** *ср. в разн. знач.* удобре́ние; **право́дзіць у. палёў** проводи́ть удобре́ние поле́й; **аргані́чныя ўгнае́нні** органи́ческие удобре́ния.

**УГНАІЦЦА** *сов. (улучшиться от внесения удобрений)* утучниться.

**УГНАІЦЬ** *сов.* унавозить, удобрить, утучнить.

**УГНАЦЦА** *сов. прям., перен.* угнаться.

**УГНЕВАНЫ** разгнёванный, прогнёванный.

**УГНЕВАЦЦА** *сов.* разгнёваться, прогнёваться.

**УГНІЦЦА** *сов.* сильно прогнить; сильно загноиться.

**УГНОЕНЫ** унавоженный, удобренный, утучнённый.

**УГНОЙВАННЕ** *ср.* унавоживание, удобрение, удабривание, утучнение.

**УГНОЙВАЦЦА** *несов.* **1.** *(улучшаться от внесения удобрений)* утучняться; **2.** *страд.* унавоживаться, удобряться, утучняться; *см.* **угнойваць.**

**УГНОЙВАЦЬ** *несов.* унавоживать, удобрять, утучнять.

**УГНУТАСЦЬ** *ж. см.* **увагнутасць.**

**УГНУТЫ** *см.* **увагнуты.**

**УГНУЦЦА** *сов. см.* **увагнуцца.**

**УГНУЦЬ** *сов. см.* **увагнуць.**

**УГНЯВІЦЦА** *сов. см.* **угневацца.**

**УГНЯВІЦЬ** *сов.* **1.** разгнёвать, прогнёвать; **2.** обидеть, разобидеть.

**УГНЯЗДЗІЦЦА** *сов. разг.* угнездиться.

**УГОДДЗЕ** *ср.* угодье.

**УГОДКІ, -каў** *ед. нет уст.* годовщина *ж. (обычно со дня смерти).*

**УГОДЛІВА** *нареч.* угодливо.

**УГОДЛІВАСЦЬ** *ж.* угодливость.

**УГОДЛІВЫ** угодливый.

**УГОДНІК** *м. в разн. знач.* угодник.

**УГОДНІЦА** *ж. в разн. знач.* угодница.

**УГОДНІЦТВА** *ср.* угодничество.

**УГОДНІЧАЦЬ** *несов.* угодничать.

**УГОЕНЫ** заживлённый, излёченный.

**УГОЙВАЦЬ** *несов.* заживлять, излёчивать.

**УГОЙДВАЦЦА** *несов. разг. (от качки)* укачиваться.

**УГОЛАС** *нареч.* **1.** вслух; **чытаць у.** читать вслух; **2.** *(нарочито громко)* во всеуслышание, громогласно.

**УГОН, -ну** *м. ж.-д.* угон.

**УГОРНУТЫ** **1.** загребённый; **2.** *(у што)* завёрнутый, обвёрнутый *(чем),* обёрнутый *(чем);* 1, 2 *см.* **угарнуць.**

**УГОРТВАННЕ** *ср.* **1.** загребание; **2.** *(у што)* завёртывание, обёртывание, обвёртывание *(чем);* 1, 2 *см.* **угортваць.**

**УГОРТВАЦЦА** *несов. страд.* загребаться; завёртываться, обёртываться, обвёртываться; *см.* **угортваць.**

**УГОРТВАЦЬ** *несов.* **1.** загребать; **2.** *(у што)* завёртывать, обёртывать, обвёртывать *(чем);* 1, 2 *см.* **угарнуць.**

**УГОРУ** *см.* **угару.**

**УГОЧАНЫ** *разг.* ухлопанный; вбуханный; *см.* **угаціць** 2.

**УГРАБАЦЦА** *несов. страд.* загребаться; *см.* **уграбаць** 1.

**УГРАБАЦЬ** *несов.* **1.** загребать; **2.** *разг. (захватывать)* загребать, заграбастывать; 1, 2 *см.* **угрэбці.**

**УГРАВАЦЦА** *несов. разг.* **1.** согреваться, угреваться; **2.** *(утомляться)* упариваться; 1, 2 *см.* **угрэцца; 3.**

*страд.* нагрева́ться; прогрева́ться, согрева́ться; упа́риваться; *см.* **уграва́ць** 1, 3.

**УГРАВА́ЦЬ** *несов. разг.* **1.** нагрева́ть; прогрева́ть, согрева́ть; **2.** пригрева́ть; **3.** *(утомлять)* упа́ривать; 1—3 *см.* **угрэ́ць.**

**УГРАЗА́ЦЬ** *несов. прям., перен.* увяза́ть, погряза́ть.

**УГРА́ЗНУЦЬ** *сов. прям., перен.* увя́знуть, погря́знуть.

**УГРО́БІЦЦА** *сов. разг. (убиться)* угро́биться.

**УГРО́БІЦЬ** *сов. разг.* **1.** *(убить)* угро́бить; **2.** *(вывести из строя)* испо́ртить, угро́бить; **3.** *перен. (какое-л. дело)* загуби́ть, угро́бить.

**УГРУЗА́ЦЬ** *несов.* увяза́ть.

**УГРУ́ЗІЦЬ** *сов. разг.* увязи́ть, завязи́ть.

**УГРУ́ЗНУЦЬ** *сов.* увя́знуть.

**УГРУНТАВА́НАСЦЬ** *ж.* обосно́ванность.

**УГРУНТАВА́ННЕ** *ср.* обоснова́ние; *см.* **угрунтава́ць** 2.

**УГРУНТАВА́НЫ** **1.** упро́ченный, утверждённый; **2.** обосно́ванный; 1, 2 *см.* **угрунтава́ць.**

**УГРУНТАВА́ЦЦА** *сов.* упро́читься, утверди́ться.

**УГРУНТАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** упро́чить, утверди́ть; **2.** *(мотивировать)* обоснова́ть.

**УГРУНТО́ВАНЫ** *см.* **угрунтава́ны.**

**УГРУНТО́ЎВАЦЦА** *несов.* **1.** упро́чиваться, утвержда́ться; **2.** *страд.* упро́чиваться, утвержда́ться; обосно́вываться; *см.* **угрунто́ўваць.**

**УГРУНТО́ЎВАЦЬ** *несов.* **1.** упро́чивать, утвержда́ть; **2.** *(мотивировать)* обосно́вывать.

**УГРУ́НЬ** *нареч. обл.* стремгла́в.

**УГРЫЗА́ЦЦА** *несов.* вгрыза́ться.

**УГРЫЗА́ЦЬ** *несов. разг. (с трудом откусывать, разгрызать)* угрыза́ть.

**УГРЫ́ЗЕНЫ** *разг.* угрызённый; *см.* **угры́зці.**

**УГРЫ́ЗЦІ** *сов. разг. (с трудом откусить, разгрызть)* угры́зть, смочь разгры́зть.

**УГРЫ́ЗЦІСЯ** *сов. разг.* вгры́зться.

**УГРЭ́БЕНЫ** загребённый; *см.* **угрэ́бці** 1.

**УГРЭ́БЦІ** *сов.* **1.** загрести́; **у. салóму ў хлеў** загрести́ соло́му в хлев; **2.** *разг. (захватить)* загрести́, заграба́стать.

**УГРЭ́ТЫ** *разг.* **1.** нагре́тый; прогре́тый; согре́тый; **2.** упа́ренный; 1, 2 *см.* **угрэ́ць** 1, 3.

**УГРЭ́ЦЦА** *сов. разг.* **1.** согре́ться, угре́ться; **ру́кі крыху́ ўгрэ́ліся** ру́ки немно́го согре́лись; **2.** *(утомиться)* упа́риться; **конь угрэ́ўся** ло́шадь упа́рилась.

**УГРЭ́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** смочь нагре́ть; прогре́ть, согре́ть; **каб у. гэ́ту печ, трэ́ба шмат дроў** чтобы смочь нагре́ть (согре́ть, прогре́ть) э́ту печь, на́до мно́го дров; **2.** пригре́ть; **яшчэ́ со́нца до́бра не ўгрэ́ла** ещё со́лнце хорошо́ не пригре́ло; **3.** *(утомить)* упа́рить; **у. каня́** упа́рить ло́шадь.

**УДАВА́** *ж.* вдова́; ◊ **саламя́ная ўдава́** соло́менная вдова́.

**УДА́ВАВЫЯ** *сущ. мн. зоол.* уда́вовые.

**УДАВА́ЦЦА** I *несов.* **1.** *в разн. знач.* удава́ться; **2.** *(в кого-л.)* удава́ться, урожда́ться, выдава́ться; 1, 2 *см.* **уда́цца** I.

**УДАВА́ЦЦА** II *несов. прям., перен.* вдава́ться; *см.* **уда́цца** II.

**УДАВА́ЦЬ** *несов. разг. (каго)* **1.** выдава́ть; доноси́ть *(на кого); см.* **уда́ць; 2.** *каго (принимать вид)* прики́дываться *(кем).*

**УДАВЕ́Ц,** *род* **удаўца́** *м.* вдове́ц; ◊ **саламя́ны ўдаве́ц** соло́менный вдове́ц.

**УДАВЕ́ЦЬ** *несов.* вдове́ть; вдо́вствовать.

**УДАВІ́НЫ** вдо́вий.

**УДАВІ́ЦЦА** *сов.* подави́ться; **ко́сткай ~ві́ўся** ко́стью подави́лся.

**УДАКЛАДНЕ́ННЕ** *ср.* уточне́ние.

**УДАКЛА́ДНЕНЫ** уточнённый.

**УДАКЛАДНІ́ЦЦА** *сов.* уточни́ться.

**УДАКЛАДНІ́ЦЬ** *сов.* уточни́ть.

**УДАКЛАДНЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* уточня́ться.

**УДАКЛАДНЯ́ЦЬ** *несов.* уточня́ть.

**УДА́ЛА** *нареч.* **1.** уда́чно; **2.** ло́вко; **3.** ли́хо; 1—3 *см.* **уда́лы** 1—3.

**УДА́ЛАСЦЬ** *ж.* **1.** ло́вкость; **2.** у́даль, удальство́ *ср.;* ли́хость; 1—2 *см.* **уда́лы** 2—3.

**УДАЛЕ́Ц, -льца́** *м.* удале́ц.

**УДА́ЛЕЧ** *нареч. разг.* вдаль.

**УДА́ЛЕЧЫ** *нареч. обл.* вдали́.

**УДАЛЕЧЫНІ́** *нареч.* вдалеке́, вдали́.

**УДАЛЕЧЫНЮ́** *нареч.* вдаль.

**УДА́ЛЫ 1.** уда́чный; **у. пераклад** уда́чный перево́д; **2.** ло́вкий; **~лыя рукі** ло́вкие ру́ки; **3.** удало́й, уда́лый; лихо́й; **у. каза́к** удало́й (уда́лый, лихо́й) казак; **4.** хоро́ший, прекра́сный; **у. хло́пец** хоро́ший (прекра́сный) па́рень.

**УДА́Р, -ру** *м. в разн. знач.* уда́р; **гэ́ты гадзі́ннік не баі́цца ўда́ру** эти часы́ не боя́тся уда́ра; **бо́мбавы ўдар** бо́мбовый уда́р; **~ры кі́рак** уда́ры ки́рок; **у. гро́му** уда́р гро́ма; **у. лёсу** уда́р судьбы́; **франта́льны ўдар** *воен.* фронта́льный уда́р; **штрафны́ ўдар** штрафно́й уда́р; **у. пу́льсу** уда́р пу́льса; ○ **апаплексі́чны ўдар** апоплекси́ческий уда́р; **со́нечны ўдар** со́лнечный уда́р; **цеплавы́ ўдар** теплово́й уда́р; ◊ **адны́м ~рам** одни́м уда́ром; **пад ~рам (быць, знахо́дзіцца)** под уда́ром (быть, находи́ться); **у. у спі́ну** уда́р в спи́ну; **ста́віць пад у.** ста́вить под уда́р.

**УДА́РАНЫ** уда́ренный; уши́бленный; *см.* **уда́рыць.**

**УДАРАТРЫВА́ЛЫ** ударопро́чный.

**УДАРА́ЦЦА** *несов. в разн. знач.* ударя́ться; *(повреждать ударом)* ушиба́ться.

**УДАРА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* ударя́ть; *(повреждать ударом)* ушиба́ть; *см.* **уда́рыць.**

**УДА́РНА** *нареч.* уда́рно.

**УДА́РНІК** I *м. (передовой работник)* уда́рник; **у. пра́цы** уда́рник труда́.

**УДА́РНІК** II *м. воен., муз.* уда́рник.

**УДА́РНІЦА** *ж.* уда́рница.

**УДА́РНІЦТВА** *ср.* уда́рничество.

**УДА́РНЫ** I *в разн. знач.* уда́рный; **~ная брыга́да** уда́рная брига́да; **ва ўда́рным пара́дку** в уда́рном поря́дке.

**УДА́РНЫ** II *в разн. знач.* уда́рный; **~ная вайско́вая гру́па** уда́рная войскова́я гру́ппа; **~ныя музы́чныя інструме́нты** уда́рные музыка́ль-

ные інструме́нты; **у. механізм** уда́рный механи́зм.

**УДАРО́ЖЫЦЦА** *сов. разг.* пова́диться.

**УДА́РЫЦЦА** *сов. в разн. знач.* уда́риться; *(повредить ударом)* ушиби́ться.

**УДА́РЫЦЬ** *сов. в разн. знач.* уда́рить; *(повредить ударом)* ушиби́ть; **у. па сталé** уда́рить по́ столу; **у. нагу́** уда́рить (ушиби́ть) но́гу; **мала́нка ўда́рыла ў дрэ́ва** мо́лния уда́рила в де́рево; **у. у звон** уда́рить в наба́т; **у. па во́рагу** уда́рить по врагу́; **у. у фланг** уда́рить во фланг; **у. па недахо́пах** уда́рить по недоста́ткам; **віно́ ўда́рыла ў галаву́** вино́ уда́рило в го́лову; ◊ **у. па кішэ́ні** уда́рить по карма́ну; **у. па рука́х** уда́рить по рука́м; **у. у галаву́** уда́рить в го́лову; **па́лец (па́льцам) аб па́лец не ўда́рыць** па́лец о па́лец не уда́рить; **не ўда́рыць тва́рам у гразь** не уда́рить лицо́м в грязь.

**УДАСКАНА́ЛЕНАСЦЬ** *ж.* **1.** усоверше́нствованность; **2.** изощрённость, утончённость; 1, 2 *см.* **удаскана́лены** 3, 4.

**УДАСКАНА́ЛЕННЕ** *ср.* **1.** усоверше́нствование; **2.** изощре́ние, утонче́ние; 1, 2 *см.* **удаскана́ліць.**

**УДАСКАНА́ЛЕНЫ 1.** *прич.* усоверше́нствованный; **2.** *прич.* изощрённый, утончённый; 1, 2 *см.* **удаскана́ліць; 3.** *прил.* усоверше́нствованный; **~ныя прыбо́ры** усоверше́нствованные прибо́ры; **4.** *прил. (о чувствах и т. п.)* изощрённый, утончённый.

**УДАСКАНА́ЛІЦЦА** *сов.* **1.** усоверше́нствоваться; **2.** *(о чувствах и т. п.)* изощри́ться, утончи́ться.

**УДАСКАНА́ЛІЦЬ** *сов.* **1.** усоверше́нствовать; **у. машы́ну** усоверше́нствовать маши́ну; **2.** *(чувства и т. п.)* изощри́ть, утончи́ть.

**УДАСКАНА́ЛЬВАННЕ** *ср.* **1.** соверше́нствование; **2.** изощре́ние, утонче́ние; 1, 2 *см.* **удаскана́льваць.**

**УДАСКАНА́ЛЬВАЦЦА** *несов.* **1.** соверше́нствоваться; **2.** *(о чувствах и т. п.)* изощря́ться, утонча́ться; **3.** *страд.* соверше́нствоваться; изощря́ться, утонча́ться; *см.* **удаскана́льваць.**

**УДАСКАНА́ЛЬВАЦЬ** *несов.* **1.** соверше́нствовать; **2.** изощря́ть, утонча́ть; 1, 2 *см.* **удаскана́ліць.**

**УДАСТО́ЕНЫ** *в разн. знач.* удосто́енный; *см.* **удасто́іць.**

**УДАСТО́ІЦЦА** *сов. в разн. знач.* удосто́иться; **у. ўзнагаро́ды** удосто́иться награ́ды; **у. ўва́гі** удосто́иться внима́ния.

**УДАСТО́ІЦЬ** *сов. в разн. знач.* удосто́ить; **у. ганаро́вага зва́ння Геро́я Сацыялісты́чнай Пра́цы** удосто́ить почётного зва́ния Геро́я Социалисти́ческого Труда́; **у. по́зіркам** удосто́ить взгля́дом.

**УДАСТО́ЙВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* удоста́иваться; *см.* **удасто́іцца, удасто́йваць.**

**УДАСТО́ЙВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* удоста́ивать; *см.* **удасто́іць.**

**УДА́Ў,** *род.* **уда́ва** *м. зоол.* уда́в.

**УДАЎЖКІ́** *нареч.* в длину́.

**УДАЎСТВО́** *ср.* вдовство́.

**УДА́ЦЦА I** *сов.* **1.** *в разн. знач.* уда́ться; **апера́цыя ўдала́ся** опера́ция удала́сь; **пірагі́ сяго́ння ўдалі́ся** пироги́ сего́дня удали́сь; **удало́ся даста́ць рэ́дкую кні́гу** удало́сь доста́ть ре́дкую кни́гу; **2.** *(в кого-л.)* уда́ться, уроди́ться, вы́даться; **сын увесь уда́ўся ў ба́цьку** сын весь уда́лся (уроди́лся, вы́дался) в отца́.

**УДА́ЦЦА** II *сов. прям., перен.* вда́ться; **бе́раг уда́ўся ў мо́ра** бе́рег вда́лся в мо́ре; **у. ў су́тнасць спра́вы** вда́ться в су́щность де́ла.

**УДА́ЦЬ** *(каго) сов. разг.* вы́дать; донести́ *(на кого).*

**УДА́ЧА** *ж.* уда́ча; **пажада́ць ~чы** пожела́ть уда́чи; ◊ **така́я ўда́ча** тако́й уроди́лся.

**УДАЧАРА́ЦЦА** *несов. страд.* удочеря́ться.

**УДАЧАРА́ЦЬ** *несов.* удочеря́ть.

**УДАЧАРО́НАЯ** удочерённая.

**УДАЧАРЫ́ЦЬ** *сов.* удочери́ть.

**УДАЧАРЭ́ННЕ** *ср.* удочере́ние.

**УДА́ЧЛІВАСЦЬ** *ж.* уда́чливость.

**УДА́ЧЛІВЫ** уда́чливый.

**УДА́ЧНА** *нареч.* **1.** уда́чно; **2.** уда́чно, благоприя́тно, благополу́чно; 1, 2 *см.* **уда́чны.**

**УДА́ЧНІК** *м. разг.* уда́чник.

**УДА́ЧНІЦА** *ж. разг.* уда́чница.

**УДА́ЧНЫ** **1.** уда́чный; **у. партрэ́т** уда́чный портре́т; **2.** *(успешный)* уда́чный, благоприя́тный, благополу́чный; **~ная пае́здка** уда́чная (благоприя́тная, благополу́чная) пое́здка.

**УДВАЕ́ННЕ** *ср.* удвое́ние.

**УДВАІ́Х** *нареч. (о лицах разного пола или о существах ср. рода)* вдвоём.

**УДВАЙНЕ́** *нареч.* вдвойне́, вдво́е.

**УДВАЯ́** *нареч.* вдво́е; **у. больш** вдво́е бо́льше; **склáсці ўдвая́** сложи́ть вдво́е.

**УДВО́ЕНЫ** *прич., прил.* удво́енный.

**УДВО́ІЦЦА** *сов.* удво́иться.

**УДВО́ІЦЬ** *сов.* удво́ить.

**УДВО́ЙВАННЕ** *ср.* удва́ивание.

**УДВО́ЙВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* удва́иваться.

**УДВО́ЙВАЦЬ** *несов.* удва́ивать.

**УДВУ́Х** *нареч. (о мужчинах)* вдвоём.

**УДЖА́ЛЕНЫ** ужа́ленный; *см.* **уджа́ліць.**

**УДЖА́ЛІЦЬ** *сов. (о пчеле и т. п.)* ужа́лить.

**УДЖГНУ́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** *(о насекомом)* укуси́ть, ужа́лить; **2.** *перен.* уда́рить; хлестну́ть, стегну́ть.

**УДЗВЮ́Х** *нареч. (о женщинах)* вдвоём.

**УДЗЕВЯЦЁХ** *нареч. (только о мужчинах или только о женщинах)* вдевятеро́м.

**УДЗЕВЯЦЯРЫ́Х** *нареч. (о лицах разного пола или о существах ср. рода)* вдевятеро́м.

**УДЗЕ́Л** I, **-лу** *м.* **1.** уча́стие *ср.;* **прыня́ць у. у вы́барах** приня́ть уча́стие в вы́борах; **канцэ́рт з ~лам вядо́мых майстро́ў** конце́рт с уча́стием изве́стных мастеро́в; **2.** *(у чым)* прича́стность *ж. (к чему);* **даве́сці ўдзе́л у злачы́нстве** доказа́ть прича́стность к преступле́нию; ◊ **браць у.** принима́ть уча́стие.

**УДЗЕ́Л** II *м. ист.* уде́л; **кня́жацкі ўдзел** кня́жеский уде́л.

**УДЗЕ́ЛЕНЫ** *прям., перен.* уделённый.

**УДЗЕ́ЛЬНАСЦЬ** *(у чым) ж.* прича́стность *(к чему),* каса́тельство *ср. (к чему).*

**УДЗЕ́ЛЬНІК** *м.* уча́стник.

**УДЗЕ́ЛЬНІЦА** *ж.* уча́стница.

**УДЗЕ́ЛЬНІЧАЦЬ** *несов.* уча́ствовать.

**УДЗЕ́ЛЬНЫ** I *(у чым)* прича́стный *(к чему).*

**УДЗЕ́ЛЬНЫ** II *ист.* уде́льный; **у. князь** уде́льный князь.

**УДЗЕ́ЛЬНЫ** III уде́льный; ○ **~ная вага́** уде́льный вес.

**УДЗЕ́НЬ** *нареч.* днём.

**УДЗЕСЯЦЁХ** *нареч. (только о мужчинах или только о женщинах)* вдесятеро́м.

**УДЗЕСЯЦЯРЫ́Х** *нареч. (о лицах разного пола или о существах ср. рода)* вдесятеро́м.

**УДЗЕЎБАНУ́ЦЬ** *сов. однокр. (ударить клювом)* клю́нуть.

**УДЗЁЎБВАННЕ** *ср. разг.* вда́лбливание; *см.* **удзёўбваць.**

**УДЗЁЎБВАЦЦА** *несов. страд. разг.* вда́лбливаться; *см.* **удзёўбваць.**

**УДЗЁЎБВАЦЬ** *несов. разг. (втолковывать)* вда́лбливать.

**УДЗІМА́ЛЬНЫ** вдувно́й.

**УДЗІМА́ННЕ** *ср.* вдува́ние.

**УДЗІМА́ЦЦА** *несов. страд.* вдува́ться.

**УДЗІМА́ЦЬ** *несов.* вдува́ть.

**УДЗІРВАНЕ́ЛЫ** заро́сший траво́й.

**УДЗІРВАНЕ́ЦЬ** *сов.* зарасти́ траво́й.

**УДЗЬМУ́ХНУЦЬ** *сов. однокр.* вду́нуть, вдуть.

**УДЗЬМУ́ЦЬ** *сов.* вдуть, вду́нуть.

**УДЗЯЛІ́ЦЬ** *сов.* удели́ть.

**УДЗЯЛЯ́ЦЦА** *несов. страд.* уделя́ться; *см.* **удзяля́ць.**

**УДЗЯЛЯ́ЦЬ** *несов.* уделя́ть.

**УДЗЯЎБЦІ́** *сов.* **1.** *(одолеть, долбя)* продолби́ть; **уме́рзла так, што не ўдзяўбці́** проме́рзло так, что не продолби́ть; **2.** *(ударить клювом)* клю́нуть, долбану́ть; **3.** *перен. разг. (втолковать)* вдолби́ть; ◊ **у. ў галаву́** вдолби́ть (втемя́шить) в го́лову.

**УДЗЯ́ЧНАСЦЬ** *ж.* благода́рность, призна́тельность.

**УДЗЯ́ЧНЫ** благода́рный, призна́тельный.

**УДО́ВІН** вдо́вий.

**УДО́ВЫ** *разг.* вдо́вый.

**УДО́Д** *м. зоол.* удо́д.

**УДО́ДАВЫ** *зоол.* удо́довый.

**УДО́ДАВЫЯ** *сущ. мн. зоол.* удо́довые.

**УДО́Й** *род.* **удо́ю** *м.* удо́й.

**УДО́ЙЛІВАСЦЬ** *ж.* удо́йливость.

**УДО́ЙЛІВЫ** удо́йливый.

**УДО́ЙНАСЦЬ** *ж.* удо́йность.

**УДО́ЙНЫ** удо́йный.

**УДО́СТАЛЬ** *нареч. разг.* вдо́воль, вдо́сталь.

**УДО́ЎЖ** **1.** *нареч.* вдоль; **распілява́ць бервяно́ ўдоўж** распили́ть бревно́ вдоль; **2.** *предлог см.* **уздо́ўж** 2; ◊ **у. і ўпо́перак** вдоль и поперёк.

**УДРАЖНІ́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** раздразни́ть, раздражи́ть, разозли́ть, рассе́рдить; **2.** *(рану)* разбереди́ть, раздражи́ть; растрави́ть.

**УДРУЖЫ́ЦЬ** *сов.* удружи́ть.

**УДРУКАВА́НЫ** упеча́танный.

**УДРУКАВА́ЦЬ** *сов.* упеча́тать.

**УДРУКО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* упеча́тываться; *см.* **удруко́ўваць.**

**УДРУКО́ЎВАЦЬ** *несов.* упеча́тывать; *см.* **удрукава́ць.**

**УДУ́БАЛЬТ** *нареч. обл.* вдвойне́.

**УДУБЕ́ЦЬ** *сов.* **1.** озя́бнуть, замёрзнуть, закочене́ть; **2.** *(о трупе)* окочене́ть, засты́ть.

**УДУ́МАЦЦА** *сов.* вду́маться.

**УДУ́МВАЦЦА** *несов.* вду́мываться.

**УДУ́МЛІВА** *нареч.* вду́мчиво.

**УДУ́МЛІВАСЦЬ** *ж.* вду́мчивость.

**УДУ́МЛІВЫ** вду́мчивый.

**УДУ́ШАНЫ 1.** уду́шенный, заду́шенный; **2.** *прям., перен.* зада́вленный, уду́шенный.

**УДУ́ШВАЦЦА** *несов. страд.* удуша́ться, души́ться; *см.* **уду́шваць** 1.

**УДУ́ШВАЦЬ** *несов.* **1.** удуша́ть, души́ть; **2.** *прям., перен.* зада́вливать, удуша́ть.

**УДУ́ШЛІВА** *нареч.* уду́шливо.

**УДУ́ШЛІВАСЦЬ** *ж.* **1.** уду́шливость; **2.** оды́шка.

**УДУ́ШЛІВЫ 1.** *в разн. знач.* уду́шливый; **у. ка́шаль** уду́шливый ка́шель; **~вая атмасфе́ра жыцця́** уду́шливая атмосфе́ра жи́зни; **~выя га́зы** уду́шливые га́зы; **2.** страда́ющий оды́шкой.

**УДУ́ШША** *ср. мед.* уду́шье.

**УДУШЫ́ЦЦА** *сов. разг.* **1.** пове́ситься; **2.** подави́ться.

**УДУШЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** удуши́ть, задуши́ть; **2.** *прям., перен.* задави́ть, удуши́ть.

**УДУШЭ́ННЕ** *ср.* удуше́ние.

**УДЫГА́ННЕ** *ср. разг.* уго́дничество, уго́дничание.

**УДЫГА́ЦЬ** *несов. разг.* уго́дничать, лебези́ть.

**УДЫ́Х, -ху** *м.* вдох; **зрабі́ць у.** сде́лать вдох.

**УДЫХА́ЛЬНЫ** вдыха́тельный.

**УДЫХА́ННЕ** *ср.* вдыха́ние.

**УДЫХА́ЦЦА** *несов. страд.* вдыха́ться; *см.* **удыха́ць.**

**УДЫХА́ЦЬ** *несов. прям., перен.* вдыха́ть; *см.* **удыхну́ць.**

**УДЫХНУ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* вдохну́ть; **ён пра́гна ўдыхну́ў паве́тра** он жа́дно вдохну́л во́здух; **у. у каго́-не́будзь бадзёрасць** вдохну́ть в кого́-л. бо́дрость.

**УЕ́ДЛІВА** *нареч.* **1.** въе́дливо, въе́дчиво; е́дко; **2.** въе́дливо, досто́шно.

**УЕ́ДЛІВАСЦЬ** *ж.* **1.** въе́дливость, въе́дчивость; е́дкость; **2.** въе́дливость, въе́дчивость, дото́шность.

**УЕ́ДЛІВЫ 1.** въе́дливый, въе́дчивый; е́дкий; **у. пах** въе́дливый (въе́дчивый, е́дкий) за́пах; **~вая фа́рба** въе́дливая (е́дкая) кра́ска; **2.** въе́дливый, въе́дчивый, дото́шный; **у. хара́ктар** въе́дливый (дото́шный) хара́ктер.

**УЕ́ЖНА: хоць не ўе́жна, дык улёжна** *погов.* хоть не сы́тно, да споко́йно.

**УЕ́ЗД** *м.* **1.** *род.* **уе́зду** *(действие)* въезд; **на ра́ніцу прызна́чаны ў. у го́рад** у́тром назна́чен въезд в го́род; **2.** *род.* **уе́зда** *(место, по которому въезжают куда-л.)* въезд; **прыго́жы ўезд** краси́вый въезд.

**УЕ́ЗДЖАНЫ** *разг.* **1.** уе́зженный; ука́танный; **2.** уе́зженный, зае́зженный; 1, 2 *см.* **уе́здзіць.**

**УЕ́ЗДЖВАЦЦА** *несов. возвр., страд. разг.* уе́зживаться; *см.* **уе́здзіцца, уе́зджваць.**

**УЕ́ЗДЖВАЦЬ** *несов. разг. (утрамбовывать)* уе́зживать; ука́тывать.

**УЕ́ЗДЗІЦЦА** *сов. разг. (утрамбоваться)* уе́здиться; уката́ться; **даро́га уе́здзілася** доро́га уе́здилась (уката́лась).

**УЕ́ЗДЗІЦЬ** *сов. разг.* **1.** *(утрамбовать)* уе́здить; уката́ть; **у. даро́гу**

уе́здить (уката́ть) доро́гу; **2.** *(измучить ездой)* уе́здить, зае́здить; **у. каня́** уе́здить (зае́здить) ло́шадь.

**УЕ́СЦІ** *сов.* **1.** смочь есть; **тако́е салёнае, што не ўясі́** тако́е солёное, что не смо́жешь есть; **2.** уе́сть, уязви́ть, уколо́ть; **ну і ўеў жа я яго́ сяго́ння!** ну и уе́л (уязви́л, уколо́л) же я его́ сего́дня!

**УЕ́СЦІСЯ** I *сов.* **1.** *(впитаться)* въе́сться; **фа́рба ўе́лася ў матэ́рыю** кра́ска въе́лась в мате́рию; **2.** вре́заться, въе́сться, впи́ться; **вяро́ўка ўе́лася ў цела** верёвка вре́залась (въе́лась, впила́сь) в те́ло; **3.** *перен. разг. (запечатлеться)* вре́заться; **ко́жнае яго́ сло́ва так і ўе́лася мне ў сэ́рца** ка́ждое его́ сло́во так и вре́залось мне в се́рдце; ◊ **у. ў ко́сці (пячо́нкі)** осточерте́ть, въе́сться в печёнки.

**УЕ́СЦІСЯ** II *сов. разг.* привы́кнуть к еде́; нача́ть хорошо́ есть.

**УЕ́ХАЦЬ** *сов.* **1.** *(внутрь чего-л.)* въе́хать; **машы́на ўе́хала ў лес** маши́на въе́хала в лес; **2.** *(опуститься во что-л. вязкое)* погрузи́ться; **у. па кале́ні ў гразь** погрузи́ться по коле́ни в грязь; **3.** *разг.* прое́хать; **за дзень уе́хаў сто кіламе́траў** за день прое́хал сто киломе́тров; **4.** *(осесть)* врасти́; **ха́та ўе́хала ў зямлю́** изба́ вросла́ в зе́млю; ◊ **у. па ву́шы** окуну́ться с голово́й; **што ўбіў, то ўе́хаў** *посл.* не подстегнёшь — не пое́дешь.

**УЖАДО́БКУ** *нареч. разг.* в охо́тку.

**УЖА́РЫЦЬ** *сов. прост. (с силой ударить)* огре́ть.

**УЖА́ЦЬ** *сов.* **1.** смочь жать; **гэ́тым сярпо́м не ўжнеш** э́тим серпо́м не смо́жешь жать; **2.** *(некоторое количество)* сжать, нажа́ть; **за гадзі́ну шмат ужа́лі** за час мно́го сжа́ли; **у. травы́** нажа́ть травы́.

**УЖО́ 1.** *нареч.* уже́, уж; **у. ху́тка паўдня́** уже́ (уж) ско́ро по́лдень; **2.** *частица усил.* уж; **не так у. дрэ́нна** не так уж пло́хо; **ве́льмі ўжо шмат рабо́ты** о́чень уж мно́го рабо́ты; ◊ **а ўжо ж** разуме́ется.

**УЖЫВА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* употреби́тельность.

**УЖЫВА́ЛЬНЫ** употреби́тельный.

**УЖЫВА́ННЕ** *ср.* **1.** употребле́ние, испо́льзование; примене́ние; *см.* **ужыва́ць; 2.** *(общепринятое пользование)* обихо́д *м.;* **увайсці́ ва ўжыва́нне** войти́ в обихо́д.

**УЖЫВА́НЫ** бы́вший в употребле́нии, подéржанный; *(об одежде, обуви — ещё)* поно́шенный.

**УЖЫВА́ЦЦА** I *несов.* **1.** ужива́ться; **2.** *(свыкаться, осваиваться)* вжива́ться; 1, 2 *см.* **ужы́цца.**

**УЖЫВА́ЦЦА** II *несов.* **1.** употребля́ться, испо́льзоваться; **гэ́та сло́ва ча́ста ўжыва́ецца ў гу́тарцы** э́то сло́во ча́сто употребля́ется в ре́чи; **2.** *страд.* употребля́ться, испо́льзоваться, применя́ться; *см.* **ужыва́ць.**

**УЖЫВА́ЦЬ** *несов.* употребля́ть, испо́льзовать; применя́ть; *см.* **ужы́ць** II.

**УЖЫВІ́ЦЬ** *сов. спец.* вживи́ть.

**УЖЫ́ТАК, -тку** *м.* употребле́ние *ср.*, обихо́д; потребле́ние *ср.;* **у шыро́кім ~тку** в широ́ком употребле́нии; **быць ва ўжы́тку** быть в употребле́нии (обихо́де); **вы́йсці з ~тку** вы́йти из употребле́ния (обихо́да); **прадме́ты ха́тняга ўжы́тку** предме́ты дома́шнего обихо́да; **прадме́ты шыро́кага ўжы́тку** предме́ты широ́кого потребле́ния.

**УЖЫ́ТНАСЦЬ** *ж.* употреби́тельность.

**УЖЫ́ТНЫ** употреби́тельный.

**УЖЫ́ТЫ** употреблённый, испо́льзованный; применённый; *см.* **ужы́ць** II.

**УЖЫЎЛЕ́ННЕ** *ср. спец.* вживле́ние.

**УЖЫЎЛЯ́ЦЦА** *несов.* вживля́ться.

**УЖЫЎЛЯ́ЦЬ** *несов.* вживля́ть.

**УЖЫ́ЎЧЫВАСЦЬ** *ж.* ужи́вчивость.

**УЖЫ́ЎЧЫВЫ** ужи́вчивый.

**УЖЫ́ЦЦА** *сов.* **1.** ужи́ться; **з гэ́тым чалаве́кам ве́льмі ця́жка ўжы́цца** с э́тим челове́ком о́чень тру́дно ужи́ться; **2.** *(свыкнуться, освоиться)* вжи́ться; **у. ў но́вую атмасфе́ру** вжи́ться в но́вую атмосфе́ру; **у. ў во́браз** вжи́ться в о́браз.

**УЖЫ́ЦЬ** I *сов.* смочь жить, ужи́ться; **хі́ба тут ужыве́ш?** ра́зве тут смо́жешь ужи́ться?; **там ніхто́ не ўжыве́** там никто́ не смо́жет жить.

**УЖЫ́ЦЬ** II *сов.* употреби́ть, испо́льзовать; примени́ть; **у. но́вы ме́тад** употреби́ть (испо́льзовать) но́вый ме́тод; **я не ве́даў, на што ўжыць гро́шы** я не знал, на что употреби́ть де́ньги; **у. вы́раз** употреби́ть выраже́ние.

**УЗАБРА́ЦЦА** *сов. (войти, забраться наверх)* взобра́ться, вскара́бкаться, взгромозди́ться.

**УЗАГНА́НЫ** *разг.* **1.** по́днятый; вспу́гнутый; **2.** за́гнанный; **3.** наса́женный; 1—3 *см.* **узагна́ць.**

**УЗАГНА́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** *(заставить подняться)* подня́ть; *(зверя, птицу — ещё)* вспугну́ть; **2.** *(на что-л.)* загна́ть; **у. ката́ на дрэ́ва** загна́ть ко́шку на де́рево; **3.** *(плотно надеть на что-л.)* насади́ть; **у. абручы́ на бо́чку** насади́ть о́бручи на бо́чку.

**УЗА́Д** *нареч.* взад; ◊ **у. і ўпе́рад** взад и вперёд; **ні ўзад ні ўпе́рад** ни взад ни вперёд.

**УЗАДЗЬМУ́ТЫ** взду́тый; *см.* **узадзьму́ць.**

**УЗАДЗЬМУ́ЦЬ** *сов.* вздуть.

**УЗАДРА́НЫ** взло́манный; отóдранный; *см.* **узадра́ць** 1.

**УЗАДРА́ЦЦА** *сов.* **1.** *(оторвавшись, подняться)* взлома́ться; отодра́ться; **2.** *разг. (рано проснувшись)* встать, подня́ться.

**УЗАДРА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(отрывая, поднять)* взлома́ть; отодра́ть; **у. масні́чыну** отодра́ть полови́цу; **2.** *разг. (целину)* подня́ть; **3.** *разг. (с трудом разбудить)* подня́ть.

**УЗАЕМААБУМО́ЎЛЕНАСЦЬ** *ж.* взаимообусло́вленность.

**УЗАЕМААБУМО́ЎЛЕНЫ** взаимообусло́вленный.

**УЗАЕМААДНО́СІНЫ, -сін** *ед. нет* взаимоотноше́ния.

**УЗАЕМАВЫ́ГАДНАСЦЬ** *ж.* взаимовы́годность.

**УЗАЕМАВЫ́ГАДНЫ** взаимовы́годный.

**УЗАЕМАВЫКЛЮЧА́ЛЬНЫ** взаимоисключа́ющий.

**УЗАЕМАВЫ́РУЧКА** *ж.* взаимовы́ручка.

**УЗАЕМАДАВЕ́Р'Е** *ср.* взаимодове́рие.

**УЗАЕМАДАПАМО́ГА** *ж.* взаимопо́мощь; ○ **ка́са ўзаемадапамо́гі** ка́сса взаимопо́мощи.

**УЗАЕМАДАПАЎНЯ́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* взаимодополня́емость.

**УЗАЕМАДАПАЎНЯ́ЛЬНЫ** взаимодополня́ющий.

**УЗАЕМАДЗЕ́ЙНІЧАЦЬ** *несов.* взаимоде́йствовать.

**УЗАЕМАДЗЕ́ЯННЕ** *ср.* взаимоде́йствие.

**УЗАЕМАЗАЛЕ́ЖНАСЦЬ** *ж.* взаимозави́симость.

**УЗАЕМАЗАЛЕ́ЖНЫ** взаимозави́симый.

**УЗАЕМАЗАМЯНЯ́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* взаимозаменя́емость.

**УЗАЕМАЗАМЯНЯ́ЛЬНЫ** взаимозаменя́емый.

**УЗАЕМАЗБЛІЖЭ́ННЕ** *ср.* взаимосближе́ние.

**УЗАЕМАЗВЯ́ЗАНАСЦЬ** *ж.* взаимосвя́занность.

**УЗАЕМАЗВЯ́ЗАНЫ** взаимосвя́занный.

**УЗАЕМАЗНІШЧЭ́ННЕ** *ср.* взаимоистребле́ние.

**УЗАЕМАКАРЫ́СНЫ** взаимополе́зный.

**УЗАЕМАПАВА́ГА** *ж.* взаимоуваже́ние *ср.*

**УЗАЕМАПАДТРЫ́МКА** *ж.* взаимоподде́ржка.

**УЗАЕМАПРАВЕ́РКА** *ж.* взаимопрове́рка.

**УЗАЕМАПРАНІКА́ЦЬ** *несов.* взаимопроника́ть.

**УЗАЕМАПРАНІКНЕ́ННЕ** *ср.* взаимопроникнове́ние.

**УЗАЕМАРАЗЛІ́КІ** *мн.* взаиморасчёты.

**УЗАЕМАРАЗУМЕ́ННЕ** *ср.* взаимопонима́ние.

**УЗАЕМАСУ́ВЯЗЬ** *ж.* взаимосвя́зь.

**УЗАЕМАЎВЯ́ЗАНЫ** *(согласованный)* взаимоувя́занный.

**УЗАЕМАЎПЛЫ́Ў, -лы́ву** *м.* взаимовлия́ние *ср.*

**УЗАЕ́МНА** *нареч.* взаи́мно; **у. про́стыя лікі** *мат.* взаи́мно просты́е чи́сла.

**УЗАЕ́МНАСЦЬ** *ж.* взаи́мность.

**УЗАЕ́МНЫ** взаи́мный.

**УЗАКАНЕ́ННЕ** *ср. уст. (распоряжение, имеющее силу закона)* узаконе́ние; **збо́рнік ~няў** сбо́рник узаконе́ний.

**УЗАКО́НЕННЕ** *ср. (действие)* узаконе́ние.

**УЗАКО́НЕНЫ** узако́ненный.

**УЗАКО́НІЦЦА** *сов.* узако́ниться.

**УЗАКО́НІЦЬ** *сов.* узако́нить.

**УЗАКО́НЬВАННЕ** *ср.* узаконе́ние.

**УЗАКО́НЬВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* узако́ниваться, узаконя́ться.

**УЗАКО́НЬВАЦЬ** *несов.* узако́нивать, узаконя́ть.

**УЗАМЕ́Н** 1. *нареч.* взаме́н; **атрыма́ць у.** получи́ть взаме́н; 2. *предлог с род.* взаме́н.

**УЗА́ПАР** *нареч. см.* **за́пар.**

**УЗАПХНУ́ТЫ** *разг.* 1. вста́щенный, втა́щенный; 2. напя́ленный; 1, 2 *см.* **узапхну́ць.**

**УЗАПХНУ́ЦЬ** *сов. разг.* 1. *(толкая, втащить наверх)* встащи́ть, втащи́ть; 2. *(надеть с трудом, наспех)* напя́лить; **у. бот** напя́лить сапо́г.

**УЗАРА́НЫ** вспа́ханный.

**УЗАРА́ЦЬ** *сов.* вспаха́ть.

**УЗАРВА́НЫ** 1. взо́рванный; 2. взло́манный; отo̊дранный; 1, 2 *см.* **узарва́ць** 1, 2.

**УЗАРВА́ЦЦА** *сов.* **1.** *(разрушиться от взрыва)* взорва́ться; **2.** *перен. разг. (крайне рассердиться)* взорва́ться, разозли́ться; **ён цярпе́ў-цярпе́ў і ўзарва́ўся** он терпе́л-терпе́л и взорва́лся (разозли́лся).

**УЗАРВА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(разрушить взрывом)* взорва́ть; **2.** *(снять что-л. прикреплённое)* взлома́ть; отодра́ть; **у. падло́гу** взлома́ть пол; **3.** *перен. разг. (крайне рассердить)* взорва́ть, разозли́ть; **гэ́та несправядлі́васць ~ва́ла яго́** э́та несправедли́вость взорва́ла (разозли́ла) его́.

**УЗАСО́С** *нареч.* взасо́с.

**УЗАТКНУ́ТЫ** *разг.* **1.** наса́женный; **2.** наде́тый; 1, 2 *см.* **узаткну́ць.**

**УЗАТКНУ́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** *(на остриё)* насади́ть; **2.** *(обуть наскоро)* наде́ть; **у. бо́ты** наде́ть сапоги́.

**УЗАЦЯ́ЖКУ** *нареч.* **куры́ць у.** кури́ть взатя́жку.

**УЗБАГАЦІ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* обогати́ться; **бібліятэ́ка ўзбагаці́лася но́вымі выда́ннямі** библиоте́ка обогати́лась но́выми изда́ниями; **у. ве́дамі** обогати́ться зна́ниями.

**УЗБАГАЦІ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* обогати́ть; **вайна́ ўзбагаці́ла вае́нных прамысло́ўцаў** война́ обогати́ла вое́нных промы́шленников; **у. свой во́пыт** обогати́ть свой о́пыт.

**УЗБАГАЧА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* обогаща́ться; *см.* **узбагаці́цца, узбагача́ць.**

**УЗБАГАЧА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* обогаща́ть; *см.* **узбагаці́ць.**

**УЗБАГАЧЭ́ННЕ** *ср. в разн. знач.* обогаще́ние; **у. мо́вы** обогаще́ние языка́; **у. во́пытам** обогаще́ние о́пытом.

**УЗБАДЗЁРАНЫ** взбодрённый.

**УЗБАДЗЁРВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* взба́дриваться.

**УЗБАДЗЁРВАЦЬ** *несов.* взба́дривать.

**УЗБАДЗЁРЫЦЦА** *сов.* взбодри́ться.

**УЗБАДЗЁРЫЦЬ** *сов.* взбодри́ть.

**УЗБАЛАМУ́ЦІЦЦА** *сов. разг.* взбаламу́титься, взбудора́житься.

**УЗБАЛАМУ́ЦІЦЬ** *сов. разг.* взбаламу́тить, взбудора́жить.

**УЗБАЛАМУ́ЧАНЫ** *разг.* взбаламу́ченный, взбудора́женный.

**УЗБАЛАМУ́ЧВАЦЬ** *несов. разг.* взбаламу́чивать, взбудора́живать.

**УЗБЕ́ГАЦЦА** *сов. разг.* разбе́гаться.

**УЗБЕ́ГЧЫ** *сов.* взбежа́ть; **у. на трэ́ці паве́рх** взбежа́ть на тре́тий эта́ж.

**УЗБІВА́ННЕ** *ср.* **1.** набива́ние, наби́вка *ж.*; наса́живание, наса́дка *ж.*; **2.** *разг.* натя́гивание, напя́ливание; **3.** взбива́ние, взби́вка *ж.*; **4.** взбива́ние, взби́вка *ж.*; **5.** сня́тие; 1—5 *см.* **узбіва́ць** 1—4, 6.

**УЗБІВА́ЦЦА** *несов.* **1.** *(на что-л. острое, на какое-л. препятствие)* напа́рываться, натыка́ться; **2.** *(неожиданно встречаться с чем-л. неприятным)* натыка́ться; *см.* **узбі́цца** 2; **3.** *разг. (с трудом влезать на что-л.)* взбира́ться, взгромозжда́ться, громозди́ться; **4.** *страд.* набива́ться; наса́живаться; натя́гиваться, напя́ливаться; взбива́ться; взгромозжда́ться; снима́ться; *см.* **узбіва́ць.**

**УЗБІВА́ЦЬ** *несов.* **1.** *(наколачивать ударами)* набива́ть; *(на остриё, рукоятку)* наса́живать; **2.** *разг. (с усилием надевать что-л.)* натя́гивать, напя́ливать; **3.** *(вспенивать)* взбива́ть; **4.** *(делать рыхлым, пу-*

(зарéзал) овцý; 3. *(пад што, на што)* принять *(во что)*, подвéргнуть *(чему)*, взять *(на что)*; **у. пад увáгу** принять во внимáние; **у. пад сумнéнне** подвéргнуть сомнéнию; 4. *(поместить)* взять, заключить; **у. у дýжкі** взять *(заключить)* в скóбки; ◊ **у. сваё** взять своё; **у. за каўнéр** взять за шиворот; **у. на прыцэл** взять на прицéл; **у. у абцугі** взять в клéщи; **у. у рабóту** взять в рабóту; **у. у пераплёт** взять в переплёт; **у. за гóрла** взять за гóрло; **у. верх** взять верх; **у. грэх на душý** взять грех нá душу; **у. быкá за рóгі** взять быкá за рогá; **у. слóвы назáд** взять словá обрáтно; **узялó за сэрца** взялó зá сердце; **у. за душý** взять зá душу; **у. на буксір** взять на буксир; **у. на мýшку** взять на мýшку; **у. на замéтку (на карандáш)** взять на замéтку (на карандáш); **у. бóга за барадý** взять (ухватить) бóга за бóроду; **у. за жывóе** взять за живóе; **у. за жáбры (шчэлепы)** взять за жáбры; **у. сабé за прáвіла** взять (положить) себé за прáвило; **у. курс** взять курс; **у. улáду** взять власть; **у. за бакі** взять за бокá; **у. шлюб** вступить в брак; **у. на ланцýг** взять на цепь; **у. гóлымі рукáмі** взять гóлыми рукáми; **у. лéйцы ў рýкі** взять вóжжи в рýки; **у. мóду**: а) повáдиться; б) приобрести привычку; привыкнуть; **у. сябé ў рýкі** взять себя в рýки; **у. вóчы ў рýкі** смотрéть в óба; **што з ягó вóзьмеш** с негó взятки глáдки; **у. ініцыятыву ў сваé рýкі** взять инициативу в свои рýки; **нáша ўзялó!** нáша взялá!; **ні ўцяць ні ўзяць** хоть шарóм покати; **чорт не вóзьме** чёрт не возьмёт; **каб ягó чорт узяў** чёрт бы его побрáл; **у. нагý** *воен.* взять нóгу; **нéльга ў рýкі ўзяць** нельзя в рýки взять; **у рот не ўзяць** в рот не взять.

**УІК-ЭНД, -ду** *м.* уик-энд.

**УКАВÁНЫ** *и* **УКÓВАНЫ** 1. *разг.* окóванный; 2. *перен.* скóванный, закóванный; 3. вкóванный; 1—3 *см.* **укавáць**.

**УКАВÁЦЬ** *сов.* 1. *разг. (обить металлом)* ковáть; 2. *перен. (о морозе и т. п.)* сковáть, заковáть; **марóз ~вáў ракý** морóз сковáл (заковáл) рéку; 3. вковáть.

**УКÁЗ** *м.* 1. *(закон, постановление)* укáз; **у. прэзідэнта** укáз президéнта; **падпісáць у.** подписáть укáз; 2. *разг. (приказание, распоряжение)* укáз.

**УКАЗÁЛЬНЫ** указáтельный; ○ **у. пáлец** указáтельный пáлец; **у. займéннік** *грам.* указáтельное местоимéние.

**УКАЗÁННЕ** *ср. в разн. знач.* указáние; *(высок.— ещё)* предначертáние; *см.* **указáць**.

**УКÁЗАНЫ** *прич., прил.* укáзанный; *(высок.— ещё)* предначéртанный; *см.* **указáць**.

**УКАЗÁЦЬ** *сов. в разн. знач.* указáть; *(высок.— ещё)* предначертáть; **у. шляхі ператварэння прырóды** указáть (предначертáть) пути преобразовáния прирóды; **у. на памылкі** указáть на ошибки; **у. на лéпшы мéтад** указáть на лýчший мéтод.

**УКÁЗВАЦЦА** *несов. страд.* укáзываться; *см.* **укáзваць**.

**УКÁЗВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* укáзывать; *см.* **указáць**.

**УКÁЗКА** *ж. в разн. знач.* укáзка; **пакáзваць ~кай на кáрце** покáзывать укáзкой на кáрте; **рабіць па ўкáзцы** дéлать по укáзке.

**УКÁЗНЫ** *уст.* укáзный.

**УКÁЗЧЫК** *м.* укáзчик.

**УКА́ЗЧЫЦА** *ж.* ука́зчица.

**УКАКО́ШАНЫ** *разг.* укоко́шенный.

**УКАКО́ШЫЦЬ** *сов. разг.* укоко́шить.

**УКАЛО́ЦЦА** *сов.* уколо́ться.

**УКАЛО́ЦЬ** *сов.* **1.** уколо́ть; *(поранить — ещё)* наколо́ть; **я ўкалóў руку́** я уколо́л (наколо́л) ру́ку; **2.** *перен. (обидеть)* уколо́ть, уязви́ть; **заўва́га балю́ча ўкало́ла яго́** замеча́ние бо́льно уколо́ло (уязви́ло) его́; **3.** *(заставить войти внутрь)* вколо́ть; воткну́ть; **у. іго́лку ў падушачку** вколо́ть (воткну́ть) иго́лку в поду́шечку.

**УКАЛУПІ́ЦЬ** *сов. разг.* уколупну́ть; уковырну́ть.

**УКАЛУПНУ́ЦЬ** *сов. разг. однокр.* **1.** уколупну́ть; уковырну́ть; **2.** *перен.* подде́ть, уколупну́ть.

**УКАЛЫХА́НЫ 1.** ука́чанный, убаю́канный; **2.** ука́чанный; 1, 2 *см.* **укалыха́ць.**

**УКАЛЫХА́ЦЦА** *сов.* укача́ться, убаю́каться.

**УКАЛЫХА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(ребёнка)* укача́ть, убаю́кать; **2.** *(утомить качкой)* укача́ть.

**УКАЛЫ́ХВАННЕ** *ср.* **1.** ука́чивание, убаю́кивание; **2.** ука́чивание; 1, 2 *см.* **укалы́хваць.**

**УКАЛЫ́ХВАЦЦА** *несов.* **1.** *см.* **укалыха́цца; 2.** *страд.* ука́чиваться, убаю́киваться; *см.* **укалы́хваць.**

**УКАЛЫ́ХВАЦЬ** *несов.* **1.** *(ребёнка)* ука́чивать, убаю́кивать; **2.** *(утомлять качкой)* ука́чивать.

**УКАМПЛЕКТАВА́ННЕ** *ср.* укомплектова́ние.

**УКАМПЛЕКТАВА́НЫ** укомплекто́ванный.

**УКАМПЛЕКТАВА́ЦЦА** *сов.* укомплектова́ться.

**УКАМПЛЕКТАВА́ЦЬ** *сов.* укомплектова́ть.

**УКАМПЛЕКТО́ЎВАННЕ** *ср.* укомплекто́вывание, укомплекто́вка *ж.*

**УКАМПЛЕКТО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* укомплекто́вываться.

**УКАМПЛЕКТО́ЎВАЦЬ** *несов.* укомплекто́вывать.

**УКА́ПАНЫ 1.** зака́панный; ука́панный, иска́панный; **2.** вка́панный; 1, 2 *см.* **ука́паць.**

**УКАПА́НЫ** вры́тый, вко́панный; *см.* **укапа́ць** 1.

**УКА́ПАЦЦА** *сов. разг. (закапать сплошь себя)* ука́паться.

**УКАПА́ЦЦА** *сов.* вры́ться, вкопа́ться, зары́ться.

**УКА́ПАЦЬ** *сов.* **1.** *(забрызгать каплями)* зака́пать; *(сплошь — ещё)* ука́пать, иска́пать; **2.** *(капая, влить)* вка́пать; **у. ка́плі ў нос** вка́пать ка́пли в нос.

**УКАПА́ЦЬ** *сов.* **1.** врыть, вкопа́ть; **у. слуп** врыть (вкопа́ть) столб; **2.** смочь копа́ть; **зямля́ цвёрдая, рыдлёўкай не ўкапа́еш** земля́ твёрдая, лопа́той не смо́жешь копа́ть; **3.** *(небольшое количество)* накопа́ть; **у. бу́льбы на вячэ́ру** накопа́ть карто́шки на у́жин.

**УКА́ПВАННЕ** *ср.* вка́пывание; *см.* **ука́пваць** 2.

**УКА́ПВАЦЦА** *несов. разг.* **1.** *(закапывать сплошь себя)* ука́пываться; **2.** *страд.* зака́пываться; ука́пы-

ваться, иска́пываться; вка́пываться; *см.* **ука́пваць.**

**УКА́ПВАЦЬ** *несов.* **1.** *(забрызгивать каплями)* зака́пывать; *(сплошь — ещё)* ука́пывать, иска́пывать; **2.** *(капая, вливать)* вка́пывать.

**УКАРАНЕ́ЛЫ** *прям., перен. (пустивший глубокие корни)* укорени́вшийся.

**УКАРАНЕ́ННЕ** *ср.* **1.** укорене́ние; **2.** *перен.* укорене́ние, внедре́ние; насажде́ние; 1, 2 *см.* **укараніць.**

**УКАРАНЕ́ЦЬ** *сов. разг. прям., перен. (пустить глубоко корни)* укорени́ться.

**УКАРАНЁНЫ 1.** укоренённый; **2.** *перен.* укоренённый, внедрённый; насаждённый; 1, 2 *см.* **укараніць.**

**УКАРАНІ́ЦЦА** *сов.* **1.** укорени́ться; **2.** *перен.* укорени́ться, внедри́ться.

**УКАРАНІ́ЦЬ** *сов.* **1.** укорени́ть; **у. раса́ду** укорени́ть расса́ду; **2.** *перен.* укорени́ть, внедри́ть; *(распространить — ещё)* насади́ть; **у. но́вы ме́тад у вытво́рчасць** укорени́ть (внедри́ть) но́вый ме́тод в произво́дство; **у. но́выя ідэ́і** укорени́ть (внедри́ть, насади́ть) но́вые иде́и.

**УКАРАНЯ́ЦЦА** *несов.* **1.** *с.-х.* укореня́ться; **2.** *перен.* укореня́ться, внедря́ться; **3.** *страд.* укореня́ться; внедря́ться; насажда́ться; *см.* **укараня́ць.**

**УКАРАНЯ́ЦЬ** *несов.* **1.** *с.-х.* укореня́ть; **2.** *перен.* укореня́ть, внедря́ть; *(распространять — ещё)* насажда́ть; *см.* **укараніць** 2.

**УКАРАЦІ́ЦЦА** *сов.* укороти́ться.

**УКАРАЦІ́ЦЬ** *сов.* укороти́ть; ◊ **у. язы́к** *каму* укороти́ть язы́к *кому.*

**УКАРАЧЭ́ННЕ** *ср.* укороче́ние.

**УКАРМІ́ЦЦА** *сов.* откорми́ться, отъе́сться.

**УКАРМІ́ЦЬ** *сов.* **1.** откорми́ть, упита́ть; **у. парася́ да свя́та** откорми́ть поросёнка к пра́зднику; **2.** *разг.* прокорми́ть; **у. жывёлу** прокорми́ть скот.

**УКАРО́ЧАНЫ** укоро́ченный.

**УКАРО́ЧВАННЕ** *ср.* укора́чивание.

**УКАРО́ЧВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* укора́чиваться.

**УКАРО́ЧВАЦЬ** *несов.* укора́чивать.

**УКАРЧАНЕ́ЛЫ 1.** замёрзший, озя́бший, закочене́вший; **2.** затверде́вший; окочене́вший; 1, 2 *см.* **укарчане́ць.**

**УКАРЧАНЕ́ЦЬ** *сов.* **1.** замёрзнуть, озя́бнуть, окочене́ть; **2.** затверде́ть; *(о трупе)* окочене́ть.

**УКАРЭ́ЦЬ** *сов. разг. см.* **скарэ́ць.**

**УКАСІ́ЦЬ** *сов.* **1.** смочь коси́ть; **тупо́й касо́й гэ́тай травы́ не ўко́сіш** тупо́й косо́й э́ту траву́ не смо́жешь коси́ть; **2.** скоси́ть; накоси́ть *(немного)*; **у. канюшы́ны** накоси́ть немно́го кле́вера.

**УКАЦІ́ЦЦА** *сов. прям., перен.* вкати́ться; **мяч ~ціўся ў варо́ты** мяч вкати́лся в воро́та; **расчыні́ліся дзве́ры, і ў пако́й клубко́м ~ціўся хло́пчык** распахну́лась дверь, и в ко́мнату клубко́м вкати́лся мальчуга́н.

**УКАЦІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* вкати́ть; **у. у вазо́ўню калёсы** вкати́ть в сара́й теле́гу; **у. мяч у варо́ты** вкати́ть мяч в воро́та; **у. вымо́ву** вкати́ть вы́говор; **у. дво́йку** вкати́ть дво́йку; **2.** *разг.* (въе́хать) вкати́ть.

**УКАЧА́НЫ 1.** *(у што)* обка́танный *(в чём)*, обва́лянный *(в чём)*; вы́валянный *(в чём)*; **2.** примя́тый, умя́тый; 1, 2 *см.* **укача́ць.**

**УКАЧА́ЦЦА** *сов. (у што)* обваля́ться *(в чём)*; вы́валяться *(в чём)*; **у. ў муку́** обваля́ться в муке́; **у. ў гразь** вы́валяться в грязи́.

**УКАЧА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(у што)* обката́ть *(в чём)*, обваля́ть *(в чём)*; вы́валять *(в чём)*; **у. у муку́** обката́ть (обваля́ть) в муке́; **у. у гразь** вы́валять в грязи́; **2.** *(траву и т. п.)* примя́ть, умя́ть.

**УКА́ЧВАННЕ** *(у што) ср.* обка́тывание *(в чём)*, обва́ливание *(в чём)*; выва́ливание *(в чём)*; *см.* **ука́чваць** 1.

**УКА́ЧВАЦЦА** *несов.* **1.** *(у што)* обва́ливаться *(в чём)*; выва́ливаться *(в чём)*; *см.* **укача́цца; 2.** *страд.* обка́тываться, обва́ливаться; выва́ливаться; примина́ться, умина́ться; *см.* **ука́чваць.**

**УКА́ЧВАЦЬ** *несов.* **1.** *(у што)* обка́тывать *(в чём)*, обва́ливать *(в чём)*; выва́ливать *(в чём)*; **2.** *(траву и т. п.)* примина́ть, умина́ть; 1, 2 *см.* **укача́ць.**

**УКВА́СІЦЦА** *сов.* уква́ситься.

**УКВА́СІЦЬ** *сов.* уква́сить.

**УКВА́ШАНЫ** уква́шенный.

**УКВЭ́ЦАНЫ** *разг.* вы́пачканный, вы́мазанный.

**УКВЭ́ЦАЦЦА** *сов. разг.* вы́пачкаться, вы́мазаться.

**УКВЭ́ЦАЦЬ** *сов. разг.* вы́пачкать, вы́мазать.

**УКВЯЛІ́ЦЬ** *сов.* огорчи́ть, расстро́ить до слёз; **у. дзіця́** огорчи́ть (расстро́ить до слёз) ребёнка.

**УКЕ́МІЦЬ** *сов. разг.* уразуме́ть, поня́ть.

**УКЕ́ЎЗАНЫ** *разг.* вы́мазанный, вы́пачканный.

**УКЕ́ЎЗАЦЬ** *сов. разг.* вы́мазать, вы́пачкать.

**УКЕ́ЎЗВАЦЬ** *несов. разг.* выма́зывать, па́чкать.

**УКІ́ДАНЫ 1.** вбро́санный, вки́данный; **2.** забро́санный; **3.** вки́данный; 1—3 *см.* **укі́даць.**

**УКІДА́ЦЦА** *несов. страд.* броса́ться; вбра́сываться, вки́дываться; кла́сться; *см.* **укіда́ць.**

**УКІ́ДАЦЬ** *сов.* **1.** *(внутрь чего-л. в несколько приёмов)* вброса́ть, вкида́ть; **2.** *(чем-л.)* заброса́ть; **усю́ падло́гу ўкі́далі аку́ркамі** весь пол заброса́ли оку́рками; **3.** *(в бёрдо)* вкида́ть.

**УКІДА́ЦЬ** *несов.* **1.** броса́ть, вбра́сывать, вки́дывать; **2.** *(в пищу)* класть; 1, 2 *см.* **укі́нуць.**

**УКІ́ДВАЦЬ** *несов.* **1.** *(внутрь чего-л. в несколько приёмов)* вбра́сывать, вки́дывать; **2.** *(чем-л.)* забра́сывать; *см.* **укі́даць** 2; **3.** *(в бёрдо)* вки́дывать.

**УКІ́НУТЫ 1.** бро́шенный, вбро́шенный, вки́нутый; **2.** поло́женный; 1, 2 *см.* **укі́нуць.**

**УКІ́НУЦЦА** *сов. разг.* упа́сть, ввали́ться; **у. ў я́му** упа́сть (ввали́ться) в я́му.

**УКІ́НУЦЬ** *сов.* **1.** бро́сить, вбро́сить, вки́нуть; **у. ка́мень у я́му** бро́сить (вбро́сить, вки́нуть) ка́мень в я́му; **2.** *(в пищу)* положи́ть; **у. у чай кава́лачак цу́кру** положи́ть в чай кусо́чек са́хару.

**УКІПА́ЦЬ** *несов. (от кипения уменьшаться в объёме)* укипа́ть.

**УКІПЕ́ЦЬ** *сов. (от кипения уменьшиться в объёме)* укипе́ть.

**УКІРАВА́ЦЬ** *сов. разг.* смочь пра́вить (управля́ть); **ты не ўкіру́еш гэ́тымі ко́ньмі** ты не смо́жешь пра́вить *(управлять)* э́тими лошадьми́.

**УКІСА́ННЕ** *ср.* **1.** закиса́ние, укиса́ние; **2.** прокиса́ние; 1, 2 *см.* **укіса́ць.**

**УКІСА́ЦЬ** *несов.* **1.** закиса́ть, укиса́ть; **2.** *(портиться)* прокиса́ть, ки́снуть.

**УКІ́СЛЫ 1.** заки́сший, уки́сший; **2.** проки́сший.

**УКІ́СНУЦЬ** *сов.* **1.** заки́снуть, уки́снуть; **2.** *(испортиться)* проки́снуть; **суп укіс** суп проки́с.

**УКЛА́Д** I, **-ду** *м. в разн. знач.* укла́д; **бытавы́ ўклад** бытово́й укла́д; **дробнатава́рны ўклад** мелкотова́рный укла́д.

**УКЛА́Д** II, **-ду** *м. в разн. знач.* вклад; *(в какое-л. общее дело — ещё)* ле́пта *ж.*; **зрабі́ць у.** сде́лать вклад; **тэрміно́вы ўклад** сро́чный вклад; **каштоўны ўклад у наву́ку** це́нный вклад в нау́ку; **працо́ўны ўклад** трудово́й вклад, трудова́я ле́пта.

**УКЛАДА́ЛЬНІК** *м.* составитель; **у. слоўніка** состави́тель словаря́.

**УКЛАДА́ЛЬНІЦА** *ж.* состави́тельница; *см.* **укладальнік.**

**УКЛАДА́ЛЬНІЦКІ** состави́тельский; *см.* **укладальнік.**

**УКЛАДА́ННЕ** I *ср.* **1.** вкла́дывание; **2.** *перен.* вкла́дывание; 1, 2 *см.* **уклада́ць** I 2, 3; **3.** *в др. знач.* вложе́ние; **пакет з ~ннем** паке́т с вложе́нием; ○ **капіта́льныя ўкладанні** капита́льные вложе́ния.

**УКЛАДА́ННЕ** II *ср.* составле́ние; *см.* **уклада́ць** II.

**УКЛАДА́ЦЦА** I *несов.* **1.** *в разн. знач.* укла́дываться; **2.** *разг. (спать)* укла́дываться, ложи́ться; **3.** *(вмещаться)* вкла́дываться, входи́ть; 1—3 *см.* **укла́сціся, улажы́цца.**

**УКЛАДА́ЦЦА** II *несов. страд.* составля́ться; *см.* **уклада́ць** II.

**УКЛАДА́ЦЬ** I *несов.* **1.** *(спать)* укла́дывать; **2.** *(класть внутрь чего-л.)* вкла́дывать; засо́вывать, сова́ть; **3.** *перен.* вкла́дывать; 1—3 *см.* **улажы́ць** 1, 5, 6, **укла́сці** I 4.

**УКЛАДА́ЦЬ** II *несов. (пособие, книгу и т. п.)* составля́ть; *см.* **укла́сці** II.

**УКЛА́ДАЧНЫ** укла́дочный.

**УКЛА́ДВАННЕ** *ср.* **1.** укла́дывание; **2.** укла́дывание, выкла́дывание; **3.** укла́дывание; **4.** вкла́дывание; **5.** *перен.* вкла́дывание; 1—5 *см.* **укла́дваць.**

**УКЛА́ДВАЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* укла́дываться; **2.** *разг. (спать)* укла́дываться; **3.** *(вмещаться)* вкла́дываться, входи́ть; 1—3 *см.* **укла́сціся; улажы́цца; 4.** *страд.* укла́дываться, кла́сться; выкла́дываться; вкла́дываться; засо́вываться, сова́ться; *см.* **укла́дваць.**

**УКЛА́ДВАЦЬ** *несов.* **1.** *(спать)* укла́дывать, класть; **2.** *(покрывать предметами поверхность чего-л.)* укла́дывать, выкла́дывать; **3.** *(располагать, размещать каким-л. образом, в определённом порядке или строить, складывая)* укла́дывать; **4.** *(класть внутрь чего-л.)* вкла́дывать; засо́вывать, сова́ть; **5.** *перен.* вкла́дывать; 1—5 *см.* **улажы́ць** 1—3, 5, 6, **укла́сці** I 1—4.

**УКЛА́ДЗЕНЫ** I **1.** уло́женный; **2.** уло́женный, вы́ложенный; **3.** уло́женный; **4.** *в разн. знач.* вло́женный; 1—4 *см.* **укла́сці** I.

**УКЛА́ДЗЕНЫ** II соста́вленный; *см.* **укла́сці** II.

**УКЛА́ДКА** *ж.* **1.** *(действие)* укла́дка; **у. ре́ек на чыгу́нцы** укла́дка ре́льсов на желе́зной доро́ге; **2.** вкла́дка; **каляро́вая ўкла́дка** цветна́я вкла́дка.

**УКЛАДНЫ́** вкладно́й.

**УКЛА́ДЧЫК** I *м.* вкла́дчик.

**УКЛА́ДЧЫК** II *м.* укла́дчик.

**УКЛА́ДЧЫЦА** I *ж.* вкла́дчица.

**УКЛА́ДЧЫЦА** II *ж.* укла́дчица.

**УКЛА́ДЫШ** *м.* **1.** вкла́дыш; **каляро́вы ўкла́дыш** цветно́й вкла́дыш; **2.** *тех.* вкла́дыш.

**УКЛА́СЦІ** I *сов.* **1.** *(положить спать)* уложи́ть; **2.** *(покрыть предметами поверхность чего-л.)* уложи́ть, вы́ложить; **роў ўклалі дзёрнам** кана́ву уложи́ли (вы́ложили) дёрном; **у. стол кні́гамі** уложи́ть стол кни́гами; **3.** *(расположить, разместить каким-л. образом, в определённом порядке или построить складывая)* уложи́ть; **у. снапы́ на таку́ ў адзі́н рад** уложи́ть снопы́ на току́ в оди́н ряд; **у. шпа́лы на палатне́ даро́гі** уложи́ть шпа́лы на полотне́ доро́ги; **4.** *в разн. знач.* вложи́ть; *см.* **улажы́ць** 5, 6.

**УКЛА́СЦІ** II *сов. (пособие, книгу и т. п.)* соста́вить; **у. збо́рнік практыкава́нняў** соста́вить сбо́рник упражне́ний.

**УКЛА́СЦІСЯ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* уложи́ться; **цаглі́ны до́бра ўкла́ліся** кирпичи́ны хорошо́ уложи́лись; **у. ў інстру́кцыю** уложи́ться в инстру́кцию; **у. ў рэгла́мент** уложи́ться в регла́мент; **2.** *разг. (спать)* уле́чься, лечь; **3.** *(вместиться)* вложи́ться, войти́; ◊ **у. ў галаве́ (у свядо́масці)** уложи́ться в голове́ (в созна́нии).

**УКЛЕ́ЕНЫ** **1.** вкле́енный; **2.** укле́енный; 1, 2 *см.* **укле́іць** 1, 2.

**УКЛЕ́ІЦЦА** *сов.* **1.** вкле́иться; **2.** *разг. (уместиться)* укле́иться.

**УКЛЕ́ІЦЬ** *сов.* **1.** *(вделать, вставить)* вкле́ить; **у. staро́нку ў кні́гу** вкле́ить страни́цу в кни́гу; **2.** *(заклеить сплошь)* укле́ить; **у. сцяну́ плака́тамі** укле́ить сте́ну плака́тами; **3.** *прост.* уда́рить.

**УКЛЕ́ЙВАННЕ** *ср.* **1.** вкле́ивание; **2.** укле́ивание; 1, 2 *см.* **укле́йваць.**

**УКЛЕ́ЙВАЦЦА** *несов.* **1.** вкле́иваться; **2.** укле́иваться; **3.** *страд.* вкле́иваться; укле́иваться; *см.* **укле́йваць.**

**УКЛЕ́ЙВАЦЬ** *несов.* **1.** *(вделывать, вставлять)* вкле́ивать; **2.** *(заклеивать сплошь)* укле́ивать; 1, 2 *см.* **укле́іць** 1, 2.

**УКЛЕ́ЙКА** *ж.* **1.** вкле́йка; **2.** укле́йка; 1, 2 *см.* **укле́іць** 1, 2.

**УКЛЕ́НЧАНЫ** коленопреклонённый.

**УКЛЕ́НЧЫЦЬ** *сов.* стать на коле́ни, преклони́ть коле́ни.

**УКЛЁПАНЫ** *см.* **укляпа́ны.**

**УКЛЁПВАННЕ** *ср.* *(действие)* вклёпка *ж.*

**УКЛЁПВАЦЦА** *несов.* *страд.* вклёпываться.

**УКЛЁПВАЦЬ** *несов.* *тех.* вклёпывать.

**УКЛІНАВА́НЫ** *(укреплённый при помощи клиньев)* заклинённый; *см.* **укліна ва́ць.**

**УКЛІНАВА́ЦЬ** *сов. (укрепить при помощи клиньев)* заклини́ть.

**УКЛІНЕ́ННЕ** *ср. прям., перен.* вклине́ние; *см.* **укліні́ць.**

**УКЛІ́НЕНЫ** *прям., перен.* вклинённый; *см.* **укліні́ць.**

**УКЛІНІ́ЦЦА** *сов. прям., перен.* вклини́ться.

**УКЛІНІ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* вкли́нить.

**УКЛІНО́ЎВАЦЬ** *несов. (укреплять при помощи клиньев)* закли́нивать.

**УКЛІ́НЬВАННЕ** *ср. прям., перен.* вкли́нивание; *см.* **уклі́ньваць.**

**УКЛІ́НЬВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* вкли́ниваться, вклиня́ться; *см.* **укліні́цца, уклі́ньваць.**

**УКЛІ́НЬВАЦЬ** *несов. прям., перен. (вставлять клином)* вкли́нивать, вклиня́ть; *см.* **укліні́ць.**

**УКЛЮЧА́ЛЬНІК** *м. эл.* включа́тель.

**УКЛЮ́ЧАНЫ 1.** *в разн. знач.* включённый; **2.** включённый, внесённый; 1, 2 *см.* **уключы́ць.**

**УКЛЮЧА́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* включа́ться; *см.* **уключы́цца; 2.** *страд.* включа́ться; вноси́ться; *см.* **уключа́ць.**

**УКЛЮЧА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* включа́ть; **2.** включа́ть; вноси́ть; 1, 2 *см.* **уключы́ць.**

**УКЛЮ́ЧНА** *нареч.* включи́тельно; **па дзеся́тае лі́пеня ўклю́чна** по деся́тое ию́ля включи́тельно.

**УКЛЮ́ЧЫНА** *ж.* уклю́чина.

**УКЛЮЧЫ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* включи́ться; **стано́к ~чы́ўся аўтаматы́чна** стано́к включи́лся автомати́чески; **у. ў спабо́рніцтва** включи́ться в соревнова́ние; **у. ў размо́ву** включи́ться в разгово́р.

**УКЛЮЧЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* включи́ть; **у. тэлеві́зар** включи́ть телеви́зор; **у. ў прагра́му но́выя пу́нкты** включи́ть в програ́мму но́вые пу́нкты; **2.** включи́ть, внести́; **у. у спіс** включи́ть (внести́) в спи́сок.

**УКЛЮЧЭ́ННЕ** *ср.* **1.** *в разн. знач.* включе́ние; **2.** включе́ние, внесе́ние; 1, 2 *см.* **уключы́ць.**

**УКЛЯПА́НЫ** *тех.* вклёпанный.

**УКЛЯПА́ЦЦА** *сов.* **1.** *тех.* вклепа́ться; **2.** *перен. разг. (влюбиться)* втю́риться; **3.** *перен. разг.* вклепа́ться; обмишу́литься, сде́лать про́мах, ошиби́ться.

**УКЛЯПА́ЦЬ** *сов. тех.* вклепа́ть.

**УКО́Л, -лу** *м. в разн. знач.* уко́л; **у. і́голкай** уко́л иго́лкой; **прызна́чыць хво́раму ўко́лы** назна́чить больно́му уко́лы; **у. самалю́бству** уко́л самолю́бию; ◊ **шпі́лечны ўкол** була́вочный уко́л.

**УКО́ЛАТЫ 1.** уко́лотый; нако́лотый; **2.** *перен.* уко́лотый, уязвлённый; **3.** вко́лотый; во́ткнутый; 1—4 *см.* **укало́ць.**

**УКО́ЛВАЦЦА** *несов.* **1.** ука́лываться; *см.* **укало́цца; 2.** *страд.* ука́лываться; уязвля́ться; вка́лываться; втыка́ться; *см.* **уко́лваць.**

**УКО́ЛВАЦЬ** *несов.* **1.** ука́лывать; *(ранить — ещё)* нака́лывать; **2.** *перен. (обижать)* ука́лывать, уязвля́ть; **3.** вка́лывать; втыка́ть; 1—3 *см.* **укало́ць.**

**УКО́ПАНЫ** *см.* **укапа́ны;** ◊ **як у.** как вко́панный.

**УКО́ПВАННЕ** *ср.* вка́пывание; *см.* **уко́пваць.**

**УКО́ПВАЦЦА** *несов.* **1.** врыва́ться, вка́пываться, зарыва́ться; **2.** *страд.* врыва́ться, вка́пываться; *см.* **уко́пваць.**

**УКО́ПВАЦЬ** *несов.* врыва́ть, вка́пывать; *см.* **укапа́ць** 1.

**УКО́РМЛЕНАСЦЬ** *ж.* отко́рмленность, упи́танность.

**УКО́РМЛЕНЫ** **1.** *прич.* отко́рмленный, упи́танный; отъе́вшийся; **2.** *прил.* отко́рмленный, упи́танный.

**УКО́РМЛІВАННЕ** *ср.* отка́рмливание; *см.* **уко́рмліваць** 1.

**УКО́РМЛІВАЦЦА** *несов.* **1.** отка́рмливаться; отъеда́ться; **2.** *страд.* отка́рмливаться, упи́тываться; прока́рмливаться; *см.* **уко́рмліваць.**

**УКО́РМЛІВАЦЬ** *несов.* **1.** отка́рмливать, упи́тывать; **2.** *разг.* прока́рмливать; 1, 2 *см.* **укармі́ць.**

**УКО́С, -су** *м. с.-х.* **1.** *(действие)* уко́с; **2.** *(количество скошенной травы)* уко́с; **гадавы́ ўкос** годово́й уко́с.

**УКО́СНЫ** *с.-х.* уко́сный.

**УКО́ЎВАННЕ** *ср.* **1.** *разг.* око́вывание; **2.** *перен.* ско́вывание, зако́вывание; **3.** вко́вывание; 1—3 *см.* **уко́ўваць.**

**УКО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* око́вываться; вко́вываться; *см.* **уко́ўваць.**

**УКО́ЎВАЦЬ** *несов.* **1.** *разг. (обивать металлом)* око́вывать; **2.** *перен. (о морозе и т. п.)* ско́вывать, зако́вывать; **3.** вко́вывать; 1—3 *см.* **укава́ць.**

**УКО́ЎКА** *ж. (действие)* вко́вка; *см.* **укава́ць** 3.

**УКО́ЧАНЫ** вка́ченный; *см.* **укаці́ць** 1.

**УКО́ЧВАННЕ** *ср.* вка́тывание; *см.* **уко́чваць.**

**УКО́ЧВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* вка́тываться; *см.* **укаці́цца, уко́чваць.**

**УКО́ЧВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* вка́тывать; *см.* **укаці́ць** 1.

**УКО́ШАНЫ** ско́шенный; нако́шенный; *см.* **укасі́ць** 2.

**УКО́ШВАЦЬ** *несов.* ска́шивать; нака́шивать *(немного)*; *см.* **укасі́ць** 2.

**УКРА́ДВАЦЦА** *несов. в разн. знач.* вкра́дываться; *см.* **укра́сціся.**

**УКРА́ДЗЕНЫ** укра́денный, утащенный, уворо́ванный; похи́щенный; уведённый; у́гнанный; *см.* **укра́сці.**

**УКРАІ́НА** *ж.* Украи́на.

**УКРАІ́НЕЦ, -нца** *м.* украи́нец.

**УКРАІНІЗАВА́НЫ** украинизи́рованный.

**УКРАІНІЗАВА́ЦЦА** **1.** *сов. и несов.* украинизи́роваться; **2.** *несов. страд.* украинизи́роваться.

**УКРАІНІЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* украинизи́ровать.

**УКРАІНІЗА́ЦЫЯ** *ж.* украиниза́ция.

**УКРАІНІ́ЗМ** *м.* украини́зм.

**УКРАІ́НКА I** *ж.* (*к* **украі́нец**) украи́нка.

**УКРАІ́НКА II** *ж. (сорт пшеницы)* украи́нка.

**УКРАІ́НСКА-БЕЛАРУ́СКІ** украи́нско-белору́сский.

**УКРАЇНСКА-РУ́СКІ** украинско-ру́сский.

**УКРАЇНСКІ** украинский.

**УКРАЇНЦЫ, -цаў** украинцы.

**УКРА́ПАНЫ 1.** вкра́пленный, вкраплённый; **2.** зака́панный; 1, 2 *см.* **укра́паць.**

**УКРА́ПАЦЬ** *сов.* **1.** *(сделать в чём-л. вкрапины)* вкра́пить; **2.** *(покрыть каплями)* зака́пать.

**УКРА́ПВАННЕ** *ср.* **1.** вкрапле́ние, вкра́пливание; **2.** зака́пывание; 1, 2 *см.* **укра́паць.**

**УКРА́ПВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* вкра́пливаться, вкрапля́ться; зака́пываться.

**УКРА́ПВАЦЬ** *несов.* **1.** вкра́пливать, вкрапля́ть; **2.** зака́пывать.

**УКРА́ПІНА** *ж. разг.* вкра́пина, вкрапле́ние *ср.*

**УКРА́ПІЦЦА** *сов.* вкра́питься.

**УКРА́СА** *ж.* **1.** *(предмет)* украше́ние *ср.*; **2.** *перен. (гордость кого-л., чего-л.)* краса́, украше́ние *ср.*

**УКРА́СЦІ** *сов.* укра́сть, утащи́ть, уворова́ть; похи́тить; *(животное, машину и т. п.— ещё)* увести́, угна́ть; ◊ **у Бо́га цяля́ ўкра́сці** у Бо́га телёнка укра́сть; **з-пад су́чкі яйцо́ ўкра́дзе** *(о ловкаче, воре) погов.* из-под су́чки яйцо́ ута́щит; **хто парася́ ўкраў, у таго́ ў вушах пішчыць** *посл.* на воре́ ша́пка гори́т.

**УКРА́СЦІСЯ** *сов. в разн. знач.* вкра́сться; **у тэкст укра́лася памылка** в текст вкра́лась оши́бка; **укра́ўся ў душу́ страх** вкра́лся в ду́шу страх.

**УКРО́ЕНЫ 1.** *порт.* вкро́енный; **2.** отре́занный; 1, 2 *см.* **укро́іць.**

**УКРО́ІЦЬ** *сов.* **1.** *порт.* вкрои́ть; **2.** *(хлеба)* отре́зать.

**УКРО́ЙВАЦЦА** *несов. страд. порт.* вкра́иваться.

**УКРО́ЙВАЦЬ** *несов. порт.* вкра́ивать; *см.* **укро́іць** 1.

**УКРУ́Г** *обл.* **1.** *нареч.* вкруг, вокру́г; **2.** *предлог с род.* вкруг, вокру́г; **у. во́зера расце́ чаро́т** вкруг (вокру́г) о́зера растёт камы́ш.

**УКРУГАВУ́Ю** *нареч.* вкругову́ю.

**УКРУЖКА́** *нареч. разг.* кружко́м.

**УКРУТУ́Ю** *нареч.* вкруту́ю.

**УКРУЦІ́ЦЦА** *сов.* **1.** ввинти́ться, ввернуться, вкрути́ться; **шру́ба лёгка ўкруці́лася** винт легко́ ввинти́лся (ввернулся, вкрути́лся); **2.** *(во что-л.)* заку́таться, заверну́ться; уку́таться; *(чем-л.)* обмота́ться; **у. ў ко́ўдру** заку́таться (заверну́ться, уку́таться) в одея́ло; **у. ручніко́м** обмота́ться полоте́нцем; **3.** *(впутаться во что-л.)* вмота́ться, замота́ться.

**УКРУЦІ́ЦЬ** *сов.* **1.** ввинти́ть, ввернуть, вкрути́ть; **2.** заку́тать, заверну́ть; уку́тать; *(чем-л.)* обмота́ть; **у. дзіця́ ў ко́ўдру** заку́тать ребёнка в одея́ло; **у. каўбасу́ ў папе́ру** заверну́ть колбасу́ в бума́гу; **у. галаву́ ручніко́м** обмота́ть го́лову полоте́нцем; **у. цюк вяро́ўкай** обмота́ть тюк верёвкой; **3.** прикрути́ть, уба́вить; **у. кнот** прикрути́ть (уба́вить) фити́ль; **4.** замота́ть; **не заўва́жыў, як ~ці́ў ле́йцы ў ко́ла** не заме́тил, как замота́л во́жжи в колесо́; **5.** *прост. (присвоить, не возвратить что-л.)* замота́ть, зажи́лить; **у. тысячу рублёў** зажи́лить ты́сячу рубле́й.

**УКРУ́ЧАНЫ** **1.** ввинченный, ввёрнутый, вкру́ченный; **2.** заку́танный, завёрнутый; уку́танный; обмо́танный; **3.** прикру́ченный, уба́вленный; **4.** замо́танный; **5.** *прост.* замо́танный, зажи́ленный; 1—5 *см.* **укруці́ць.**

**УКРУ́ЧВАННЕ** *ср.* **1.** ввинчивание, ввёртывание, вкру́чивание; **2.** заку́тывание, завёртывание; уку́тывание; обма́тывание; **3.** убавле́ние; **4.** зама́тывание; **5.** *прост.* зама́тывание, зажи́ливание; 1—5 *см.* **укру́чваць.**

**УКРУ́ЧВАЦЦА** *несов.* **1.** ввинчиваться, ввёртываться, вкру́чиваться; **2.** заку́тываться, завёртываться; уку́тываться; *(чем-л.)* обма́тываться; *см.* **укруці́цца** 2; **3.** *(впутываться во что-л.)* вма́тываться, зама́тываться; **4.** *страд.* ввинчиваться, ввёртываться, вкру́чиваться; заку́тываться, завёртываться; уку́тываться; обма́тываться; прикру́чиваться, убавля́ться; зама́тываться, зажи́ливаться; *см.* **укру́чваць.**

**УКРУ́ЧВАЦЬ** *несов.* **1.** ввинчивать, ввёртывать, вкру́чивать; **2.** заку́тывать, завёртывать; уку́тывать; *(чем-л.)* обма́тывать; **3.** прикру́чивать, убавля́ть; **4.** зама́тывать; **5.** *прост.* *(присваивать, не возвращать чего-л.)* зама́тывать, зажи́ливать; 1—5 *см.* **укруці́ць.**

**УКРЫВА́ЛЬНІК** *м. юр.* укрыва́тель.

**УКРЫВА́ЛЬНІЦА** *ж. юр.* укрыва́тельница.

**УКРЫВА́ЛЬНІЦКІ** *юр.* укрыва́тельский.

**УКРЫВА́ЛЬНІЦТВА** *ср. юр.* укрыва́тельство.

**УКРЫВА́ННЕ** *ср.* **1.** укрыва́ние; **2.** покрыва́ние; **3.** укрыва́ние; 1—3 *см.* **укрыва́ць.**

**УКРЫВА́ЦЦА** *несов.* **1.** укрыва́ться, накрыва́ться; **2.** *(сплошь)* покрыва́ться; **3.** укрыва́ться; 1—3 *см.* **укры́цца;** **4.** *страд.* укрыва́ться, накрыва́ться; покрыва́ться; усе́иваться; укрыва́ться; *см.* **укрыва́ць.**

**УКРЫВА́ЦЬ** *несов.* **1.** укрыва́ть, накрыва́ть; **2.** *(сплошь)* покрыва́ть; усе́ивать; **3.** *(прятать, защищать)* укрыва́ть; 1—3 *см.* **укры́ць.**

**УКРЫ́ТЫ** **1.** укры́тый, накры́тый; **2.** покры́тый; усе́янный; **3.** укры́тый; 1—3 *см.* **укры́ць.**

**УКРЫ́ЎДЖАНЫ** разоби́женный, оби́женный.

**УКРЫ́ЎДЗІЦЦА** *сов. разг.* разоби́деться, оби́деться.

**УКРЫ́ЎДЗІЦЬ** *сов. разг.* разоби́деть, оби́деть.

**УКРЫ́ЦЦА** *сов.* **1.** укры́ться, накры́ться; **у. ко́ўдрай** укры́ться (накры́ться) одеялом; **2.** *(сплошь)* покры́ться; **лясы́ ўкры́ліся зяляні́най** леса́ покры́лись зе́ленью; **3.** *(спрятавшись, защитить себя от кого-чего-л.)* укры́ться; **у. ад дажджу́** укры́ться от дождя́.

**УКРЫ́ЦЦЕ** *ср. воен.* укры́тие; **страля́ць з ~цця** стреля́ть из укры́тия.

**УКРЫЦЦЁ** *ср. (действие)* укрыва́ние, накрыва́ние; *см.* **укры́ць** 1.

**УКРЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** укры́ть, накры́ть; **у. дзіця́ ко́ўдрай** укры́ть (накры́ть) ребёнка одея́лом; **у. гра́ды ад маро́зу** укры́ть гря́ды от моро́за; **2.** *(сплошь)* покры́ть; усе́ять; **гракі́ ўкры́лі ўсё по́ле** грачи́ покры́ли всё по́ле; **3.** *(спрятать, защитить)*

укры́ць; **ноч укры́ла партыза́н ад во́рага** ночь укры́ла партиза́н от врага́.

**УКРЫШЫ́ЦЬ** *сов.* накроши́ть; **у. цыбу́лі ў суп** накроши́ть лу́ку в суп.

**УКУ́С, -су** *м.* уку́с.

**УКУСІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* укуси́ть; *(жалом — ещё)* ужа́лить; **саба́ка ўкусі́ў за нагу́** соба́ка укуси́ла за́ ногу; **чэ́рствы хлеб цяжка ўкусі́ць** чёрствый хлеб тру́дно укуси́ть; **аса́ ўкусі́ла руку́** оса́ укуси́ла (ужа́лила) ру́ку; **2.** *перен. разг.* уязви́ть, уколо́ть; ◊ **(яка́я) му́ха ўкусі́ла** *каго* (кака́я) му́ха укуси́ла *кого*; **блі́зка ло́каць, ды не ўку́сіш** *посл.* бли́зок ло́коть, да не уку́сишь; **укусі́ўшы, не залі́жаш** *погов.* укуси́в, не зали́жешь.

**УКУ́ШАНЫ** уку́шенный; ужа́ленный; *см.* **укусі́ць 1.**

**УЛАВІ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* улови́ть; **у. пах кве́так** улови́ть за́пах цве́тов; **у. скры́ты сэнс слоў** улови́ть скры́тый смысл слов; **у. зру́чны мо́мант** улови́ть удо́бный моме́нт; **у. гукаву́ю хва́лю** *радио* улови́ть звукову́ю волну́.

**УЛАГО́ДЖАНАСЦЬ** *ж.* умиротворённость.

**УЛАГО́ДЖАНЫ 1.** *прич.* умиротворённый; ублажённый; ума́сленный; **2.** *прил. (успокоенный)* умиротворённый.

**УЛАГО́ДЖВАННЕ** *ср. (действие)* умиротворе́ние.

**УЛАГО́ДЖВАЦЦА** *несов.* **1.** *(успокаиваться)* умиротворя́ться; *см.* **улаго́дзіцца; 2.** *страд.* умиротворя́ться; ублажа́ться; ума́сливаться; *см.* **улаго́джваць.**

**УЛАГО́ДЖВАЦЬ** *несов.* умиротворя́ть; ублажа́ть; ума́сливать.

**УЛАГО́ДЗІЦЦА** *сов. (успокоиться)* умиротвори́ться.

**УЛАГО́ДЗІЦЬ** *сов.* умиротвори́ть; ублажи́ть; ума́слить.

**УЛА́ДА** *ж. в разн. знач.* власть; *(господство — ещё)* влады́чество *ср.*; **вае́нныя ўла́ды** вое́нные вла́сти; **мясцо́вая ўла́да** ме́стная власть; **у. старшыні́** власть председа́теля; **бацько́ўская ўла́да** родите́льская власть; **у. сло́ва** власть сло́ва; **перавышэ́нне ўла́ды** *юр.* превыше́ние вла́сти; **пад ~дай Ры́ма** под вла́стью (влады́чеством) Ри́ма; ◊ **стра́ціць ~ду над сабо́й** потеря́ть власть над собо́й; **стырно́ ўла́ды** *высок.* бразды́ правле́ния; **узя́ць ~ду** встать у вла́сти.

**УЛАДА́ЛЬНІК** *м.* владе́лец.

**УЛАДА́ЛЬНІЦА** *ж.* владе́лица.

**УЛАДА́ЛЬНІЦКІ** владе́льческий.

**УЛАДАЛЮ́Б** *м.* властолю́бец.

**УЛАДАЛЮБІ́ВЫ** властолюби́вый.

**УЛАДАЛЮ́БСТВА** *ср.* властолю́бие.

**УЛАДА́ННЕ** *ср.* **1.** *(действие)* владе́ние; **2.** *(территория, находящаяся в чьей-л. власти)* владе́ние; **аглядáць сваé ~нні** осма́тривать свои́ владе́ния; **3.** *(власть)* влады́чество.

**УЛАДА́Р, -ра́** *м.* **1.** властели́н; власти́тель, повели́тель; **2.** владе́лец; ◊ **у. дум** власти́тель дум.

**УЛАДА́РАННЕ** *ср.* госпо́дство, вла́ствование, влады́чество.

**УЛАДА́РКА** *ж.* **1.** власти́тельница, повели́тельница; **2.** владе́лица.

**УЛАДА́РНА** *нареч.* повели́тельно; *см.* **улада́рны 2.**

**УЛАДА́РНАСЦЬ** *ж.* повели́тельность; *см.* **улада́рны** 2.

**УЛАДА́РНІЦА** *ж. см.* **улада́рка.**

**УЛАДА́РНЫ** 1. владе́тельный; **у. князь** владе́тельный князь; 2. повели́тельный; вла́стный; **у. жэст** повели́тельный жест.

**УЛАДА́РСТВА** *ср.* 1. *(господство)* владе́ние, влады́чество; **у. зямлёй** владе́ние землёй; 2. *(собственность)* владе́ние.

**УЛАДА́РЫЦЬ** *несов. прям., перен.* госпо́дствовать; вла́ствовать; влады́чествовать.

**УЛАДА́ЦЬ** *несов.* 1. владе́ть, облада́ть; **у. крыні́цамі сыраві́ны** владе́ть (облада́ть) исто́чниками сырья́; **у. бага́ццем** владе́ть (облада́ть) бога́тством; 2. *(держать в своей власти)* владе́ть; управля́ть.

**УЛА́ДЖАНЫ** 1. ула́женный; 2. *разг.* устро́енный; 1, 2 *см.* **ула́дзіць** 1, 3.

**УЛА́ДЖВАННЕ** *ср.* 1. ула́живание; 2. *разг.* устро́йство; *см.* **ула́джваць** 1, 3.

**УЛА́ДЖВАЦЦА** *несов.* 1. ула́живаться; 2. *разг.* устра́иваться, поступа́ть; 1, 2 *см.* **ула́дзіцца;** 3. *страд.* ула́живаться; устра́иваться; *см.* **ула́джваць** 1, 3.

**УЛА́ДЖВАЦЬ** *несов.* 1. ула́живать; 2. угожда́ть; 3. *разг.* *(определять куда-л.)* устра́ивать; 4. *(делать что-л. вовремя)* уга́дывать; 1—4 *см.* **ула́дзіць.**

**УЛА́ДЗІЦЦА** *сов.* 1. ула́диться; **спра́ва ўла́дзілася** де́ло ула́дилось; 2. *разг.* устро́иться, поступи́ть; **у. на слу́жбу** устро́иться (поступи́ть) на слу́жбу.

**УЛА́ДЗІЦЬ** *сов.* 1. ула́дить; **у. спра́вы** ула́дить дела́; **у. пыта́нне** ула́дить вопро́с; 2. угоди́ть; **яму́ цяжка ўла́дзіць** *безл.* ему́ тру́дно угоди́ть; 3. *разг.* *(определить куда-л.)* устро́ить; **у. на слу́жбу** устро́ить на слу́жбу; 4. *(сделать что-л. вовремя)* угоди́ть, угада́ть; **~дзіў пад са́мы абе́д** угоди́л (угада́л) к са́мому обе́ду.

**УЛАДКАВА́ННЕ** *ср. разг.* 1. приведе́ние в поря́док, упоря́дочение; 2. устро́йство; 1, 2 *см.* **уладкава́ць.**

**УЛАДКАВА́НЫ** *разг.* 1. приведённый в поря́док, упоря́доченный; 2. устро́енный; 1, 2 *см.* **уладкава́ць.**

**УЛАДКАВА́ЦЦА** *сов. разг.* 1. прийти́ в поря́док, упоря́дочиться; **усё паступо́ва ўладкава́лася** всё постепе́нно пришло́ в поря́док (упоря́дочилось); 2. *(на работу)* устро́иться.

**УЛАДКАВА́ЦЬ** *сов. разг.* 1. привести́ в поря́док, упоря́дочить; **у. спра́вы** упоря́дочить дела́; 2. *(на работу)* устро́ить.

**УЛАДКО́ЎВАННЕ** *ср. разг.* 1. приведе́ние в поря́док, упоря́дочение; 2. устро́йство; 1, 2 *см.* **уладко́ўваць.**

**УЛАДКО́ЎВАЦЦА** *несов. разг.* 1. приходи́ть в поря́док, упоря́дочиваться; 2. *(на работу)* устра́иваться; 1, 2 *см.* **уладкава́цца;** 3. *страд.* упоря́дочиваться; устра́иваться; *см.* **уладко́ўваць.**

**УЛАДКО́ЎВАЦЬ** *несов. разг.* 1. приводи́ть в поря́док, упоря́дочивать; 2. *(на работу)* устра́ивать; 1, 2 *см.* **уладкава́ць.**

**УЛА́ДНА** *нареч.* вла́стно, повели́тельно; *см.* **ула́дны.**

**УЛА́ДНАСЦЬ** *ж.* вла́стность, повели́тельность; *см.* **ула́дны.**

**УЛА́ДНЫ** *прям., перен.* вла́стный, повели́тельный; **у. го́лас** вла́стный (повели́тельный) го́лос.

**УЛАДЫ́КА** *м. церк.* влады́ка; ◊ **свая́ рука́ ўлады́ка** своя́ рука́ влады́ка.

**УЛАДЫ́ЧЫЦА** *ж. книжн.* влады́чица.

**УЛАЖЫ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* уложи́ться; **усе́ рэ́чы ўлажылі́ся ў чамада́н** все ве́щи уложи́лись в чемода́н; **даклáдчык ~жы́ўся ў адну́ гадзі́ну** ле́ктор уложи́лся в оди́н час.

**УЛАЖЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(спать)* уложи́ть; **2.** *(покрыть предметами поверхность чего-л.)* уложи́ть, вы́ложить; **у. падло́гу плі́ткай** уложи́ть пол пли́ткой; **3.** *(расположить, разместить каким-л. образом, в определённом порядке или построить, складывая)* уложи́ть; **у. тру́бы** уложи́ть тру́бы; **у. валасы́** уложи́ть во́лосы; **4.** *перен. разг. (убить)* уложи́ть; **5.** *(положить внутрь чего-л.)* вложи́ть; засу́нуть, су́нуть; **у. кні́гу ў партфе́ль** вложи́ть кни́гу в портфе́ль; **у. ша́блю ў но́жны** вложи́ть са́блю в но́жны; **6.** *перен.* вложи́ть; **мно́га сіл і сро́дкаў ~жы́ў ён у гэ́ту спра́ву** мно́го сил и средств вложи́л он в э́то де́ло; **у. гро́шы ў будаўні́цтва даро́гі** вложи́ть де́ньги в строи́тельство доро́ги; **у. у сло́вы і́ншы сэнс** вложи́ть в слова́ друго́й смысл; ◊ **у. душу́ ў** *што* вложи́ть ду́шу *во что.*

**УЛАЖЭ́ННЕ** *ср.* **1.** *(то, что вложено внутрь)* вложе́ние; **паке́т з ~жэ́ннем** паке́т с вложе́нием; **2.** *ист.* уложе́ние; **грамадзя́нскае ўлажэ́нне** гражда́нское уложе́ние.

**УЛА́ЗІНЫ, -зін** *ед. нет разг.* новосе́лье *ср.*

**УЛА́ЗІЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* влеза́ть; **2.** *разг.* влеза́ть, входи́ть, вмеща́ться, умеща́ться; разме-ща́ться; **3.** *(втыкаться)* вонза́ться; **4.** *разг. (принимать участие в чём-л.)* вме́шиваться; **1—4** *см.* **уле́зці.**

**УЛАМА́НЫ** *разг.* **1.** проло́мленный; **2.** отло́мленный; **3.** *перен.* уло́манный; 1—3 *см.* **улама́ць.**

**УЛАМА́ЦЦА** *сов. разг.* проломи́ться; **дах ~ма́ўся** кры́ша проломи́лась.

**УЛАМА́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** проломи́ть; **у. столь** проломи́ть потоло́к; **2.** отломи́ть; **у. кусо́к хле́ба** отломи́ть кусо́к хле́ба; **3.** *перен. (склонить к чему-л.)* улома́ть; **ледзь улама́ў яго́** едва́ улома́л его́.

**УЛА́Н** *м. воен.* ула́н.

**УЛА́НСКІ** *воен. уст.* ула́нский.

**УЛАСКА́ВІЦЬ** *сов.* уми́лостивить.

**УЛАСКАЎЛЯ́ЦЬ** *несов.* умилостивля́ть.

**УЛА́СНА** *вводн. сл.* со́бственно; ◊ **у. ка́жучы** со́бственно говоря́.

**УЛА́СНА-ЗВАРО́ТНЫ** *лингв.* со́бственно-возвра́тный.

**УЛАСНАРУ́ЧНА** *нареч.* собственнору́чно.

**УЛАСНАРУ́ЧНЫ** собственнору́чный.

**УЛА́СНАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* со́бственность; *(об имуществе, доходе — ещё)* достоя́ние *ср.*; **дзяржа́ўная ўла́снасць** госуда́рственная со́бственность; **набы́ць ва ўла́снасць** приобрести́ в со́бственность; **пра́ва ўла́снасці** пра́во со́бственности; **грама́дская ўла́снасць** обще́ственное достоя́ние.

**УЛА́СНІК** *м.* со́бственник; владе́лец.

**УЛА́СНІЦА** *ж.* со́бственница; владе́лица.

**УЛА́СНІЦКІ** со́бственнический; владе́льческий.

**УЛА́СНЫ** *в разн. знач.* со́бственный; **у. дом** со́бственный дом; **мадэ́ль ~най канстру́кцыі** моде́ль со́бственной констру́кции; **ва ўласным сэ́нсе сло́ва** в со́бственном смы́сле сло́ва; **~ная вага́** со́бственный вес; ○ **~нае імя́** со́бственное и́мя; **у. карэспандэ́нт** со́бственный корреспонде́нт; ◊ **~най асо́бай (персо́най)** со́бственной персо́ной; **на ўла́снай спі́не (пазна́ць, адчу́ць** *што*) на со́бственной спине́ (узна́ть, испыта́ть *что*); **вучы́цца на ўла́сных памы́лках** учи́ться на со́бственных оши́бках.

**УЛАСЦІ́ВА** *безл. в знач. сказ.* свойственно, прису́ще, характе́рно.

**УЛАСЦІ́ВАСЦЬ** *ж.* сво́йство *ср.*; *(о неотъемлемом признаке — ещё)* принадле́жность; **магні́т ма́е ўласці́васць прыця́гваць жале́за** магни́т име́ет сво́йство притя́гивать желе́зо.

**УЛАСЦІ́ВЫ** сво́йственный, прису́щий, характе́рный.

**УЛА́ШЧАНЫ** *разг.* улещённый, задо́бренный.

**УЛА́ШЧВАЦЬ** *несов. разг.* улеща́ть, зада́бривать.

**УЛА́ШЧЫЦЬ** *сов. разг.* улести́ть, задо́брить.

**УЛЕ́ВА** *нареч.* вле́во.

**УЛЕ́ГЦЫ** *нареч. разг.* порожняко́м.

**УЛЕ́ГЧЫ** *сов. разг.* **1.** *(у што)* нале́чь *(на что)*, отда́ться *(чему)*; **у. ў рабо́ту** нале́чь на рабо́ту; отда́ться рабо́те; **2.** *(у што)* пристрасти́ться *(к чему)*; **улёг у гарэ́лку** пристрасти́лся к во́дке; **3.** *(пуститься бежать)* припусти́ться, припусти́ть; **4.** приуда́рить, приволокну́ться.

**УЛЕ́ГЧЫСЯ** *сов.* **1.** уле́чься; уложи́ться; **у. спаць** уле́чься спать; **тут цёсна, усё не ўля́жамся** тут тесно́, все не уля́жемся; **2.** *(уплотниться под действием собственной тяжести)* слежа́ться, улежа́ться; **се́на ўлягло́ся** се́но слежа́лось (улежа́лось); **3.** *(о пыли)* осе́сть, уле́чься; **пыл улёгся** пыль осе́ла (улегла́сь); **4.** *перен. (успокоиться, ослабнуть)* уле́чься, утихнуть; **ве́цер улёгся** ве́тер утих; **хваліва́нне ўлягло́ся** волне́ние улегло́сь (ути́хло).

**УЛЁЖАНЫ** *прич.* улежа́вшийся, слежа́вшийся; **у. пясо́к** улежа́вшийся (слежа́вшийся) песо́к.

**УЛЁЖАЦЦА** *сов. (уплотниться от долгого лежания)* улежа́ться, слежа́ться; **зямля́ яшчэ́ не ўлёжалася** земля́ ещё не улежа́лась; **се́на ўлёжалася** се́но слежа́лось.

**УЛЁЖАЦЬ** *сов.* улежа́ть; **у таку́ю спёку до́ўга не ўлёжыш** в таку́ю жару́ до́лго не улежи́шь.

**УЛЁЖНА: хоць не ўе́жна, дык у.** *погов.* хоть не сы́тно, да споко́йно.

**УЛЕ́ЗЦІ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* влезть; **у. ў акно́** влезть в окно́; **у. ў ва́нну** влезть в ва́нну; **у. ў гразь** влезть в грязь; **у. ў дру́жбу** влезть в дру́жбу; **у. ў кішэ́нь** влезть в карма́н; **2.** *разг.* влезть, войти́, вмести́ться, умести́ться; размести́ться; **нага́ не ўле́зла ў бот** нога́ не вошла́ в сапо́г; **усе́ мае́ рэ́чы ўле́злі ў адзі́н чамада́н** все мои́ ве́щи вле́зли (вмести́лись, умести́лись, вошли́) в оди́н чемода́н; **3.** *(воткнуться)* вонзи́ться; **стрэ́мка глыбо́ка ўле́зла ў па́лец** зано́за глубоко́ вонзи́лась в па́лец; **4.** *разг. (принять участие в чём-л.)* вмеша́ться; **у. ў гаво́рку** вмеша́ться

в разгово́р; ◊ у. ў даўгі́ влезть в долги́; у. ў душу́ влезть в ду́шу; **ко́лькі ўле́зе** ско́лько вле́зет; **у. ў шко́ду** а) нашко́дить; б) сде́лать потра́ву.

**УЛЕ́ПЛЕНЫ 1.** *в разн. знач.* вле́пленный; **2.** уле́пленный; 1, 2 *см.* **уляпі́ць.**

**УЛЕ́ПЛІВАЦЦА** *несов. разг.* **1.** уцепля́ться, вцепля́ться; **2.** прилепля́ться, пристава́ть; 1, 2 *см.* **уляпі́цца; 3.** *страд.* влепля́ться, улепля́ться; *см.* **уле́пліваць.**

**УЛЕ́ПЛІВАЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* влепля́ть; **2.** улепля́ть; 1, 2 *см.* **уляпі́ць.**

**УЛЕ́ТКУ** *нареч. разг.* ле́том.

**УЛІВА́ННЕ** *ср. в разн знач.* влива́ние.

**УЛІВА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* влива́ться; *см.* **улі́цца, уліва́ць.**

**УЛІВА́ЦЬ** *несов. прям., перен.* влива́ть; *см.* **улі́ць.**

**УЛІ́К, -ку** *м.* **1.** *в разн. знач.* учёт; **у. тава́раў** учёт това́ров; **бухга́лтарскі ўлік** бухга́лтерский учёт; **у. пра́цы** учёт труда́; **2.** *разг. см.* **учо́т.**

**УЛІКО́ВА-ВЫДАВЕ́ЦКІ** учётно-изда́тельский.

**УЛІКО́ВА-РЭГІСТРАЦЫ́ЙНЫ** учётно-регистрацио́нный.

**УЛІКО́ВЫ** *фін.* учётный.

**УЛІПА́ЦЬ** *несов.* **1.** *прям., перен.* влипа́ть; **2.** *разг.* пло́тно облега́ть; 1, 2 *см.* **улі́пнуць.**

**УЛІ́ПНУЦЬ** *сов.* **1.** *прям., перен.* вли́пнуть; **у. у гразь** вли́пнуть в грязь; **у. у гісто́рыю** вли́пнуть в исто́рию; **2.** *разг.* пло́тно обле́чь; **суке́нка ўлі́пла** пла́тье пло́тно облегло́ фигу́ру.

**УЛІТАВА́ННЕ** *ср. см.* **упа́йка.**

**УЛІТАВА́НЫ** *см.* **упая́ны.**

**УЛІТАВА́ЦЬ** *сов. см.* **упая́ць.**

**УЛІ́ТКА** *ж. анат.* ули́тка.

**УЛІТКАПАДО́БНЫ** *анат.* улиткообра́зный.

**УЛІТО́ЎВАННЕ** *ср. уст. см.* **упа́йка.**

**УЛІТО́ЎВАЦЦА** *несов. страд. уст. см.* **упа́йвацца.**

**УЛІТО́ЎВАЦЬ** *несов. уст. см.* **упа́йваць.**

**УЛІ́ТЫ** *прям., перен.* вли́тый; *см.* **улі́ць;** ◊ **як улі́ты (сядзі́ць)** как влито́й (сиди́т).

**УЛІЎНЫ́** *разг. см.* **праліўны́.**

**УЛІ́ЦЦА** *сов. прям., перен.* вли́ться; **вада́ ўлі́лася ў басе́йн** вода́ влила́сь в бассе́йн; **улі́ло́ся но́вае папаўне́нне** влило́сь но́вое пополне́ние.

**УЛІ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* влить; **у. ваду́ ў бо́чку** влить во́ду в бо́чку; **у. но́выя ка́дры** влить но́вые ка́дры.

**УЛІ́ЧАНЫ** при́нятый во внима́ние, учтённый; *см.* **улічы́ць.**

**УЛІ́ЧВАЦЦА** *несов. страд.* принима́ться во внима́ние, учи́тываться; *см.* **улі́чваць.**

**УЛІ́ЧВАЦЬ** *несов.* принима́ть во внима́ние, учи́тывать; *см.* **улічы́ць.**

**УЛІЧЫ́ЦЬ** *сов.* приня́ть во внима́ние, уче́сть; **у. заўва́гу** уче́сть замеча́ние.

**УЛО́ВІСТЫ** *спец.* уло́вистый.

**УЛО́ЖАНЫ 1.** уло́женный, вы́ложенный; **2.** уло́женный; **3.** *перен. разг.* уло́женный; **4.** вло́женный; засу́нутый, су́нутый; **5.** *перен.* вло́женный; 1—5 *см.* **улажы́ць** 2—6.

**УЛО́МАК, -мка** *м. разг. (употребляется чаще с отрицанием)* слаба́к; **ты сам не ўло́мак зрабіць гэта** ты сам не слаба́к сде́лать э́то.

**УЛО́МАНЫ** *см.* **улама́ны.**

**УЛО́МВАЦЦА** *несов. см.* **уло́мліваца.**

**УЛО́МВАЦЬ** *несов. см.* **уло́мліваць.**

**УЛО́МЛЕНЫ** *см.* **улама́ны** 1, 2.

**УЛО́МЛІВАЦЦА** *несов. разг.* прола́мываться; *см.* **улама́цца.**

**УЛО́МЛІВАЦЬ** *несов. разг.* **1.** прола́мывать; **2.** отла́мывать; **3.** *перен. (склонять к чему-л.)* ула́мывать; 1—3 *см.* **улама́ць.**

**УЛО́ННЕ** *ср.* **1.** ло́но; чре́во; **ва ўло́нні ма́церы** в ло́не (во чре́ве) ма́тери; **2.** *(недра или поверхность воды, земли)* ло́но; ◊ **на ўло́нні прыро́ды** на ло́не приро́ды.

**УЛО́ПАЦЦА** *сов. прост. в разн. знач.* вло́паться.

**УЛО́Ў,** *род.* **уло́ву** *м.* **1.** *(действие)* уло́в, лов; **2.** *(количество пойманной рыбы, зверя)* уло́в.

**УЛО́ЎЛЕНЫ** *в разн. знач.* уло́вленный; *см.* **улавіць.**

**УЛО́ЎЛІВАННЕ** *ср.* ула́вливание; *см.* **уло́ўліваць.**

**УЛО́ЎЛІВАЦЦА** *несов. страд.* ула́вливаться; *см.* **уло́ўліваць.**

**УЛО́ЎЛІВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* ула́вливать; *см.* **улавіць.**

**УЛО́ЎНАСЦЬ** *ж. спец.* уло́вистость.

**УЛО́ЎНІК** *м. тех.* улови́тель, ула́вливатель.

**УЛО́ЎНЫ 1.** улови́мый; **ле́дзьве ўло́ўны шэпт** едва́ улови́мый шё-пот; **2.** *рыб.* уло́вный; **у. год** уло́вный год.

**УЛУ́КАТКІ** *нареч. обл.* зигза́гом.

**УЛУПІ́ЦЬ** *сов. разг.* уда́рить, огре́ть.

**УЛУ́С** *в разн. знач.* улу́с.

**УЛУ́СНЫ** *в разн. знач.* улу́сный.

**УЛУ́ЧАНЫ** *разг.* включённый; *см.* **улучы́ць** 1.

**УЛУЧА́ЦЬ** *несов. разг.* **1.** *(присоединять)* включа́ть; **2.** попада́ть в цель; 1, 2 *см.* **улучы́ць.**

**УЛУ́ЧВАЦЬ** *несов. разг. (присоединять)* включа́ть; *см.* **улучы́ць** 1.

**УЛУЧЫ́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** *(присоединить)* включи́ть; **у. каро́ву ў чараду́** включи́ть коро́ву в ста́до; **2.** попа́сть в цель.

**УЛЬТРАГУ́К, -ку** *м. физ.* ультразву́к.

**УЛЬТРАГУКАВЫ́** *физ.* ультрозвуково́й.

**УЛЬТРАІМПЕРЫЯЛІ́ЗМ, -му** *м.* ультраимпериали́зм.

**УЛЬТРАКАНДЭНСА́ТАР** *м. тех.* ультраконденса́тор.

**УЛЬТРАКАРОТКАХВА́ЛЕВЫ** *радио* ультракоротково́лновый.

**УЛЬТРАКАРО́ТКІ** ультракоро́ткий.

**УЛЬТРАЛЕ́ВЫ** *полит.* ультрале́вый; **у. ўхіл** ультрале́вый укло́н.

**УЛЬТРАЛЯВА́ЦКІ** *полит. разг.* ультралева́цкий.

**УЛЬТРАМАРЫ́Н, -ну** *м.* ультрамари́н.

**УЛЬТРАМАРЫ́НАВЫ** ультрамари́новый.

**УЛЬТРАМІКРАСКАПІ́ЧНЫ** ультрамикроскопи́ческий.

**УЛЬТРАМІКРАСКАПІ́Я** *ж.* ультрамикроскопи́я.

**УЛЬТРАМІКРАСКО́П** *м.* ультрамикроско́п.

**УЛЬТРАМО́ДНЫ** ультрамо́дный.

**УЛЬТРАПРА́ВЫ** ультрапра́вый.

**УЛЬТРАРЭАКЦЫ́ЙНЫ** ультрареакцио́нный.

**УЛЬТРАРЭВАЛЮЦЫ́ЙНЫ** ультрареволюцио́нный.

**УЛЬТРАРЭВАЛЮЦЫЯНЕ́Р** *м.* ультрареволюционе́р.

**УЛЬТРАСТРУКТУ́РА** *ж.* ультраструкту́ра.

**УЛЬТРАСУЧА́СНЫ** ультрасовре́менный.

**УЛЬТРАФІ́ЛЬТР** *м. спец.* ультрафи́льтр.

**УЛЬТРАФІЛЬТРА́ЦЫЯ** *ж. спец.* ультрафильтра́ция.

**УЛЬТРАФІЯЛЕ́ТАВЫ** *физ.* ультрафиоле́товый; **~выя прамяні́** ультрафиоле́товые лучи́.

**УЛЬТРАХРАМАТЫ́ЗМ, -му** *м. физ., муз.* ультрахроматизм.

**УЛЬТЫМА́ТУМ, -му** *м.* ультима́тум.

**УЛЬТЫМАТЫ́ЗМ, -му** *м. полит.* ультиматизм.

**УЛЬТЫМАТЫ́СТ** *м.* ультимати́ст.

**УЛЬТЫМАТЫ́СЦКІ** *полит.* ультимати́стский.

**УЛЬТЫМАТЫ́ЎНАСЦЬ** *ж.* ультимати́вность.

**УЛЬТЫМАТЫ́ЎНЫ** ультимати́вный.

**УЛЬЧ,** *род.* **у́льча** *м.* ульч.

**УЛЬЧА́НКА** *ж.* ульча́нка.

**У́ЛЬЧСКІ** у́льчский.

**У́ЛЬЧЫ, -чаў** у́льчи.

**УЛЮБЁНЕЦ, -нца** *м. разг.* люби́мец; ба́ловень.

**УЛЮБЁНКА** *ж. разг.* люби́мица.

**УЛЮБЁНЫ** излю́бленный, люби́мый; **~нае ме́сца адпачы́нку** излю́бленное (люби́мое) ме́сто о́тдыха; **~ная спра́ва** люби́мое де́ло.

**УЛЮБІ́ЦЦА** *сов.* влюби́ться.

**УЛЮБІ́ЦЬ** *(каго-што) сов.* **1.** влюби́ть; **~біла ў сябе́ маладо́га хло́пца** влюби́ла в себя́ молодо́го па́рня; **2.** *разг.* полюби́ть, пристрасти́ться *(к чему)*; **я ўлюбі́ў кні́гі з дзяці́нства** я полюби́л кни́ги (пристрасти́лся к кни́гам) с де́тства.

**УЛЮБЛЁНА** *нареч.* влюблённо.

**УЛЮБЛЁНАСЦЬ** *ж.* влюблённость.

**УЛЮБЛЁНЫ** влюблённый.

**УЛЮ́БЛІВАСЦЬ** *ж.* влю́бчивость.

**УЛЮ́БЛІВЫ** влю́бчивый.

**УЛЮБЛЯ́ЦЦА** *несов.* влюбля́ться.

**УЛЮБЛЯ́ЦЬ** *несов.* влюбля́ть; *см.* **улюбі́ць** 1.

**УЛЮЛЮ́КАННЕ** *ср.* улюлю́канье.

**УЛЮЛЮ́КАЦЬ** *несов. разг.* улюлю́кать.

**УЛЯГА́ННЕ** *ср.* **1.** *(у што)* налега́ние *(на что)*; *см.* **уляга́ць** 1; **2.** слёживание; **3.** оседа́ние, оса́дка *ж.*; 2—3 *см.* **уляга́цца** 1, 2.

**УЛЯГА́ЦЦА** *несов.* **1.** *(уплотняться под действием собственной тяжести)* слёживаться; **2.** *(о пыли)* оседа́ть; **3.** *перен. (успокаиваться, ослабевать)* утиха́ть; 1—3 *см.* **улёгчыся** 2—4.

**УЛЯГА́ЦЬ** *несов. разг.* **1.** *(у што)* налега́ть *(на что)*, отдава́ться *(чему)*; **2.** *(у што)* пристраща́ться *(к чему)*; **3.** приударя́ть, приво-

ла́киваться, волочи́ться; 1—3 *см* **улёгчы** 1, 2, 4.

**УЛЯЖА́ЦЦА** *сов. см.* **улёжацца.**

**УЛЯЖА́ЦЬ** *сов. см.* **улёжаць.**

**УЛЯЛЯ́ШЧЫЦЬ** *сов. обл. (зря истратить)* всади́ть, ухло́пать.

**УЛЯ́ПАЦЦА** *сов. прост.* **1.** *(у што)* обля́паться *(чем)*, вы́пачкаться, испа́чкаться *(в чём)*; **у. ў глі́ну** обля́паться гли́ной, вы́пачкаться (испа́чкаться) в гли́не; **2.** *(попасть в неприятное положение)* вля́паться; **у. ў гісто́рыю** вля́паться в исто́рию.

**УЛЯПІ́ЦЦА** *сов. разг.* **1.** уцепи́ться, вцепи́ться; **~пі́ўся рука́мі за пара́нчы** уцепи́лся рука́ми за пери́ла; **2.** прилепи́ться, приста́ть; **це́ста ўляпі́лася за ру́кі** те́сто прилепи́лось (приста́ло) к ру́кам.

**УЛЯПІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* влепи́ть; **у. маза́іку ў сцяну́** влепи́ть моза́ику в сте́ну; **~піў яму́ снёжкай** влепи́л ему́ снежко́м; **у. ку́лю ў лоб** *разг.* влепи́ть пу́лю в лоб; **у. ву́чню двойку** влепи́ть ученику́ дво́йку; **у. аплявуху** влепи́ть пощёчину; **2.** *(покрыть сплошь)* улепи́ть; **у. сцяну́ афі́шамі** улепи́ть сте́ну афи́шами.

**УЛЯТА́ННЕ** *ср.* влета́ние; *см.* **улята́ць** 1.

**УЛЯТА́ЦЬ** *несов.* **1.** влета́ть; *(о птицах, бабочках — ещё)* впа́рхивать; **2.** *разг. (быстро входить, въезжать, вбегать)* влета́ть; **3.** *безл. разг.* влета́ть, попада́ть; **4.** *разг. (сваливаться во что-л. глубокое)* па́дать; 1—4 *см.* **уляце́ць.**

**УЛЯЦЕ́ЦЬ** *сов.* **1.** влете́ть; *(о птицах, бабочках — ещё)* впорхну́ть; **ла́стаўка ўляце́ла ў акно́** ла́сточка влете́ла (впорхну́ла) в окно́; **2.** *разг. (быстро войти, въехать, вбежать)* влете́ть; **хло́пчык ~це́ў у ха́ту** ма́льчик влете́л в избу́; **3.** *безл. разг.* влете́ть, попа́сть; **яму́ ўляце́ла ад бацько́ў** ему́ влете́ло (попа́ло) от роди́телей; **4.** *разг. (свалиться во что-л. глубокое)* упа́сть; **у. у я́му** упа́сть в я́му; ◊ **у. у капе́ечку** влете́ть в копе́ечку.

**УМА́ЗАНЫ 1.** вма́занный; **2.** *(у што)* ума́занный *(чем)*, вы́мазанный *(в чём)*; 1, 2 *см.* **ума́заць.**

**УМА́ЗАЦЦА** *(у што) сов. (выпачкаться сплошь)* ума́заться *(чем)*, вы́мазаться *(в чём).*

**УМА́ЗАЦЬ** *сов.* **1.** вма́зать; **у. цаглі́ну ў сцяну́** вма́зать кирпи́ч в сте́ну; **2.** *(у што)* ума́зать *(чем)*, вы́мазать *(в чём)*; **у. во́пратку ў глі́ну** ума́зать (вы́мазать) одёжду гли́ной; **у. твар у гразь** вы́мазать лицо́ гря́зью.

**УМА́ЗВАННЕ** *ср.* вма́зывание; *см.* **ума́заць** 1.

**УМА́ЗВАЦЦА** *несов.* **1.** *(у што) (пачкаться сплошь)* ума́зываться *(чем)*, выма́зываться *(в чём)*; **2.** *страд.* вма́зываться; ума́зываться; выма́зываться; *см.* **ума́зваць.**

**УМА́ЗВАЦЬ** *несов.* **1.** вма́зывать; **2.** *(у што)* ума́зывать *(чем)*, выма́зывать *(в чём)*; 1, 2 *см.* **ума́заць.**

**УМА́ЗКА** *ж. (действие)* вма́зка.

**УМАЙСТРАВА́НЫ** прила́женный.

**УМАЙСТРАВА́ЦЦА** *сов. разг. (расположиться, устроиться)* прила́диться.

**УМАЙСТРАВА́ЦЬ** *сов. разг. (устроить, приделать что-л., где-л., к чему-л.)* прила́дить.

**УМАЙСТРО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* прила́живаться.

**УМАЙСТРО́ЎВАЦЬ** *несов.* прила́живать; *см.* **умайстрава́ць.**

**УМАКА́ЦЬ** *несов. разг. (подвергаясь мочению, изменяться качественно)* вымока́ть.

**УМАКРЭ́ЛЫ** *разг. (мокрый от пота)* вспоте́вший.

**УМАКРЭ́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** *(стать мокрым от пота)* вспоте́ть; **2.** си́льно намо́кнуть.

**УМАЛАЦІ́ЦЬ** *сов. разг. (обмолотить небольшое количество)* смолоти́ть, обмолоти́ть; **у. крыху́ жы́та** обмолоти́ть немно́го ржи.

**УМАЛЁГАЦЬ** *сов. прост.* уговори́ть, упроси́ть.

**УМАЛІ́ЦЬ** *сов.* умоли́ть.

**УМАЛО́Т, -ту** *м. с.-х.* умоло́т.

**УМАЛО́ТНЫ** *с.-х.* умоло́тный; **~ная пшані́ца** умоло́тная пшени́ца.

**УМАЛО́ЦЬ** *сов. прост.* **1.** *(небольшое количество)* смоло́ть; **у. крыху́ ячме́ню** смоло́ть немно́го ячменя́; **2.** *(съесть)* умя́ть, уписа́ть.

**УМАЛЯ́ЦЬ** *несов. см.* **умо́льваць.**

**УМАНЦІ́РАВАНЫ** вмонти́рованный.

**УМАНЦІ́РАВАЦЦА** *сов.* вмонти́роваться.

**УМАНЦІ́РАВАЦЬ** *сов.* вмонти́ровать.

**УМАРНЕ́ЦЬ** *сов. см.* **змарне́ць.**

**УМАРО́ЖАНЫ** вморо́женный; *см.* **умаро́зіць.**

**УМАРО́ЖВАЦЦА** *несов. страд.* вмора́живаться; *см.* **умаро́жваць.**

**УМАРО́ЖВАЦЬ** *несов.* вмора́живать; *см.* **умаро́зіць.**

**УМАРО́ЗІЦЬ** *сов. (дать укрепиться под действием мороза)* вморо́зить.

**УМАРЫ́ЦЬ** *сов. разг. в разн. знач.* умори́ть; **у. го́ладам** умори́ть го́лодом; **у. каня́** умори́ть коня́.

**УМАСЦІ́ЦЦА** *сов. разг. (расположиться, разместиться)* умости́ться; **ён ~ці́уся ў куто́чку** он умости́лся в уголке́.

**УМАСЦІ́ЦЬ** I *сов. разг.* **1.** умости́ть, вы́мостить, устла́ть; **у. даро́гу** умости́ть (вы́мостить, устла́ть) доро́гу; **2.** *(уложить)* вмести́ть; **усё ўмасці́ць на воз** всё умости́ть (вмести́ть) на воз.

**УМАСЦІ́ЦЬ** II *сов. карт.* попа́сть в масть.

**УМАТА́НЫ** **1.** умо́танный; **2.** *разг.* обмо́танный; **3.** вмо́танный; 1—3 *см.* **умата́ць.**

**УМАТА́ЦЦА** *сов.* **1.** *(наматываясь, уместиться)* умота́ться; **усе́ ні́ткі ў адзі́н клубо́к не ўмата́юцца** все ни́тки в оди́н клубо́к не умота́ются; **2.** *разг.* замота́ться; **ле́йцы ўмата́ліся ў ко́ла** во́жжи замота́лись в колесо́.

**УМАТА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(наматывая, мотая, уместить в чем-л., на чём-л.)* умота́ть; **вялі́кага матка́ ў адзі́н клубо́к не ўмата́ць** большо́й мото́к в оди́н клубо́к не умота́ть; **2.** *разг.* обмота́ть; **у. паку́нак шпага́там** обмота́ть свёрток шпага́том; **3.** вмота́ть; **у. напа́рстак у клубо́к** вмота́ть напёрсток в клубо́к.

**УМАЎЛЯ́ЦЦА** *несов.* усла́вливаться, угова́риваться, догова́риваться; *см.* **умо́віцца.**

**УМАЎЧА́ННЕ** *ср.* умолча́ние.

**УМАЎЧА́ЦЬ** *сов. см.* **умо́ўчаць** 2.

**УМАХА́ЦЬ** *сов. прост. (много пройти; быстро сделать что-л.)* отмаха́ть.

**УМАЦАВА́ЛЬНЫ** укрепи́тельный, крепи́тельный; **~ныя рабо́ты** укрепи́тельные (крепи́тельные) рабо́ты.

**УМАЦАВА́ННЕ** *ср.* **1.** *(действие)* укрепле́ние; упро́чение; **у. берагоў ракі** укрепле́ние берего́в реки́; **у. экано́мікі** укрепле́ние (упро́чение) эконо́мики; **у. дысцыпліны** укрепле́ние дисципли́ны; **2.** *(оборонительное сооружение)* укрепле́ние; **лінія ўмацава́нняў** ли́ния укрепле́ний; **падзе́мныя ўмацава́нні** подзе́мные укрепле́ния.

**УМАЦАВА́НЫ 1.** *прич.* укреплённый; упро́ченный; *см.* **умацава́ць; 2.** *прил.* укреплённый; **у. раён** укреплённый райо́н; **~ная палоса́** укреплённая полоса́.

**УМАЦАВА́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* укрепи́ться; *(твёрдо обосноваться — ещё)* утверди́ться; (стать прочным, надёжным — ещё) упро́читься; **бе́раг ~ва́ўся** бе́рег укрепи́лся; **праціўнік ~ва́ўся ў ле́се** проти́вник укрепи́лся (утверди́лся) в лесу́; **здаро́ўе ўмацава́лася** здоро́вье укрепи́лось; **яго́ стано́вішча ўмацава́лася** его́ положе́ние укрепи́лось (упро́чилось).

**УМАЦАВА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* укре́пить; *(сделать прочным — ещё)* упро́чить; **у. плаціну** укрепи́ть плоти́ну; **у. по́дступы да го́рада** укрепи́ть по́дступы к го́роду; **у. дысцыпліну** укрепи́ть дисципли́ну; **у. не́рвы** укрепи́ть не́рвы; **у. сваё стано́вішча** укрепи́ть (упро́чить) своё положе́ние.

**УМАЦО́ЎВАННЕ** *ср.* укрепле́ние; упро́чение; *см.* **умацо́ўваць.**

**УМАЦО́ЎВАЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* укрепля́ться; *(твёрдо обосновываться — ещё)* утвержда́ться; *(становиться прочным, надёжным — ещё)* упро́чиваться; *см.* **умацава́цца; 2.** *страд.* укрепля́ться; упро́чиваться; *см.* **умацо́ўваць.**

**УМАЦО́ЎВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* укрепля́ть; *(делать прочным — ещё)* упро́чивать; *см.* **умацава́ць.**

**У́МБРА** *ж.* у́мбра.

**У́МБРСКІ** *ист.* у́мбрский.

**У́МБРЫ, -раў** *ист.* у́мбры.

**УМЕ́ЛА** *нареч.* уме́ло; иску́сно.

**УМЕ́ЛАСЦЬ** *ж.* уме́лость.

**УМЕ́ЛЕЦ, -льца** *м. разг.* уме́лец.

**УМЕ́ЛЫ** уме́лый; *(осуществляемый с большим умением — ещё)* иску́сный.

**УМЕ́ЛЬСКІ** иску́сный.

**УМЕ́ЛЬСТВА** *ср. разг.* уме́лость *ж.*; иску́сность *ж.*

**УМЕ́ННЕ** *ср.* уме́ние.

**УМЕ́РАНА** *нареч.* уме́ренно.

**УМЕ́РАНА-ДЭМАКРАТЫ́ЧНЫ** уме́ренно-демократи́ческий.

**УМЕ́РАНАСЦЬ** *ж.* уме́ренность.

**УМЕ́РАНЫ** *прич., прил.* уме́ренный.

**УМЕ́РЗЛЫ** *см.* **умёрзлы.**

**УМЕ́РЗНУЦЬ** *сов.* **1.** *(во что-л.)* вмёрзнуть; **бо́чка ўме́рзла ў лёд** бо́чка вмёрзла в лёд; **2.** *(затвердеть на большую глубину)* промёрзнуть; **зямля́ мо́цна ўме́рзла** земля́ си́льно промёрзла.

**УМЕ́СЦІ** *сов.* вмести́.

**УМЕ́ТАЦЬ** *несов. см.* **умята́ць.**

**УМЕ́ЦЕНЫ** вметённый.

**УМЕ́ЦЬ** *несов.* уме́ть; ◊ **гэта ж трэ́ба ўмець!** э́то же на́до уме́ть; **уме́ю,**

**ды не смéю** *погов.* умéю, да не смéю.

**УМÉШАНЫ 1.** вымешенный, промéшенный; **2.** вмéшенный; 1, 2 *см.* **умясíць.**

**УМÉШВАННЕ** I *ср.* **1.** вымéшивание, промéшивание; **2.** вмéшивание; 1, 2 *см.* **умéшваць** I.

**УМÉШВАННЕ** II *ср.* **1.** вмéшивание; **2.** вмéшивание, впýтывание; 1, 2 *см.* **умéшваць** II.

**УМÉШВАЦЦА** I *несов. страд.* вымéшиваться; промéшиваться; вмéшиваться; *см.* **умéшваць** I.

**УМÉШВАЦЦА** II *несов.* **1.** *(проникать куда-л., смешиваться с чем-л.)* вмéшиваться; **2.** *(входить, вникать в чьи-л. дела)* вмéшиваться, впýтываться; 1, 2 *см.* **умяшáцца; 3.** *страд.* вмéшиваться, впýтываться; *см.* **умéшваць** II.

**УМÉШВАЦЬ** I *несов. (хорошо замешивать)* вымéшивать, промéшивать; **2.** *(меся, прибавлять)* вмéшивать; *см.* **умясíць.**

**УМÉШВАЦЬ** II *несов.* **1.** вмéшивать; **2.** *(вовлекать)* вмéшивать, впýтывать; 1, 2 *см.* **умяшáць.**

**УМÉШЧАНЫ 1.** вмещённый; **2.** вмещённый; умещённый; **3.** умещённый; 1—3 *см.* **умясцíць.**

**УМÉЮЧЫ** *нареч. разг.* умéючи; **гэ́та трэ́ба рабíць у.** э́то нýжно дéлать умéючи.

**УМЁРЗЛЫ 1.** вмёрзший; **2.** промёрзший, промёрзлый; 1, 2 *см.* **умéрзнуць.**

**УМÍГ** *нареч.* мíгом, мгновéнно.

**УМÍЛАСЦІВІЦЦА** *сов.* умилостивиться, умилосéрдиться.

**УМÍЛАСЦІВІЦЬ** *сов.* умилостивить, умилосéрдить.

**УМÍЛАСЦІЎЛЕНЫ** умилостивленный.

**УМÍЛЬНА** *нареч.* умильно.

**УМÍЛЬНАСЦЬ** *ж.* умильность.

**УМÍЛЬНЫ** умильный.

**УМІНÁЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* уминáться; **2.** *страд.* уминáться; упи́сываться; *см.* **умінáць.**

**УМІНÁЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* уминáть; **2.** *перен. разг.* упи́сывать, уминáть; 1, 2 *см.* **умя́ць.**

**УМІРÁННЕ** *ср.* умирáние.

**УМІРÁЦЬ** *несов.* умирáть.

**УМЛÉЦЬ** *сов. разг. (от страха и т. п.)* обомлéть, обмерéть.

**УМЛЯ́УТ** *м. лингв.* умля́ут.

**УМÓВА** *ж.* **1.** *в разн. знач.* услóвие *ср.*; уговóр *м.*; **вы́канаць ~ву** вы́полнить услóвие (уговóр); **у дагавóр уклю́чана ýмóва аб тэ́рмінах плáты** в договóр включенó услóвие о срóках платежá; **вы́ставіць пэ́ўныя ýмóвы** вы́ставить определённые услóвия; **гэ́та магчы́ма пры адно́й ~ве** э́то возмóжно при однóм услóвии; **2.** *только мн. или преимущественно мн. в др. знач.* услóвия; **~вы карыстáння** услóвия пóльзования; **жыць у дóбрых ~вах** жить в хорóших услóвиях; **гістары́чныя ýмóвы** истори́ческие услóвия.

**УМÓВІЦЦА** *сов.* услóвиться, уговори́ться, договори́ться; **мы ýмóвіліся сустрэ́цца праз ты́дзень** мы услóвились (уговори́лись, договори́лись) встрéтиться чéрез недéлю; **у. аб тэ́рміне заканчэ́ння прáцы** услóвиться (договори́ться) о срóке окончáния рабóты.

**УМÓКНУЦЬ** *сов. разг. (подвергнувшись мочению, измениться качественно)* вы́мокнуть.

**УМО́ЛЬВАЦЬ** *несов.* умоля́ть.

**УМО́ЛЬНА** *нареч.* умоля́юще.

**УМО́ЛЬНЫ** умоля́ющий.

**УМО́МАНТ** *нареч.* вмиг.

**УМО́ТВАЦЦА** *несов.* **1.** *(наматываясь, умещаться)* ума́тываться; **2.** *разг.* зама́тываться; 1, 2 *см.* **умата́цца**; **3.** *страд.* ума́тываться; обма́тываться; вма́тываться; *см.* **умо́тваць**.

**УМО́ТВАЦЬ** *несов.* **1.** *(наматывая, умещать в чём-л., на чём-л.)* ума́тывать; **2.** *разг.* обма́тывать; **3.** вма́тывать; 1—3 *см.* **умата́ць**.

**УМО́ЎЛЕНЫ** *прич., прил.* усло́вленный.

**УМО́ЎНА** *нареч.* усло́вно; **прыгавары́ць у.** приговори́ть усло́вно.

**УМОЎНАРЭФЛЕКТО́РНЫ** *физиол.* условнорефлекто́рный.

**УМО́ЎНАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* усло́вность; **у. прыгаво́ру** усло́вность пригово́ра; **у. тэатра́льнай пастано́ўкі** усло́вность театра́льной постано́вки; **ён во́раг уся́кіх ~цей** он враг вся́ких усло́вностей.

**УМО́ЎНЫ** *в разн. знач.* усло́вный; **у. знак** усло́вный знак; **у. прыгаво́р** усло́вный пригово́р; **усё, што вы гаво́рыце, ве́льмі ўмо́ўнае** всё, что вы говори́те, о́чень усло́вно; **~ная дэкара́цыя** усло́вная декора́ция; **~нае па́ліва** усло́вное то́пливо; ○ **у. рэфле́кс** усло́вный рефле́кс; **у. злу́чнік** *грам.* усло́вный сою́з; **у. лад** *грам.* сослага́тельное наклоне́ние.

**УМО́ЎЧАЦЬ** *сов.* **1.** *(стерпеть, не ответить)* смолча́ть, промолча́ть; **2.** *(умышленно не сказать)* умолча́ть.

**УМО́ЎЧВАННЕ** *ср.* умолча́ние; *см.* **умо́ўчваць**.

**УМО́ЎЧВАЦЬ** *несов.* *(умышленно не говорить)* ума́лчивать.

**УМО́ШЧАНЫ** *разг.* **1.** умощённый, вы́мощенный, у́стланный; **2.** вмещённый; 1, 2 *см.* **умасці́ць I**.

**УМО́ШЧВАЦЦА** *несов. разг.* **1.** *(располагаться, размещаться)* ума́щиваться; **2.** *страд.* ума́щиваться, выма́щиваться, устила́ться; вмеща́ться; *см.* **умо́шчваць**.

**УМО́ШЧВАЦЬ** *несов. разг.* **1.** ума́щивать, выма́щивать, устила́ть; **2.** *(укладывать)* вмеща́ть; 1, 2 *см.* **умасці́ць 1**.

**УМУДРА́ЦЦА** *несов.* умудря́ться.

**УМУДРО́НАСЦЬ** *ж.* умудрённость.

**УМУДРО́НЫ** умудрённый.

**УМУДРЫ́ЦЦА** *сов.* умудри́ться.

**УМУДРЫ́ЦЬ** *сов.* умудри́ть.

**УМУРАВА́НЫ** **1.** вмуро́ванный, вде́ланный; **2.** *перен.* ско́ванный; 1, 2 *см.* **умурава́ць**.

**УМУРАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** вмурова́ть, вде́лать; **у. кацёл** вмурова́ть (вде́лать) котёл; **2.** *чаще безл. перен.* *(морозом)* скова́ть; **рэ́чку мо́цна ўмурава́ла** ре́чку кре́пко скова́ло.

**УМУ́РЗАНЫ** изма́занный, испа́чканный.

**УМУ́РЗАЦЦА** *сов. разг.* изма́заться, испа́чкаться.

**УМУ́РЗАЦЬ** *сов. разг.* изма́зать, испа́чкать; **у. твар** изма́зать (испа́чкать) лицо́.

**УМУРО́ЎВАННЕ** *ср.* вмуро́вывание, вде́лывание; *см.* **умуро́ўваць 1**.

**УМУРО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* вмуро́вываться, вде́лываться; *см.* **умуро́ўваць 1**.

**УМУРО́ЎВАЦЬ** *несов.* **1.** вмуро́вывать, вде́лывать; **2.** *чаще безл. перен. (морозом)* ско́вывать; 1, 2 *см.* **умурава́ць.**

**УМУРО́ЎКА** *ж. (действие)* вма́зка, вде́лка.

**УМФО́РМЕР** *м. тех.* умфо́рмер.

**УМФО́РМЕРНЫ** *тех.* умфо́рмерный.

**УМЫВА́ЛЬНІК** *м.* умыва́льник.

**УМЫВА́ЛЬНЫ** умыва́льный.

**УМЫВА́ЛЬНЯ** *ж.* умыва́льная, умыва́льня.

**УМЫВА́ННЕ** *ср.* умыва́ние.

**УМЫВА́ЦЦА** *несов.* **1.** *(мыть себе лицо, руки)* умыва́ться; *см.* **умы́цца; 2.** *страд.* умыва́ться, вымыва́ться, мы́ться; *см.* **умыва́ць.**

**УМЫВА́ЦЬ** *несов.* умыва́ть, вымыва́ть, мыть; *см.* **умы́ць.**

**УМЫКА́ННЕ** *ср. этн.* умыка́ние.

**УМЫКА́ЦЦА** *несов. страд. этн.* умыка́ться.

**УМЫКА́ЦЬ** *несов. этн.* умыка́ть.

**УМЫКНУ́ЦЬ** *сов. этн.* умыкну́ть.

**УМЫ́ТЫ** умы́тый, вы́мытый; *см.* **умы́ць.**

**УМЫ́ЦЦА** *сов. (вымыть себе лицо, руки)* умы́ться; ◊ **у. слязамі** умы́ться слеза́ми; **у. крóўю** умы́ться кро́вью.

**УМЫ́ЦЬ** *сов.* умы́ть, вы́мыть; **у. твар** умы́ть (вы́мыть) лицо́; ◊ **у. ру́кі** умы́ть ру́ки.

**УМЯНЦІ́ЦЬ** *сов. прост.* уписа́ть, наверну́ть; **у. бу́лку хле́ба** уписа́ть бу́лку хле́ба; **у. мі́су бу́льбы** наверну́ть ми́су карто́шки.

**УМЯРЗА́ЦЬ** *несов.* **1.** *(во что-л.)* вмерза́ть; **2.** *(затвердевать на большую глубину)* промерза́ть; 1, 2 *см.* **уме́рзнуць.**

**УМЯСІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(хорошо замесить)* вы́месить, промеси́ть; **2.** *(меся, прибавить)* вмеси́ть.

**УМЯСЦІ́ЦЦА** *сов.* **1.** *(поместиться в чём-л.; где-л.)* вмести́ться; уместиться; **кнігі ўмясціліся ў партфе́ль** книги вмести́лись (уместились) в портфе́ль; **ду́мкі не маглі́ ўмясці́цца ў галаве́** мысли не могли́ уместиться в голове́; **2.** *(разместиться, устроиться)* уместиться; **у. за адны́м стало́м** уместиться за одни́м столо́м.

**УМЯСЦІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(уместить в себе)* вмести́ть; **за́ла ўмясці́ла ўсіх дэлега́таў** зал вмести́л всех делега́тов; **2.** *(поместить внутри чего-л., во что-л.)* вмести́ть; умести́ть; **у. усе́ кнігі ў шафу** вмести́ть (умести́ть) все кни́ги в шкаф; **у. усе́ я́блыкі ў кош** умести́ть (вмести́ть) все я́блоки в кош; **3.** *(поместить, расположить)* умести́ть; **у. у куткý пакóя стóлік для тэлевізара** умести́ть в уголке́ ко́мнаты сто́лик для телеви́зора.

**УМЯТА́ЦЦА** *несов. страд.* вмета́ться.

**УМЯТА́ЦЬ** *несов.* вмета́ть.

**УМЯ́ТЫ 1.** *в разн. знач.* умя́тый; **2.** *перен. разг.* упи́санный, умя́тый; 1, 2 *см.* **умя́ць.**

**УМЯ́ЦІНА** *ж.* вмя́тина.

**УМЯ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* умя́ться.

**УМЯ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* умя́ть; **у. траву́** умя́ть траву́; **у. тыту́нь у лю́льцы** умя́ть таба́к в тру́бке; **2.** *перен. разг. (жадно съесть)* упи-са́ть, умя́ть; **у. цэ́лую буха́нку хле́ба**

упісáць (умяць) цéлую бухáнку хлéба.

**УМЯШÁННЕ** *ср.* вмешáтельство.

**УМЯШÁНЫ 1.** вмéшанный; **2.** вмéшанный, впýтанный; 1, 2 *см.* **умяшáць.**

**УМЯШÁЦЦА** *сов.* **1.** *(проникнуть куда-л., смешаться с чем-л.)* вмешáться; **у. ў натóўп** вмешáться в толпý; **2.** *(войти, вникнуть в чьи-л. дела)* вмешáться, впýтаться; **у. ў чужýю размóву** вмешáться в чужóй разговóр; **у. ў гістóрыю** вмешáться (впýтаться) в истóрию.

**УМЯШÁЦЬ** *сов.* **1.** вмешáть; **у. пшанíчнай мукí ў жытнюю** вмешáть пшенúчной мукú в ржанýю; **2.** *(вовлечь)* вмешáть, впýтать; **мянé ўмяшáлі ў гэту брýдную спрáву** меня вмешáли (впýтали) в это грязное дéло.

**УМЯШЧÁЛЬНАСЦЬ** *ж.* **1.** вместúтельность; **2.** *(ёмкость)* вместúмость.

**УМЯШЧÁЛЬНЫ** вместúтельный.

**УМЯШЧÁЛЬНЯ** *ж.* вместúлище *ср.*

**УМЯШЧÁЦЦА** *несов.* **1.** *(помещаться в чём-л., где-л.)* вмещáться; умещáться; **2.** *(размещаться, устраиваться)* умещáться; 1, 2 *см.* **умясцíцца; 3.** *страд.* вмещáться; умещáться; *см.* **умясцíць** 2, 3.

**УМЯШЧÁЦЬ** *несов.* **1.** *(уменьшать в себе)* вмещáть; **2.** *(помещать внутри чего-л., во что-л.)* вмещáть; умещáть; **3.** *(помещать, располагать)* умещáть; 1—3 *см.* **умясцíць.**

**УМЯШЧЭ́ННЕ** *ср.* вмещéние.

**УНÁДЗІЦЦА** *сов.* повáдиться.

**УНÁДЛІВЫ** повáдливый.

**УНÁЙМЫ** *нареч.* внаём, внаймы́.

**УНАКЛÁДКУ** *нареч. разг.* внаклáдку.

**УНАНІМÍЗМ, -му** *м.* унанимúзм.

**УНАНІМÍСТ** *м.* унанимúст.

**УНАРАВÍЦЬ** *сов.* угодúть.

**УНАРМАВÁНАСЦЬ** *ж.* нормирóванность.

**УНАРМАВÁННЕ** *ср.* нормировáние; **у. прáцы** нормировáние трудá.

**УНАРМАВÁНЫ** *прич., прил.* нормирóванный; **у. рабóчы дзень** нормирóванный рабóчий день.

**УНАРМАВÁЦЬ** *сов.* нормировáть; **у. рабóту** нормировáть рабóту.

**УНАРМÓЎВАЦЬ** *несов.* нормировáть.

**УНАСЛÉДАВАННЕ** *ср.* унаслéдование.

**УНАСЛÉДАВАНЫ** унаслéдованный.

**УНАСЛÉДАВАЦЬ** *сов.* унаслéдовать.

**УНАЧЫ́** *нареч. см.* **унóчы.**

**УНДЗÍНА** *ж. миф.* ундúна.

**УНДЭВÍТ, -ту** *м. фарм.* ундевúт.

**УНДЭ́ЦЫМА** *ж. муз.* ундéцима.

**УНЁСЕНЫ** *в разн. знач.* внесённый; *см.* **унéсці.**

**УНЁСЦІ** *сов. в разн. знач.* внестú; **у. рэ́чы ў дом** внестú вéщи в дом; **у. ў спіс** внестú в спúсок; **у. грóшы ў кáсу** внестú дéньги в кáссу; **у. арганíчныя ўгнаéнні** внестú органúческие удобрéния; **ягó пачы́н унёс шмат нóвага ў вытвóрчасць** егó почúн внёс мнóго нóвого в произвóдство; **у. разлáд у сям'ю** внестú раздóр в семью́; ◊ **у. ўклад** внестú вклад.

**УНІВЕРМА́Г** *м.* **(універса́льны мага́зін)** универма́г (универса́льный магази́н).

**УНІВЕРСА́Л** *м. в разн. знач.* универса́л.

**УНІВЕРСАЛІЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* универсализи́ровать.

**УНІВЕРСАЛІЗА́ЦЫЯ** *ж.* универсализа́ция.

**УНІВЕРСАЛІ́ЗМ, -му** *м.* универсали́зм.

**УНІВЕРСАЛІ́СТ** *м.* универсали́ст.

**УНІВЕРСА́ЛЬНАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* универса́льность.

**УНІВЕРСА́ЛЬНЫ** *в разн. знач.* универса́льный; **~ныя ве́ды** универса́льные зна́ния; **у. магазі́н** универса́льный магази́н; **у. інструме́нт** универса́льный инструме́нт.

**УНІВЕРСА́М** *м.* **(універса́льны магазі́н самаабслуго́ўвання)** универса́м (универса́льный магази́н самообслу́живания).

**УНІВЕРСІТЭ́Т** *м. в разн. знач.* университе́т; **паступі́ць ва у.** поступи́ть в университе́т; **наро́дны у. культу́ры** наро́дный университе́т культу́ры.

**УНІВЕРСІТЭ́ЦКІ** *в разн. знач.* университе́тский; **у. стату́т** университе́тский уста́в; **у. дыпло́м** университе́тский дипло́м.

**УНІВЕРСІЯ́ДА** *ж. спорт.* универсиа́да.

**УНІВЕРСІЯ́ДНЫ** универсиа́дный.

**УНІВЕ́РСУМ, -му** *м. филос.* униве́рсум.

**УНІЖА́ЛЬНЫ** *лингв.* уничижи́тельный; **у. су́фікс** уничижи́тельный су́ффикс.

**УНІ́ЖАНЫ** **1.** *прич., прил.* уни́женный; **2.** *прил. (забитый, безропотный)* унижённый, уни́женный.

**УНІЖА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* унижа́ться.

**УНІЖА́ЦЬ** *несов.* унижа́ть.

**УНІЖЭ́ННЕ** *ср.* униже́ние.

**УНІ́З** *нареч.* вниз; ◊ **глядзе́ць** *на каго* **зве́рху ўніз** смотре́ть *на кого* све́рху вниз.

**УНІ́ЗАНЫ** уни́занный.

**УНІЗА́ЦЬ** *сов.* униза́ть.

**УНІ́ЗВАННЕ** *ср.* уни́зывание.

**УНІ́ЗВАЦЦА** *несов. страд.* уни́зываться.

**УНІ́ЗВАЦЬ** *несов.* уни́зывать.

**УНІ́ЗЕ** *нареч.* внизу́.

**УНІ́ЗІЦЦА** *сов.* уни́зиться.

**УНІ́ЗІЦЬ** *сов.* уни́зить.

**УНІКА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* уника́льность.

**УНІКА́ЛЬНЫ** уника́льный.

**УНІКА́ННЕ** *ср.* **1.** уклоне́ние; **2.** вника́ние; 1, 2 *см.* **уніка́ць** 1, 3.

**УНІКА́ЦЬ** *несов.* **1.** *(чаго)* избега́ть; уклоня́ться *(от чего)*; **у. сустрэ́чы** избега́ть встре́чи; **у. прамо́га адка́зу** уклоня́ться от прямо́го отве́та; **2.** *(каго-чаго)* сторони́ться, избега́ть, чужда́ться; **у. людзе́й** избега́ть (чужда́ться) люде́й; **3.** вника́ть; **у. у су́тнасць спра́вы** вника́ть в суть де́ла.

**УНІ́КЛІВА** *нареч.* **1.** укло́нчиво; **2.** пытли́во; внима́тельно; 1, 2 *см.* **уні́клівы.**

**УНІ́КЛІВАСЦЬ** *ж.* **1.** укло́нчивость; **2.** пытли́вость; внима́тельность; 1, 2 *см.* **уні́клівы.**

**УНІ́КЛІВЫ 1.** уклóнчивый; **у. адкáз** уклóнчивый отвéт; **2.** пытлúвый; внимáтельный; **~вая дýмка чалавéка** пытлúвая мысль человéка; **у. пóзірк** пытлúвый (внимáтельный) взгляд.

**УНІКНЕ́ННЕ** *(чаго) ср.* уклонéние *(от чего); см.* **уні́кнуць** 1.

**УНІ́КНУЦЬ** *сов.* **1.** *(чаго)* избéгнуть; уклонúться *(от чего)*; **2.** внúкнуть; 1, 2 *см.* **унікáць** 1, 3.

**У́НІКУМ** *м.* ýникум.

**УНІСО́Н, -ну** *м.* унисóн; ◊ **ва ўнісóн** в унисóн.

**УНІСО́ННЫ** унисóнный.

**УНІТА́З** *м.* унитáз.

**УНІТА́РНЫ** унитáрный.

**УНІТАРЫ́ЗМ, -му** *м. книжн.* унитарúзм.

**УНІФАРМІ́СТ** *м.* униформúст.

**УНІФІКАВА́НЫ** унифицúрованный.

**УНІФІКАВА́ЦЦА 1.** *сов. и несов.* унифицúроваться; **2.** *несов. страд.* унифицúроваться.

**УНІФІКАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* унифицúровать.

**УНІФІКА́ТАР** *м.* унификáтор.

**УНІФІКА́ТАРСКІ** унификáторский.

**УНІФІКА́ЦЫЯ** *ж.* унификáция.

**УНІФО́РМА** *ж. в разн. знач.* унифóрма.

**УНІЧЫЮ́** *нареч.* вничью́.

**У́НІЯ** *ж. ист.* ýния.

**УНІЯ́Т** *м. ист.* униáт.

**УНІЯ́ТКА** *ж. ист.* униáтка.

**УНІЯ́ЦКІ** *ист.* униáтский.

**УНІЯ́ЦТВА** *ср. ист.* униáтство.

**УНО́СІЦЦА** *несов. страд.* внoсúться; *см.* **унóсіць.**

**УНО́СІЦЬ** *несов. в разн. знач.* вносúть; *см.* **унéсці; унасі́ць.**

**УНО́ЧЫ** *нареч.* нóчью.

**УНТ,** *род.* **унтá** *м.* унт.

**У́НТА** *ж.* ýнта.

**УНТЫ́, -тóў,** *ед.* **унт, -тá** *м. и* **У́НТЫ,** *род.* **унт,** *ед.* **ýнта, -ты** *ж.* ýнты́.

**У́НТЭР** *м. воен. разг.* ýнтер.

**У́НТЭР-АФІЦЭ́Р** *м. воен.* ýнтер-офицéр.

**У́НТЭР-АФІЦЭ́РСКІ** *воен.* ýнтер-офицéрский.

**У́НТЭРСКІ** *воен. разг.* ýнтерский.

**УНУ́К** *м.* **1.** внук; **2.** *перен. только мн.* потóмки; ◊ **хто бáбе не ўнук?** кто бáбушке не внук?

**УНУ́РВАЦЦА** *несов.* **1.** понýриваться; **2.** уставля́ться, утыкáться; 1, 2 *см.* **унýрвацъ.**

**УНУ́РВАЦЬ** *несов.* **1.** понýривать; **2.** уставля́ть; утыкáть; 1, 2 *см.* **унýрыць.**

**УНУ́РЫЦЦА** *сов.* **1.** понýриться; **ён унýрыўся і маўчáў** он понýрился и молчáл; **2.** устáвиться; уткнýться; **у. ў кні́гу** устáвиться в кнúгу; **у. галавóй ў падýшку** уткнýться головóй в подýшку.

**УНУ́РЫЦЬ** *сов.* **1.** понýрить, опустúть *(голову)*; **2.** *(глаза)* устáвить; уткнýть.

**УНУ́ТР 1.** *нареч.* внутрь; **увайсці́ ўнутр** войтú внутрь; **2.** *предлог с род.* внутрь.

**УНУ́ТРАНА** *нареч.* внýтренне, внýтренно.

**УНУ́ТРАНАСЦЬ** *ж.* внýтренность.

**УНУ́ТРАНЫ** *в разн. знач.* вну́тренний; **~ныя дзве́ры** вну́тренняя дверь; **~нае чуццё** вну́треннее чутьё, **~ная су́вязь з'яў** вну́тренняя связь явле́ний; **~ная палі́тыка** вну́тренняя поли́тика; ○ **зало́зы ўну́транай сакрэ́цыі** же́лезы вну́тренней секре́ции; **рухаві́к уну́транага згара́ння** двигатель вну́треннего сгора́ния; **уну́траная фо́рма сло́ва** *лингв.* вну́тренняя фо́рма сло́ва.

**УНУТРЫ́ 1.** *нареч.* внутри́; в середи́не; **2.** *предлог с род.* внутри́; **лю́дзі стая́лі ўнутры́ агаро́джы** лю́ди стоя́ли внутри́ огра́ды.

**УНУТРЫА́ТАМНЫ** внутриа́томный; **~ная эне́ргія** внутриа́томная эне́ргия.

**УНУТРЫБА́ЧАННЕ** *ср. спец.* внутриви́дение.

**УНУТРЫБРЫГА́ДНЫ** внутрибрига́дный.

**УНУТРЫВЕ́ДАМАСНЫ** внутриве́домственный.

**УНУТРЫВЕ́ННЫ** *мед.* внутриве́нный; **~ннае ўліва́нне** внутриве́нное влива́ние.

**УНУТРЫВІДАВЫ́** внутривидово́й.

**УНУТРЫВЫТВО́РЧЫ** внутрипроизво́дственный.

**УНУТРЫГАЛІНО́ВЫ** внутриотраслево́й.

**УНУТРЫГАСПАДА́РЧЫ** внутрихозя́йственный.

**УНУТРЫГРУПАВЫ́** внутригруппово́й.

**УНУТРЫДЗЯРЖА́ЎНЫ** внутригосуда́рственный.

**УНУТРЫЗАВО́ДСКІ** внутриза-во́дский, внутризаводско́й.

**УНУТРЫЗАНА́ЛЬНЫ** внутризона́льный.

**УНУТРЫІНСТЫТУ́ЦКІ** внутриинститу́тский.

**УНУТРЫКАЛГА́СНЫ** внутриколхо́зный.

**УНУТРЫКАЛЕКТЫ́ЎНЫ** внутриколлекти́вный.

**УНУТРЫКВАРТА́ЛЬНЫ** внутриквarта́льный.

**УНУТРЫКЛА́САВЫ** внутрикла́ссовый.

**УНУТРЫКЛЁТАЧНЫ** внутрикле́точный.

**УНУТРЫМАЛЕКУЛЯ́РНЫ** внутримолекуля́рный.

**УНУТРЫМЫ́ШАЧНЫ** *мед.* внутримы́шечный.

**УНУТРЫПАЛІТЫ́ЧНЫ** внутриполити́ческий.

**УНУТРЫПАРТЫ́ЙНЫ** внутрипарти́йный; **~ная дэмакра́тыя** внутрипарти́йная демокра́тия.

**УНУТРЫСАЮ́ЗНЫ** внутрисою́зный.

**УНУТРЫФАБРЫ́ЧНЫ** внутрифабри́чный.

**УНУТРЫЦЫЛІ́НДРАВЫ** внутрицили́ндровый.

**УНУТРЫЦЭ́ХАВЫ** внутрицехово́й.

**УНУТРЫЧАРАПНЫ́** *мед.* внутричерепно́й.

**УНУТРЫЯ́ДЗЕРНЫ** *физ.* внутрия́дерный.

**УНУ́ЧАК, -чка** *м.* вну́чек.

**УНУ́ЧКА** *ж.* вну́чка.

**УНУША́ЦЦА** *несов. страд.* внуша́ться.

**УНУША́ЦЬ** *несов.* внуша́ть.

**УНУШЫ́ЦЬ** *сов.* внуши́ть.

**УНУШЭ́ННЕ** *ср.* внуше́ние; **ляча́нне ўнушэ́ннем** лече́ние внуше́нием.

**У́НЦЫЯ** *ж. в разн. знач.* у́нция.

**УНЬ** *см.* **вунь.**

**УНЮ́ХАЦЦА** *сов. разг.* принюха́ться; внюха́ться.

**УНЮ́ХАЦЬ** *сов. разг. прям., перен.* унюхать.

**УНЮ́ХВАЦЦА** *несов. разг.* принюхиваться; внюхиваться.

**УНЯСЕ́ННЕ** *ср. в разн. знач.* внесе́ние; *см.* **унéсці.**

**УПА́Д: да ўпа́ду** *разг.* до упа́ду (упа́да).

**УПАДАБА́НЫ** понра́вившийся, приглянýвшийся.

**УПАДАБА́ЦЦА** *сов. разг.* **1.** прийти́сь по вкýсу, понра́виться; **ямý вéльмі ўпадаба́лася прагýлка па лéсе** емý о́чень понра́вилась прогýлка по́ лесу; **2.** понра́виться; полюби́ться; приглянýться.

**УПАДАБА́ЦЬ** *(каго-што) сов. разг. чаще переводится гл.* понра́виться *или выражением* прийти́сь по вкýсу *в конструкции с дат. субъекта, а также гл.* полюби́ть; **ён ~ба́ў дзяўчы́ну** емý понра́вилась дéвушка; он полюби́л дéвушку.

**УПА́ДАК, -дку** *м.* **1.** *в разн. знач.* упа́док; **у. прыро́сту насéльніцтва** упа́док приро́ста населе́ния; **у. сіл** упа́док сил; **2.** *обл.* убы́ток; уро́н; ◊ **ма́еш ста́так, мýсіш мець і ўпа́дак** *посл.* в хозя́йстве не без уро́на.

**УПАДА́ННЕ** *ср.* впаде́ние; *см.* **упада́ць** 2.

**УПАДА́ЦЬ** *несов.* **1.** *(редко)* па́дать; **2.** впада́ть; *см.* **упа́сці** 2; **3.** *(о реке)* впада́ть; **Бярэ́зіна ўпада́е ў Днепр** Березина́ впада́ет в Днепр; **4.** *разг.* уха́живать, приударя́ть; **у. за дзяўчы́наю** уха́живать (приударя́ть) за дéвушкой.

**УПА́ДАЧНАСЦЬ** *ж.* упа́дочность.

**УПА́ДАЧНІК** *м. в разн. знач.* упа́дочник.

**УПА́ДАЧНЫ** *в разн. знач.* упа́дочный.

**УПАДЗЕ́ННЕ** *ср.* впаде́ние; *см.* **упада́ць** 2.

**УПА́ДЗІНА** *ж.* впа́дина.

**УПА́ДНІЦКІ** упа́дочнический; **у. настро́й** упа́дочническое настрое́ние.

**УПА́ДНІЦТВА** *ср.* упа́дничество.

**УПАІ́ЦЬ** *сов. разг.* упои́ть, напои́ть.

**УПА́ЙВАННЕ** *ср.* впа́ивание.

**УПА́ЙВАЦЦА** *несов. страд.* впа́иваться.

**УПА́ЙВАЦЬ** *несов.* впа́ивать.

**УПА́ЙКА** *ж. в разн. знач.* впа́йка.

**УПАКАВА́НЫ 1.** упако́ванный; **2.** упако́ванный, уло́женный, вмещённый, 1, 2 *см.* **упакава́ць.**

**УПАКАВА́ЦЦА** *сов.* **1.** *(сложить вещи)* упакова́ться; **2.** упакова́ться, уложи́ться, вмести́ться; **усé рэ́чы ўпакава́ліся ў чамада́н** все вéщи упакова́лись (вложи́лись, вмести́лись) в чемода́н.

**УПАКАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** упакова́ть; **у. тава́р** упакова́ть това́р; **2.** упакова́ть, уложи́ть, вмести́ть; **у. усé кнігі ў аднý скры́нку** упакова́ть (уложи́ть, вмести́ть) все кни́ги в оди́н я́щик.

**УПАКО́ВАЧНЫ** упако́вочный.

**УПАКО́ЎВАННЕ** *ср.* **1.** упако́вывание, упако́вка *ж.*; **2.** упако́вы-

вание, укла́дывание, укла́дка *ж.*, вмеще́ние; 1, 2 *см.* **упако́ўваць.**

**УПАКО́ЎВАЦЦА** *несов.* **1.** *(складывать вещи)* упако́вываться; **2.** упако́вываться, укла́дываться, вмеща́ться; **3.** *страд.* упако́вываться; укла́дываться, вмеща́ться; *см.* **упако́ўваць.**

**УПАКО́ЎВАЦЬ** *несов.* **1.** упако́вывать; **2.** упако́вывать, укла́дывать, вмеща́ть; 1, 2 *см.* **упакава́ць.**

**УПАКО́ЎКА** *ж. в разн. знач.* упако́вка; **начала́ся ўпако́ўка тава́раў** начала́сь упако́вка това́ров; **кардо́нная ўпако́ўка** карто́нная упако́вка.

**УПАКО́ЎШЧЫК** *м.* упако́вщик.

**УПАКО́ЎШЧЫЦА** *ж.* упако́вщица.

**УПА́ЛАСЦЬ** *ж.* впа́лость.

**УПА́ЛЕНЫ** разожжённый; *см.* **упалі́ць.**

**УПАЛЁЎВАЦЬ** *несов. охот.* добыва́ть на охо́те; трави́ть, затра́вливать.

**УПАЛІ́ЦЬ** *сов.* разже́чь; **ледзь ~лі́ў сыры́я дро́вы** едва́ разжёг сыры́е дрова́; ◊ **у. штýку** *прост.* отколо́ть но́мер.

**УПА́ЛЫ** впа́лый; ввали́вшийся; **~лыя гру́дзі** впа́лая (ввали́вшаяся) грудь.

**УПА́ЛЬВАННЕ** *ср.* разжига́ние; *см.* **упа́льваць.**

**УПА́ЛЬВАЦЬ** *несов.* разжига́ть; *см.* **упалі́ць.**

**УПАЛЯВА́НЫ** добы́тый на охо́те; затра́вленный.

**УПАЛЯВА́ЦЬ** *сов.* добы́ть на охо́те; затрави́ть.

**УПАМІ́НАК, -нку** *м. разг. см.* **упаміна́нне.**

**УПАМІНА́ННЕ** *ср.* упомина́ние.

**УПАМІНА́ЦЦА** *несов. страд.* упомина́ться.

**УПАМІНА́ЦЬ** *несов.* упомина́ть.

**УПАМПАВА́НЫ** вка́чанный, зака́чанный.

**УПАМПАВА́ЦЬ** *сов.* вкача́ть, закача́ть.

**УПАМПО́ЎВАННЕ** *ср.* вкачи́вание, зака́чка *ж.*

**УПАМПО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* вкачи́ваться, зака́чиваться.

**УПАМПО́ЎВАЦЬ** *несов.* вка́чивать, зака́чивать.

**УПАМЯНЁНЫ** *и* **УПАМЯ́НУТЫ** упомя́нутый.

**УПАМЯНУ́ЦЬ** *сов.* упомяну́ть.

**УПАПА́Д** *нареч.* впопа́д.

**УПАПЯРО́К** *нареч., предлог см.* **упо́перак.**

**УПАРА́ДКАВАНАСЦЬ** *ж.* **1.** упоря́доченность; **2.** благоустро́енность; **у. до́ма** благоустро́енность до́ма.

**УПАРА́ДКАВАННЕ** *ср.* **1.** упоря́дочение; приведе́ние в поря́док; нала́живание; **2.** благоустро́йство; 1, 2 *см.* **упара́дкаваць.**

**УПАРА́ДКАВАНЫ 1.** упоря́доченный; приведённый в поря́док; нала́женный; **2.** благоустро́енный; 1, 2 *см.* **упара́дкаваць.**

**УПАРА́ДКАВАЦЦА** *сов.* **1.** упоря́дочиться; нала́диться; **2.** упра́виться; **яна́ ўжо ўпара́дкавалася** она́ уже́ упра́вилась.

**УПАРА́ДКАВАЦЬ** *сов.* **1.** упоря́дочить; привести́ в поря́док; нала́дить; **у. дастáўку карэспандэ́нцыі** упоря́дочить (нала́дить) доста́вку корреспонде́нции; **у. бібліятэ́ку**

привести́ в поря́док библиоте́ку; **2.** благоустро́ить; **у. го́рад** благоустро́ить го́род.

**УПАРАДКО́ЎВАЦЦА** *несов.* **1.** упоря́дочиваться; нала́живаться; **2.** управля́ться; 1, 2 *см.* **упара́дкавацца; 3.** *страд.* упоря́дочиваться; приводи́ться в поря́док; нала́живаться; благоустра́иваться; *см.* **упарадко́ўваць.**

**УПАРАДКО́ЎВАЦЬ** *несов.* **1.** упоря́дочивать; приводи́ть в поря́док; нала́живать; **2.** благоустра́ивать; 1, 2 *см.* **упара́дкаваць.**

**УПА́РАНЫ** *в разн. знач.* упа́ренный; *(о лошади — ещё)* взмы́ленный; *см.* **упа́рыць.**

**УПА́РВАЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* упа́риваться; *(сильно уставать — ещё)* запа́риваться; *(покрываться потом — ещё)* поте́ть; *(о лошади — ещё)* взмы́ливаться; *см.* **упа́рыцца; 2.** *страд.* упа́риваться; *см.* упа́рваць.

**УПА́РВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* упа́ривать; *(лошадь — ещё)* взмы́ливать; *см.* **упа́рыць.**

**УПАРО́ЦЬ** *сов. разг.* уколо́ть, ткнуть.

**УПА́РТА** *нареч.* **1.** упо́рно, насто́йчиво; **2.** упря́мо; 1, 2 *см.* упа́рты 1, 2.

**УПА́РТАСЦЬ** *ж.* **1.** упо́рство *ср.*, упо́рность, насто́йчивость; **2.** упря́мство *ср.*, строптивость; 1, 2 *см.* упа́рты 1, 2.

**УПА́РТАЯ** *сущ.* упря́мица, стропти́вица.

**УПА́РТЫ 1.** *прил.* упо́рный, насто́йчивый; **у. хара́ктар** упо́рный (насто́йчивый) хара́ктер; **~тая пра́ца над сабо́й** упо́рная (насто́йчивая) рабо́та над собо́й; **2.** *прил.* упря́мый, стропти́вый; **у. чалаве́к** упря́мый (стропти́вый) челове́к; **3.** *в знач. сущ.* упря́мец, стропти́вец; ◊ **фа́кты — ~тая рэч** фа́кты — упря́мая вещь.

**УПА́РЦІЦЦА** *несов. разг.* упря́миться.

**УПА́РЫЦЦА** *сов. в разн. знач.* упа́риться; *(сильно устать — ещё)* запа́риться; *(покрыться потом — ещё)* вспоте́ть; *(о лошади — ещё)* взмы́литься; **агаро́дніна до́бра ўпа́рылася** о́вощи хорошо́ упа́рились; **у. на рабо́це** упа́риться (запа́риться) на рабо́те; **конь ~рыўся** ло́шадь упа́рилась (взмы́лилась).

**УПА́РЫЦЬ** *сов. в разн. знач.* упа́рить; *(лошадь — ещё)* взмы́лить; **у. рэ́пу** упа́рить ре́пу; **у. каня́** упа́рить (взмы́лить) ло́шадь.

**УПА́СВІЦЬ** *сов.* **1.** смочь пасти́; **гэ́ты малы́ адзі́н каро́ў не ўпасе́** э́тот ма́лый оди́н не смо́жет пасти́ коро́в; **2.** *разг.* откорми́ть *(на подножном корму)*; **3.** убере́чь; **у. куран́ят** убере́чь цыпля́т.

**УПА́СЦІ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* упа́сть; *(о подозрении — ещё)* пасть; *(понизиться в уровне — ещё)* убы́ть; **у се́нцах упа́ла вядро́** в сеня́х упа́ло ведро́; **пасля́ стрэ́лу не́калькі чалаве́к упа́ла** по́сле вы́стрела не́сколько челове́к упа́ло; **з клёна ўпаў жо́ўты лісто́к** с клёна упа́л жёлтый листо́к; **валасы́ ўпа́лі на во́чы** во́лосы упа́ли на глаза́; **цень упа́ў на зямлю́** тень упа́ла на зе́млю; **на яго́ ўпа́ла падазрэ́нне** на него́ па́ло подозре́ние; **вада́ ў рацэ́ ўпа́ла** вода́ в реке́ упа́ла (убыла́); **2.** *в др. знач.* впасть; **яго́ шчо́кі зусі́м упа́лі** его́ щёки совсе́м впа́ли; **у. ў бе́днасць** впасть в нужду́; **у. ў ро́спач** впасть в отча́яние; ◊ **у. ду́хам** пасть ду́хом; **ка́менем у.** ка́мнем упа́сть; **засло́на з вачэ́й упа́ла** пеле-

на́ с глаз упа́ла; **я́бльку няма́ дзе ўпа́сці** я́блоку не́где упа́сть; **во́лас с галавы́ не ўпадзе́** во́лос с головы́ не упадёт; **у. ў во́ка** *каму* обрати́ть на себя́ *чьё* внима́ние; **у. з не́ба на зямлю́** упа́сть с не́ба на зе́млю.

**УПАТА́КАВАЦЬ** *сов. обл.* привести́ в поря́док, упоря́дочить; **у. рэ́чы** привести́ в поря́док, упоря́дочить ве́щи.

**УПАЎЗА́ННЕ** *ср.* вполза́ние.

**УПАЎЗА́ЦЬ** *несов.* вполза́ть.

**УПАЎЗЦІ́** *сов.* **1.** вползти́; **змяя́ ўпаўзла́ ў нару́** змея́ вползла́ в нору́; **2.** *перен. разг. (с трудом войти)* вползти́, втащи́ться.

**УПАЎНАВА́ЖАННЕ: па ўпаўнава́жанню** по уполномо́чию.

**УПАЎНАВА́ЖАНЫ 1.** *прич.* уполномо́ченный; **2.** *в знач. сущ.* уполномо́ченный.

**УПАЎНАВА́ЖВАЦЦА** *несов. страд.* уполномо́чиваться.

**УПАЎНАВА́ЖВАЦЬ** *несов.* уполномо́чивать.

**УПАЎНАВА́ЖЫЦЬ** *сов.* уполномо́чить.

**УПАЦЕ́ЛЫ** вспоте́вший.

**УПАЦЕ́ЦЬ** *сов.* вспоте́ть.

**УПАЧА́ТКУ** *нареч.* внача́ле.

**УПАЯ́НЫ** впа́янный.

**УПАЯ́ЦЬ** *сов.* впая́ть.

**УПЕ́КАЦЬ** *несов. обл. см.* **упяка́ць.**

**УПЕРАВА́ЛКУ** *нареч. разг.* вразва́лку.

**УПЕРАГІ́Б** *нареч. разг.* впереги́б.

**УПЕРАГО́НКІ** *нареч. разг.* вперего́нки, вперегонки́.

**УПЕ́РАД** *нареч.* **1.** вперёд; **зрабі́ць два кро́кі ўпе́рад** сде́лать два шага́ вперёд; **2.** ра́ньше, пре́жде, вперёд; **у. паду́май, а по́тым гавары́** вперёд (ра́ньше, пре́жде) поду́май, а пото́м говори́; **прыйсці́ ўпе́рад за ўсі́х** прийти́ ра́ньше всех; ◊ **узадзі ўпе́рад** взад и вперёд; **ні ўзад ні ўпе́рад** ни взад ни вперёд; **папа́ўся (тра́піў) у не́рат — ні ўзад ні ўпе́рад** *погов.* ни туда́ ни сюда́.

**УПЕ́РАДЗЕ 1.** *нареч.* впереди́; **у. блі́снуў аге́ньчык** впереди́ блесну́л огонёк; **2.** *предлог с род.* впереди́; **ён е́хаў у. ўсі́х** он е́хал впереди́ всех.

**УПЕРАМЕ́ЖКУ** *нареч. разг.* вперeме́жку.

**УПЕРАМЕ́ШКУ** *нареч. разг.* вперeме́шку.

**УПЕ́РЦІ** *сов.* **1.** *разг. (впихнуть, втиснуть)* впере́ть; **2.** *разг.* втащи́ть, вволо́чь; **у. мяшо́к у ха́ту** втащи́ть (вволо́чь) мешо́к в ха́ту; **3.** *(делая упор)* упере́ть; **у. жэ́рдку ў сцяну́** упере́ть шест в сте́ну; **4.** *разг. (навязать)* всучи́ть; **у. бракава́ны прыёмнік** всучи́ть брако́ванный приёмник; **5.** *разг. (напрасно израсходовать деньги)* всади́ть; **у. ты́сячу рублёў** всади́ть ты́сячу рубле́й.

**УПЕ́РЦІСЯ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* упере́ться; **у. рука́мі ў сцяну́** упере́ться рука́ми в сте́ну; **мы е́халі, е́халі і ўпе́рліся ў плот** мы е́хали, е́хали и упёрлись в забо́р; **спра́ва ўпе́рлася ў непрадба́чаную ця́жкасць** де́ло упёрлось в непредви́денную тру́дность; **2.** заупря́миться, заарта́читься; **конь упёрся і ні з ме́сца** ло́шадь заупря́милась (заарта́чилась) и ни с ме́ста; **3.** *разг. (с трудом или вопреки желанию других войти куда-л.)* впере́ться, вломи́ться; ◊ **упёрся як бара́н** упёрся как бара́н.

**УПЕРШЫНЮ́** *нареч.* впервы́е; (в) пе́рвый раз.

**УПЕ́ЧАНЫ** упечённый; ужа́ренный; *см.* упячы́ 1.

**УПЁК, -ку** *м.* упёк; **працэ́нт упёку хлеба** процент упёка хле́ба.

**УПЁРТЫ 1.** *разг.* впёртый; **2.** упёртый; **3.** *разг.* всу́ченный; **4.** *разг.* вса́женный; 1—4 *см.* **упёрці** 1, 3, 4, 5.

**УПІВА́ЦЦА** I *несов.* впива́ться; *см.* **упі́цца** I.

**УПІВА́ЦЦА** II *несов. прям., перен.* напива́ться, упива́ться, захмелева́ть.

**УПІВА́ЦЬ** *несов.* впива́ть, впи́тывать, поглоща́ть.

**УПІКА́ННЕ** *ср. (действие)* упрёки *мн.*

**УПІКА́ЦЬ** *несов.* упрека́ть, попрека́ть, укоря́ть, кори́ть.

**УПІ́КІ** *ед. нет* упрёк *м.*, попрёк *м.*, уко́р *м.*, укори́зна *ж.*

**УПІКНУ́ЦЬ** *сов.* упрекну́ть, попрекну́ть, укори́ть.

**УПІЛЬНАВА́НЫ** украу́ленный, устережённый; убережённый; *см.* **упільнава́ць.**

**УПІЛЬНАВА́ЦЬ** *(каго, што) сов.* укарау́лить, устере́чь; убере́чь; уследи́ть *(за кем, чем)*; **не ўпільнава́ў рэ́чаў** не укарау́лил (не устерёг, не уберёг) веще́й; **яго́ не ўпільну́еш** за ним не уследи́шь.

**УПІЛЬНО́ЎВАЦЬ** *(каго, што) несов.* укарау́ливать, устерега́ть; уберега́ть; успе́живать *(за кем, чем); см.* **упільнава́ць.**

**УПІНА́ЦЦА** *несов.* упря́миться, упира́ться.

**УПІРА́ННЕ** *ср. (действие, состояние)* упо́р *м.*

**УПІРА́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* упира́ться; **2.** упря́миться, арта́читься; 1, 2 *см.* **упе́рціся** 1, 2; **3.** *страд.* впира́ться; вта́скиваться, вволакиваться; *см.* **упіра́ць** 1, 2.

**УПІРА́ЦЬ** *несов.* **1.** *разг. (впихивать, втискивать)* впира́ть; **2.** *разг.* вта́скивать, вволакивать; **3.** упира́ть; **4.** *разг. (навязывать)* всу́чивать; 1—4 *см.* **упе́рці** 1—4.

**УПІ́РЫСТАСЦЬ** *ж. разг.* упря́мство *ср.*

**УПІ́РЫСТЫ** *разг.* упря́мый.

**УПІ́САНЫ 1.** *в разн. знач.* впи́санный, внесённый; **2.** упи́санный, вмещённый; **3.** *разг.* упи́санный; 1—3 *см.* **упіса́ць.**

**УПІСА́ЦЦА** *сов.* **1.** вписа́ться; **у. ў спіс** вписа́ться в спи́сок; **2.** *(на каком-либо пространстве)* уписа́ться, вмести́ться; **3.** *перен. (не нарушить гармонии с чем-л.)* вписа́ться; **у. ў ландша́фт** вписа́ться в ландша́фт; **у. ў калекты́ў рэда́кцыі** вписа́ться в коллекти́в реда́кции.

**УПІСА́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* вписа́ть, внести́; **у. у спіс** вписа́ть (внести́) в спи́сок; **у. прапу́шчаныя сло́вы** вписа́ть пропу́щенные слова́; **у. акру́жнасць** вписа́ть окру́жность; **2.** уписа́ть, вмести́ть; **у. пісьмо́ на адно́й старо́нцы** уписа́ть (вмести́ть) письмо́ на одно́й страни́це; **3.** *разг. (съесть)* уписа́ть; **у. бу́лку** уписа́ть бу́лку.

**УПІ́СВАННЕ** *ср.* впи́сывание, внесе́ние; *см.* **упі́сваць** 1.

**УПІ́СВАЦЦА** *несов.* **1.** впи́сываться; **2.** *(на каком-либо пространстве)* упи́сываться, вмеща́ться; **3.** *перен. (не нарушать гармонии с чем-л.)* впи́сываться; 1—3 *см.* **упіса́цца; 3.** *страд.* впи́сывать-

ся, вноси́ться; упи́сываться; вмеща́ться; *см.* **упі́свацъ.**

**УПІ́СВАЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* впи́сывать, вноси́ть; **2.** упи́сывать, вмеща́ть; **3.** *разг. (съедать)* упи́сывать; 1—3 *см.* **упіса́ць.**

**УПІ́СКА** *ж. в разн. знач.* впи́ска; **у. прапу́шчаных лі́тар** впи́ска пропу́щенных букв; **у тэ́ксце шмат ~сак** в те́ксте мно́го впи́сок.

**УПІСНЫ́** *разг.* вписно́й.

**УПІ́ТЫ** поглощённый.

**УПІХА́ННЕ** *ср. разг.* **1.** запи́хивание, впи́хивание; **2.** вта́лкивание, впи́хивание; 1, 2 *см.* **упіха́ць** 1, 2.

**УПІХА́ЦЦА** *несов. страд.* запи́хиваться; впи́хиваться; сова́ться, засо́вываться; вта́лкиваться; умина́ться; *см.* **упіха́ць.**

**УПІХА́ЦЬ** *несов. разг.* **1.** запи́хивать, впи́хивать; сова́ть, засо́вывать; *см.* **упхну́ць** 1, **упха́ць** 1; **2.** *(заставлять войти)* вта́лкивать, впи́хивать; *см.* **упхну́ць** 2; **3.** *(съедать)* умина́ть.

**УПІ́ХВАННЕ** *ср. см.* упіха́нне.

**УПІ́ХВАЦЦА** *несов. страд. см.* **упіха́цца.**

**УПІ́ХВАЦЬ** *несов. см.* **упіха́ць.**

**УПІХНУ́ТЫ** *см.* **упхну́ты.**

**УПІХНУ́ЦЬ** *сов. см.* **упхну́ць.**

**УПІ́ЦЦА** I *сов.* впи́ться; **п'яўка ўпіла́ся ў цела** пия́вка впила́сь в те́ло.

**УПІ́ЦЦА** II *сов. прям., перен.* напи́ться, упи́ться; захмеле́ть.

**УПІ́ЦЬ** *сов.* смочь вы́пить что-ли́бо; **малако́ тако́е хало́днае, што не ўпі́ць** молоко́ тако́е холо́дное, что не смо́жешь вы́пить.

**УПЛА́ВІЦЬ** *сов. тех.* впла́вить.

**УПЛА́Ў** *нареч.* вплавь.

**УПЛА́ЎЛЕНЫ** *тех.* впла́вленный.

**УПЛАЎЛЯ́ЦЦА** *несов. страд. тех.* вплавля́ться.

**УПЛАЎЛЯ́ЦЬ** *несов. тех.* вплавля́ть.

**УПЛЕ́СКВАЦЦА** *несов. возвр., страд. разг.* прибива́ться; вбива́ться, вта́птываться; *см.* **упляска́цца, уплёскваць.**

**УПЛЕ́СКВАЦЬ** *несов. разг.* **1.** прибива́ть; **2.** *(в грязь и т. п)* вбива́ть, вта́птывать; 1, 2 *см.* **упляска́ць.**

**УПЛЕ́СЦІ** *сов.* **1.** вплести́; ввить; ввяза́ть; **у. сту́жку ў ка́су** вплести́ ле́нту в ко́су; **у. ў шнуро́к залату́ю ні́тку** вплести́ (ввить) в шнуро́к золоту́ю нить; **2.** *разг. (втянуть, вовлечь)* впу́тать; **3.** *(израсходовать всё)* уплести́; **усе́ ні́ткі ўпляла́ ў адзі́н по́яс** все ни́тки уплела́ в оди́н по́яс; **4.** *(съесть)* уплести́.

**УПЛЕ́СЦІСЯ** *сов.* **1.** *(ввиться)* вплести́сь; **2.** *(за што, у што)* вцепи́ться *(во что)*, уцепи́ться *(за что)*; **у. за крысо́** вцепи́ться в полу́, уцепи́ться за полу́; **3.** *разг.* увяза́ться; **за на́мі ўпляллі́ся два саба́кі** за на́ми увяза́лись две соба́ки.

**УПЛЕ́ЦЕНЫ** **1.** вплетённый; ввитый; ввя́занный; **2.** уплетённый; 1, 2 *см.* **уплесці** 1, 3.

**УПЛІ́ШЧЫЦЦА** *сов. прост.* вти́снуться, втере́ться.

**УПЛЫВА́ЦЬ** I *несов.* **1.** *(заплывать внутрь)* вплыва́ть; **2.** *разг. (за какое-л. время)* проплыва́ть.

**УПЛЫВА́ЦЬ** II *несов.* влия́ть.

**УПЛЫВО́ВАСЦЬ** *ж.* влия́тельность.

**УПЛЫВО́ВЫ** влия́тельный.

**УПЛЫ́СЦІ** *сов.* **1.** *(заплыть внутрь)* вплыть; **2.** *разг. (за какое-л. время)* проплы́ть.

**УПЛЫ́Ў, -лы́ву** *м. в разн. знач.* влия́ние; **знахо́дзіцца пад уплы́вам** находи́ться под влия́нием; **мець у. на каго-не́будзь** име́ть влия́ние на кого́-л.

**УПЛЫ́ЦЬ** *сов. см.* **уплы́сці.**

**УПЛЮ́ХАНЫ** *разг.* забры́зганный.

**УПЛЮ́ХАЦЦА** *сов. разг.* забры́згаться.

**УПЛЮ́ХАЦЬ** *сов. разг.* забры́згать.

**УПЛЮ́ХВАЦЦА** *несов. возвр., страд. разг.* забры́згиваться.

**УПЛЮ́ХВАЦЬ** *несов. разг.* забры́згивать.

**УПЛЮ́ХНУТЫ** вплёснутый; *см.* **уплю́хнуць.**

**УПЛЮ́ХНУЦЬ** *сов. (влить)* вплесну́ть.

**УПЛЯСКА́НЫ** *разг.* **1.** приби́тый; **2.** вби́тый, вто́птанный; 1, 2 *см.* **упляска́ць.**

**УПЛЯСКА́ЦЦА** *сов. разг.* **1.** *(дождём, градом)* приби́ться; **2.** *(в грязь и т. п.)* вби́ться, втопта́ться.

**УПЛЯСКА́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** приби́ть; **дождж ~ка́ў зямлю́** дождь приби́л зе́млю; **2.** *(в грязь и т. п.)* вбить, втопта́ть.

**УПЛЯТА́ННЕ** *ср.* **1.** вплета́ние; ввива́ние; ввя́зывание; **2.** *разг.* впу́тывание; 1, 2 *см.* **уплята́ць** 1, 2.

**УПЛЯТА́ЦЦА** *несов.* **1.** *(ввиваться)* вплета́ться; **2.** *(за што, у што)* вцепля́ться *(во что)*; уцепля́ться *(за что)*; **3.** *разг.* увя́зываться; 1—3 *см.* **уплёсціся; 4.** *страд.* вплета́ться; ввива́ться; ввя́зываться; впу́тываться; уплета́ться; *см.* **уплята́ць.**

**УПЛЯТА́ЦЬ** *несов. разг.* **1.** вплета́ть; ввива́ть; ввя́зывать; **2.** *(втягивать, вовлекать)* впу́тывать; **3.** *(съедать)* уплета́ть; 1—3 *см.* **уплёсці** 1, 2, 4; ◊ **у. за абе́дзве шчакі́** уплета́ть за о́бе щеки́.

**УПО́ЕНЫ** упоённый.

**УПО́ЙВАЦЦА** *несов. разг. страд.* упа́иваться.

**УПО́ЙВАЦЬ** *несов. разг.* упа́ивать.

**УПО́КАТ** *несов. разг.* впова́лку.

**УПО́Л: схапі́ць у.** обхвати́ть за та́лию.

**УПО́МНІЦЬ** *сов. разг.* упо́мнить.

**УПО́ПЕРАК 1.** *нареч.* поперёк; **пілава́ць бервяно́ ўпо́перак** пили́ть бревно́ поперёк; **2.** *разг. нареч. перен.* наперекор; поперёк; **3.** *предлог с род.* поперёк; **у. кана́вы** поперёк кана́вы; ◊ **удо́ўж і ўпо́перак** вдоль и поперёк.

**УПО́Р** *м.* **1.** *род.* **упо́ру** *(действие, состояние)* упо́р; **пункт ~ру** то́чка упо́ра; **2.** *род.* **упо́ра** *(предмет)* упо́р; **страля́ць з ~ра** стреля́ть с упо́ра; **гарызанта́льны ўпор** горизонта́льный упо́р; ◊ **рабі́ць у.** де́лать упо́р; **ва ўпор** в упо́р.

**УПО́РАВЕНЬ** *нареч. разг.* **1.** наравне́; *(на одном уровне — ещё)* вро́вень; **2.** *(редко)* ря́дом; **сядзе́ць у.** сиде́ть ря́дом.

**УПО́РНЫ** *(служащий для упора)* упо́рный.

**УПО́ТАЙ** *и* **УПО́ТАЙКІ** *нареч.* тайко́м, укра́дкой.

**УПО́ЦЕМКУ** *нареч. разг.* впотьма́х, в потёмках.

**УПРА́ВА** I *нареч.* впра́во.

**УПРА́ВА** II *сущ. ж. в разн. знач.* упра́ва; **зе́мская ўпра́ва** *ист.* зе́мская упра́ва; **знайсці́ ўпра́ву на каго-не́будзь** найти́ упра́ву на кого́-л.

**УПРАВА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* упрева́ть; **2.** *(о навозе и т. п.)* перегнива́ть; 1, 2 *см.* **упрэ́ць.**

**УПРА́ВІЦЦА** *сов.* **1.** упра́виться; спра́виться; **у. з рабо́тай** упра́виться (спра́виться) с рабо́той; **з усі́м яна́ ўпра́вілася за адзі́н дзень** со всем она́ упра́вилась (спра́вилась) за оди́н день; **2.** *(вернуться, сходив, съездив)* оберну́ться; **у. за су́ткі** оберну́ться за су́тки; **3.** успе́ть, поспе́ть; **не ўпра́віцца адказа́ць** не успе́ть (не поспе́ть) отве́тить.

**УПРА́ВІЦЬ** *сов.* **1.** впра́вить; **у. вы́віхнутую руку́** впра́вить вы́вихнутую ру́ку; **2.** *перен. разг.* загуби́ть; **у. каня́** загуби́ть коня́; **3.** *разг. (дать крепко застрять, завязнуть)* завязи́ть; всади́ть, вогна́ть; **так ~віў воз у гразь, што ледзь вы́цягнулі** так завязи́л воз в грязи́, что наси́лу вы́тащили; **у. сяке́ру ў бервяно́** всади́ть (вогна́ть) топо́р в бревно́.

**УПРАГА́ННЕ** *ср.* впряга́ние.

**УПРАГА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* впряга́ться; *см.* **упрэ́гчыся** I, **упрага́ць.**

**УПРАГА́ЦЬ** *несов. прям., перен.* впряга́ть; *см.* **упрэ́гчы** I.

**УПРАДА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* впряда́ться.

**УПРАДА́ЦЬ** *несов.* впряда́ть.

**УПРА́ДЗЕНЫ** впрядённый; *см.* **упра́сці.**

**УПРА́ЖАНЫ** *(о бобах, семечках и т. п.)* ужа́ренный; прожа́ренный, прокалённый.

**УПРА́ЖВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* ужа́риваться, прожа́риваться, прока́ливаться; *см.* **упра́жваць.**

**УПРА́ЖВАЦЬ** *несов. (бобы, семечки и т. п.)* ужа́ривать, прожа́ривать, прока́ливать.

**УПРА́ЖЫЦЦА** *сов. (о бобах, семечках и т. п.)* ужа́риться, прожа́риться, прокали́ться.

**УПРА́ЖЫЦЬ** *сов. (бобы, семечки и т. п.)* ужа́рить, прожа́рить, прокали́ть.

**УПРАСАВА́НЫ** **1.** упрессо́ванный; **2.** впрессо́ванный; 1, 2 *см.* **упрасава́ць.**

**УПРАСАВА́ЦЦА** *сов. (хорошо утрамбоваться под прессом)* упрессова́ться.

**УПРАСАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(утрамбовать под прессом)* упрессова́ть; **2.** *(вставить прессованием)* впрессова́ть; **у. ўту́лку** впрессова́ть вту́лку.

**УПРАСІ́ЦЦА** *сов. разг.* упроси́ться.

**УПРАСІ́ЦЬ** *сов.* упроси́ть; умоли́ть; **у. прыйсці́** упроси́ть прийти́; **у. заста́цца** упроси́ть (умоли́ть) оста́ться.

**УПРАСО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* упрессо́вываться; впрессо́вываться; *см.* **упрасо́ўваць.**

**УПРАСО́ЎВАЦЬ** *несов.* **1.** *(утрамбовывать под прессом)* упрессо́вывать; **2.** *(вставлять прессованием)* впрессо́вывать; 1, 2 *см.* **упрасава́ць.**

**ЦУРУ́БАЛКА** *ж.* **1.** *(обрубок палки)* чу́рка; **2.** деревя́нная застёжка.

**ЦУРЧА́ННЕ** *ср. (действие)* журча́ние.

**ЦУРЧА́ЦЬ** *несов.* **1.** журча́ть; **2.** течь, струи́ться.

**ЦУРЧЭ́ЦЬ** *несов. см.* **цурча́ць.**

**ЦУХМО́ЛІЦЦА** *несов. страд. разг.* мусо́литься.

**ЦУХМО́ЛІЦЬ** *несов. разг. (пачкать)* мусо́лить.

**ЦЫ́БАЛКА** *ж. разг.* **1.** *обл.* стёбель *м.*; **2.** *чаще мн. перен.* го́лени; дли́нные но́ги.

**ЦЫБА́ТЫ** **1.** длинноно́гий, голена́стый; **2.** *(высокий, худощавый)* долговя́зый.

**ЦЫБ'Ё** *собир. ср. обл.* го́лые стёбли.

**ЦЫ́БІК** *м. уст.* ци́бик.

**ЦЫБУ́К, -ка́** *м.* **1.** *(у трубки для курения)* чубу́к; **2.** стёбель; **3.** *(черенок винограда)* чубу́к.

**ЦЫБУЛЕПАДО́БНЫ** луковицеви́дный, луковицеобра́зный.

**ЦЫБУ́ЛІНА** *ж. в разн. знач.* лу́ковица; **ц. цюльпа́на** лу́ковица тюльпа́на; **з'есці дзве цыбу́ліны** съесть две лу́ковицы; **ц. во́ласа** лу́ковица во́лоса.

**ЦЫБУ́ЛЬКА** *ж.* **1.** *собир.* лучо́к *м.*; **2.** *уменьш.-ласк.* лу́ковичка, лу́ковка.

**ЦЫБУ́ЛЬНЫ** **1.** лу́ковый; **ц. смак** лу́ковый вкус; **ц. со́ус** лу́ковый со́ус; **2.** лу́ковичный; **~ныя расл́іны** лу́ковичные расте́ния.

**ЦЫБУ́ЛЯ** *ж. бот.* лук *м.*; ○ **ко́нская ц.** *бот.* си́тник разве́систый.

**ЦЫБУ́ЛЯ-БАТУ́Н,** *род.* **цыбу́лі-батуна́** *ж.* лук-бату́н *м.*

**ЦЫБУ́ЛЯ-ПАРЭ́Й,** *род.* **цыбу́лі-парэ́ю** *ж.* лук-поре́й *м.*

**ЦЫБУ́ЛЯ-СЯВО́К,** *род.* **цыбу́лі-сяўку́** *ж.* лук-сево́к *м.*

**ЦЫБУ́Р, -ра́** *м.* стёбель.

**ЦЫВІЛІЗАВА́НАСЦЬ** *ж.* цивилизо́ванность.

**ЦЫВІЛІЗАВА́НЫ** *прич., прил.* цивилизо́ванный.

**ЦЫВІЛІЗАВА́ЦЦА** *сов. и несов.* цивилизова́ться.

**ЦЫВІЛІЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* цивилизова́ть.

**ЦЫВІЛІЗА́ТАР** *м.* цивилиза́тор.

**ЦЫВІЛІЗА́ТАРСКІ** цивилиза́торский.

**ЦЫВІЛІЗА́ЦЫЯ** *ж. в разн. знач.* цивилиза́ция.

**ЦЫВІЛІ́СТ** *м. юр.* цивили́ст.

**ЦЫВІЛІ́СТКА** *ж. юр.* цивили́стка.

**ЦЫВІЛІ́СТЫКА** *ж. юр.* цивили́стика.

**ЦЫВІ́ЛЬНАЕ** *сущ. (об одежде)* шта́тское; **у ~ным** в шта́тском.

**ЦЫВІ́ЛЬНЫ** **1.** *прил.* шта́тский, гражда́нский, циви́льный; **~ная во́пратка** шта́тское (гражда́нское, циви́льное) пла́тье; **~ныя ўла́ды** гражда́нские вла́сти; ○ **ц. ліст** *уст.* циви́льный лист; **2.** *в знач. сущ.* шта́тский.

**ЦЫГА́ЙСКІ: цыга́йская паро́да аве́чак** цига́йская поро́да ове́ц.

**ЦЫГА́Н, -на́** *м.* цыга́н; ◊ **ко́жны ц. сваю́ кабы́лу хва́ліць** *посл.* всяк кули́к своё боло́то хва́лит.

**ЦЫГАНАВА́ТЫ** *разг.* похо́жий на цыга́на.

**ЦЫГА́НАЧКА** *ж.* **1.** *уменьш.-ласк.* цыга́ночка; **2.** *муз. (танец)* цыга́ночка.

**ЦЫГАНЁ** *и* **ЦЫГАНЯ́, -ня́ці** *ср.* цыганёнок *м.*

**ЦЫГА́НІЦЬ** *несов. разг. (выпрашивать)* цыга́нить.

**ЦЫГА́НКА** *ж.* **1.** цыга́нка; **2.** *обл. сад.* цыга́нка.

**ЦЫГА́НСКІ** цыга́нский; ○ **ц. пот** цыга́нский пот; **ц. дождж** цыга́нский дождь.

**ЦЫГА́НШЧЫНА** *ж. пренебр.* цыга́нщина.

**ЦЫГАНЫ́, -но́ў** цыга́не.

**ЦЫГА́РА** *ж.* сига́ра.

**ЦЫГАРАПАДО́БНЫ** сигарообра́зный.

**ЦЫГА́РКА** *ж.* самокру́тка, цига́рка.

**ЦЫГА́РНІК** *м. спец.* сига́рочник.

**ЦЫГА́РНІЦА** *ж. в разн. знач.* сига́рочница.

**ЦЫГА́РНЫ** сига́рный.

**ЦЫГАРЭ́ТА** *ж.* сигаре́та.

**ЦЫГАРЭ́ТНІЦА** *ж. (коробочка для сигар)* сига́рочница.

**ЦЫГАРЭ́ТНЫ** сигаре́тный.

**ЦЫГАРЭ́ТЧЫК** *м.* сигаре́тчик.

**ЦЫГАРЭ́ТЧЫЦА** *ж.* сигаре́тчица.

**ЦЫГЕ́ЙКА** *ж.* цигейка.

**ЦЫГЕ́ЙКАВЫ** цигейковый.

**ЦЫДУ́ЛКА** *ж. разг.* цыду́лка, пису́лька.

**ЦЫЗАЛЬПІ́НСКІ** *геогр.* цизальпи́нский.

**ЦЫКА́ДА** *ж. зоол.* цика́да.

**ЦЫ́КАЦЬ** *несов. в разн. знач. разг.* цы́каць; **ц. на дзяцей** цы́кать на дете́й.

**ЦЫКЛ** *м. в разн. знач.* цикл.

**ЦЫКЛАБУТА́Н, -ну** *м. хим.* циклобута́н.

**ЦЫКЛАВА́ННЕ** *ср. спец.* циклова́ние.

**ЦЫКЛАВА́НЫ** цикло́ванный.

**ЦЫКЛАВА́ЦЬ** *несов. спец.* циклова́ть.

**ЦЫКЛАВЫ́** цикловой.

**ЦЫКЛАГЕКСА́Н, -ну** *м. хим.* циклогекса́н.

**ЦЫКЛАГЕНЕ́З, -зу** *м. метеор.* циклогене́з.

**ЦЫКЛАГРА́МА** *ж. спец.* циклогра́мма.

**ЦЫКЛАГРАФІ́ЧНЫ** циклографи́ческий.

**ЦЫКЛАГРА́ФІЯ** *ж. спец.* циклогра́фия.

**ЦЫКЛАДРО́М** *м. спец.* циклодро́м.

**ЦЫКЛАІДА́ЛЬНЫ** *спец.* циклоида́льный.

**ЦЫКЛАМЕ́Н, -ну** *м. бот.* цикламе́н.

**ЦЫКЛАНІ́ЧНЫ** циклони́ческий; **ц. віхор** циклони́ческий вихрь.

**ЦЫКЛАПІ́ЧНЫ** циклопи́ческий.

**ЦЫКЛАТРО́Н** *м.* циклотро́н.

**ЦЫКЛАТРО́ННЫ** циклотро́нный.

**ЦЫКЛАФАЗАТРО́Н** *м.* циклофазатро́н.

**ЦЫКЛЁВАНЫ** *см.* **цыклява́ны.**

**ЦЫКЛЁЎКА** *ж.* циклёвка.

**ЦЫКЛЁЎШЧЫК** *м.* циклёвщик.

**ЦЫКЛІЗА́ЦЫЯ** *ж.* циклиза́ция.

**ЦЫКЛІ́ЧНА** *нареч.* цикли́чно, цикли́чески.

**ЦЫКЛІ́ЧНАСЦЬ** *ж.* цикли́чность.

**ЦЫКЛІ́ЧНЫ** *в разн. знач.* цикли́чный, цикли́ческий; **~нае злучэ́нне** *хим.* цикли́ческое соедине́ние; **ц. гра́фік** цикли́чный гра́фик.

**ЦЫКЛО́ВАНЫ** *см.* **цыклава́ны.**

**ЦЫКЛО́ІДА** *ж. мат.* цикло́ида.

**ЦЫКЛО́ІДНЫ** *спец.* цикло́идный.

**ЦЫКЛО́Н 1.** *род.* **цыкло́ну** *м. метеор.* цикло́н; **2.** *род.* **цыкло́на** *м. (аппарат)* цикло́н.

**ЦЫКЛО́П** *м. миф., зоол.* цикло́п.

**ЦЫ́КЛЯ** *ж. стол.* ци́кля.

**ЦЫКЛЯВА́ЛЬНЫ** циклева́льный.

**ЦЫКЛЯВА́ННЕ** *ср. (действие)* циклева́ние, циклёвка *ж.*

**ЦЫКЛЯВА́НЫ** циклёванный.

**ЦЫКЛЯВА́ЦЬ** *несов.* циклева́ть.

**ЦЫ́КНУЦЬ** *сов. однокр. разг.* цы́кнуть.

**ЦЫКО́РНЫ** цико́рный.

**ЦЫКО́РЫЯ** *ж. в разн. знач.* цико́рий *м.*

**ЦЫКУ́ТА** *ж. бот.* цику́та.

**ЦЫЛІ́НДР** *м. в разн. знач.* цили́ндр.

**ЦЫЛІ́НДРАВЫ** *тех.* цили́ндровый.

**ЦЫЛІНДРЫ́ЧНЫ** цилиндри́ческий; **~ная паве́рхня** *мат.* цилиндри́ческая пове́рхность.

**ЦЫМБАЛІ́СТ** *м. муз.* цимбали́ст.

**ЦЫМБА́ЛЫ, -лаў** *ед. нет муз.* цимба́лы.

**ЦЫМБА́ЛЬНЫ** цимба́льный.

**ЦЫМЕРВА́ЛЬДСКІ** циммерва́льдский; **Цымерва́льдская канферэ́нцыя** *ист.* Циммерва́льдская конфере́нция.

**ЦЫМЛЯ́НСКАЕ** *сущ. (вино)* цимля́нское.

**ЦЫ́МУС -су** *м.* **1.** *(кушанье из моркови)* ци́мус; **2.** *разг.* са́мая суть; са́мое интере́сное.

**ЦЫНАНДА́ЛІ** *нескл. ср. (вино)* цинанда́ли.

**ЦЫНГА́** *ж. мед.* цинга́.

**ЦЫНГО́ТНЫ** цинго́тный.

**ЦЫНЕРА́РЫЯ** *ж. бот.* цинера́рия.

**ЦЫНІ́ЗМ, -му** *м.* цини́зм.

**ЦЫ́НІК** *м.* ци́ник.

**ЦЫНІ́ЧНА** *нареч.* цини́чно, цини́чески.

**ЦЫНІ́ЧНАСЦЬ** *ж.* цини́чность.

**ЦЫНІ́ЧНЫ** цини́чный, цини́ческий.

**ЦЫ́НІЯ** *ж. бот.* ци́нния.

**ЦЫНК,** *род.* **цы́нку** *м.* цинк.

**ЦЫ́НКА** *ж. разг.* ци́нковая коро́бка *(преимущественно для патронов).*

**ЦЫНКАВА́ННЕ** *ср. спец.* цинкова́ние.

**ЦЫНКАВА́НЫ** цинко́ванный.

**ЦЫНКАВА́ЦЦА** *несов. страд. спец.* цинкова́ться.

**ЦЫНКАВА́ЦЬ** *несов. спец.* цинкова́ть.

**ЦЫ́НКАВЫ** *в разн. знач.* ци́нковый; **ц. заво́д** ци́нковый заво́д; **~вая руда́** ци́нковая руда́; **~вае вядро́** ци́нковое ведро́.

**ЦЫНКАГРАФІ́ЧНЫ** цинкографи́ческий.

**ЦЫНКАГРА́ФІЯ** *ж.* цинкогра́фия.

**ЦЫНКАГРА́ФСКІ** цинкогра́фский.

**ЦЫНКІ́Т, -ту** *м. мин.* цинки́т.

**ЦЫНКО́ВАНЫ** *см.* **цынкава́ны.**

**ЦЫНКО́ГРАФ** *м.* цинко́граф.

**ЦЫНО́ВАЧНЫ** цино́вочный.

**ЦЫНО́ЎКА** *ж.* цино́вка.

**ЦЫНУ́БЕЛЬ** *м. стол.* цину́бель.

**ЦЫ́ПАЧКА** *ж. разг.* цы́почка.

**ЦЫ́ПЕЛЬ** *м.* **1.** о́стрый вы́ступ; **2.** *(у ключа)* боро́дка *ж.*; **3.** *архит.* серьга́ *ж.*; **4.** *(материи)* клин.

**ЦЫ́ПКА** *ж. разг.* цы́пка.

**ЦЫ́ПКІ, -пак** *разг. (на коже)* цы́пки.

**ЦЫ́ПЛІК** *м. уменьш.* **1.** *(у ключа)* боро́дка *ж.*; **2.** *архит.* серьга́ *ж.*; **3.** *(материи)* кли́нышек.

**ЦЫРАВА́ЛЬНЫ** што́пальный; **~ная іго́лка** што́пальная игла́.

**ЦЫРАВА́ЛЬШЧЫК** *м.* што́пальщик.

**ЦЫРАВА́ЛЬШЧЫЦА** *ж.* што́пальщица.

**ЦЫРАВА́ННЕ** *ср.* што́панье, што́пка *ж.*

**ЦЫРАВА́НЫ 1.** *прич.* што́панный; **2.** *прил.* што́паный.

**ЦЫРАВА́ЦЦА** *несов. страд.* што́паться.

**ЦЫРАВА́ЦЬ** *несов.* што́пать.

**ЦЫРА́ТА** *ж.* клеёнка.

**ЦЫРА́ТНЫ** клеёночный; **~ная майстэ́рня** клеёночная мастерска́я.

**ЦЫРАТО́ВЫ** клеёнчатый.

**ЦЫРК** *м. в разн. знач.* цирк.

**ЦЫРКАВЫ́** цирково́й.

**ЦЫРКАНУ́ЦЬ** *сов. однокр. см.* **цы́ркнуць.**

**ЦЫРКАРА́МА** *ж. кино* циркора́ма.

**ЦЫРКАРА́МНЫ** циркора́мный.

**ЦЫРКА́ЦКІ** *разг.* цирка́ческий.

**ЦЫРКА́ЦТВА** *ср. разг.* цирка́чество.

**ЦЫ́РКАЦЦА** *несов. разг. см.* **цы́ркаць** 3.

**ЦЫ́РКАЦЬ** *несов. разг.* **1.** *(маленькими струйками)* лить; доить; **2.** плева́ть сквозь зу́бы; **3.** *неодо́бр.* дава́ть ма́ленькими до́зами.

**ЦЫРКА́Ч, -ча́** *м. разг.* цирка́ч.

**ЦЫРКА́ЧКА** *ж. разг.* цирка́чка.

**ЦЫ́РКНУЦЬ** *сов. однокр. разг.* **1.** плю́нуть сквозь зу́бы; **2.** *неодобр.* дать ма́ленькую до́зу.

**ЦЫРКО́Н, -ну** *м. мин.* цирко́н.

**ЦЫРКО́НІЕВЫ** *хим.* цирко́ниевый.

**ЦЫРКО́НІЙ, -нію** *м. хим.* цирко́ний.

**ЦЫ́РКУЛЬ** *м.* ци́ркуль.

**ЦЫ́РКУЛЬНЫ** ци́ркульный.

**ЦЫРКУЛЯВА́ЦЬ** *несов.* циркули́ровать.

**ЦЫРКУЛЯ́Р** *м. офиц.* циркуля́р.

**ЦЫРКУЛЯ́РКА** *ж.* пилора́ма с ди́сковой пило́й.

**ЦЫРКУЛЯ́РНА** *нареч.* циркуля́рно.

**ЦЫРКУЛЯ́РНЫ** I циркуля́рный; **ц. зага́д** циркуля́рный прика́з.

**ЦЫРКУЛЯ́РНЫ** II циркуля́рный; **~ная піла́** циркуля́рная пила́.

**ЦЫРКУЛЯ́РШЧЫК** *м.* рабо́чий, обслу́живающий пилора́му с ди́сковой пило́й.

**ЦЫРКУЛЯЦЫ́ЙНЫ** *в разн. знач.* циркуляцио́нный; **ц. рух** циркуляцио́нное движе́ние; **~ная печ** циркуляцио́нная печь.

**ЦЫРКУЛЯ́ЦЫЯ** *ж. в разн. знач.* циркуля́ция.

**ЦЫРО́З, -зу** *м. мед.* цирро́з.

**ЦЫРО́ЎКА** *ж. в разн. знач.* што́пка.

**ЦЫРУ́БАЛКА** *ж. см.* **цуру́балка.**

**ЦЫРУ́ЛЬНІК** *м.* парикма́хер.

**ЦЫРУ́ЛЬНІЦА** *ж. (женщина-парикмахер)* парикма́херша.

**ЦЫРУ́ЛЬНІЦКІ** парикма́херский.

**ЦЫРУ́ЛЬНЯ** *ж.* парикма́херская.

**ЦЫ́РЫК** *м. (монгольский солдат)* ци́рик.

**ЦЫРЫ́К** *межд.* чири́к.

**ЦЫРЫ́КАННЕ** *ср.* чири́канье.

**ЦЫРЫ́КАЦЬ** *несов.* чири́кать.

**ЦЫРЫ́КНУЦЬ** *сов. однокр.* чири́кнуть.

**ЦЫРЫМАНІЯ́Л, -лу** *м.* церемониа́л.

**ЦЫРЫМАНІЯ́ЛЬНЫ** церемониа́льный.

**ЦЫРЫМОНІЙМА́ЙСТАР** *м. уст.* церемонийме́йстер.

**ЦЫРЫМО́НІЦЦА** *несов. в разн. знач.* церемо́ниться.

**ЦЫРЫМО́НІЯ** *ж. прям., перен.* церемо́ния; **вясе́льная ц.** сва́дебная церемо́ния; **без ~ній** без церемо́ний.

**ЦЫРЫМО́ННА** *нареч.* церемо́нно.

**ЦЫРЫМО́ННАСЦЬ** *ж.* церемо́нность.

**ЦЫРЫМО́ННЫ** *в разн. знач.* церемо́нный.

**ЦЫ́СТА** *ж. биол.* ци́ста.

**ЦЫСТАСКАПІ́Я** *ж. мед.* цистоскопи́я.

**ЦЫСТАСКО́П** *м. мед.* цистоско́п.

**ЦЫСТЫ́Т, -ту** *м. мед.* цисти́т.

**ЦЫСТЭ́РНА** *ж. в разн. знач.* цисте́рна.

**ЦЫТАВА́ННЕ** *ср.* цити́рование.

**ЦЫТАВА́НЫ** цити́рованный.

**ЦЫТАВА́ЦЦА** *несов. страд.* цити́роваться.

**ЦЫТАВА́ЦЬ** *несов.* цити́ровать.

**ЦЫТАГЕНЕ́ТЫКА** *ж.* цитогене́тика.

**ЦЫТАДЫЯГНО́СТЫКА** *ж. спец.* цитодиагно́стика.

**ЦЫТАДЭ́ЛЬ** *ж. прям., перен.* цитаде́ль.

**ЦЫТАЛАГІ́ЧНЫ** *биол.* цитологи́ческий.

**ЦЫТАЛІЗІ́Н, -ну** *м. биол.* цитолизи́н.

**ЦЫТАЛО́ГІЯ** *ж. биол.* цитоло́гия.

**ЦЫТАМАРФО́З, -зу** *м.* цитоморфо́з.

**ЦЫТАПЛА́ЗМА** *ж. биол.* цитопла́зма.

**ЦЫТАПЛАЗМАТЫ́ЧНЫ** цитоплазмати́ческий.

**ЦЫТА́ТА** *ж.* цита́та.

**ЦЫТА́ТНІЦТВА** *ср. разг.* цита́тничество.

**ЦЫТА́ТНЫ** цита́тный.

**ЦЫТАТРАПІ́ЗМ, -му** *м. биол.* цитотропи́зм.

**ЦЫТАХІ́МІЯ** *ж. биол.* цитохи́мия.

**ЦЫТА́ЦЫЯ** *ж.* цита́ция.

**ЦЫТАЭКАЛО́ГІЯ** *ж. биол.* цитоэколо́гия.

**ЦЫТАЭКО́ЛАГ** *м. биол.* цитоэко́лог.

**ЦЫТВА́Р** *м. см.* **цытво́ра.**

**ЦЫТВО́РА** *ж.* цитва́рное се́мя.

**ЦЫТВО́РНЫ** цитва́рный.

**ЦЫТО́ЛАГ** *м.* цито́лог.

**ЦЫТО́ЛІЗ, -зу** *м. биол.* цито́лиз.

**ЦЫ́ТРА** *ж.* **1.** *муз.* ци́тра; **2.** *разг. бран.* вы́дра.

**ЦЫТРАВАНІЛІ́Н, -ну** *м. фарм.* цитрованили́н.

**ЦЫТРАВАНІ́ЛЬ** *м. фарм.* цитровани́ль.

**ЦЫТРА́ЛЬ, -лю** *м. хим.* цитра́ль.

**ЦЫТРАМО́Н, -ну** *м. фарм.* цитрамо́н.

**ЦЫТРА́Т, -ту** *м. хим.* цитра́т.

**ЦЫТРО́Н, -ну** *м. в разн. знач.* цитро́н.

**ЦЫ́ТРУС, -су** *м. бот.* ци́трус.

**ЦЫТРУСАВО́Д** *м.* цитрусово́д.

**ЦЫТРУСАВО́ДСТВА** *ср.* цитрусово́дство.

**ЦЫТРУСАВО́ДЧЫ** цитрусово́дческий.

**ЦЫ́ТРУСАВЫ** ци́трусовый.

**ЦЫ́ТРУСАВЫЯ** *сущ. мн. бот.* ци́трусовые.

**ЦЫТРЫ́Н, -ну** *м. мин.* цитри́н.

**ЦЫФЕРБЛА́Т** *м.* циферблат.

**ЦЫЦ** *межд.* цыц, ти́ше, тсс.

**ЦЫ́ЦКА** *ж. разг.* **1.** *(у женщины)* грудь; си́ська; **2.** *(у млекопитающих)* сосо́к *м.*

**ЦЫ́ЦЭР, -ру** *м. см.* **цы́цэра.**

**ЦЫ́ЦЭРА** *ср и* **ЦЫ́ЦЭР, -ру** *нескл. м. тип.* ци́церо *ср.*

**ЦЫЯКРЫ́Н, -ну** *м.* циокри́н.

**ЦЫЯ́Н, -ну** *м. хим.* циа́н.

**ЦЫЯ́НАВЫ** *хим.* циа́новый.

**ЦЫЯНАМІ́Д, -ду** *м. хим.* цианами́д.

**ЦЫЯНІЗА́ЦЫЯ** *ж. спец.* цианиза́ция.

**ЦЫЯНІ́Н, -ну** *м. спец.* циани́н.

**ЦЫЯНІ́РАВАННЕ** *ср. спец.* циани́рование.

**ЦЫЯНІСТАВАДАРО́ДНЫ** *хим.* цианистоводоро́дный.

**ЦЫЯ́НІСТЫ** *хим.* циа́нистый; **ц. ка́лій** циа́нистый ка́лий.

**ЦЫЯНО́З, -зу** *м. мед.* циано́з.

**ЦЫЯНО́МЕТР** *м. спец.* циано́метр.

**ЦЬМЕЦЬ** *несов. разг.* **1.** те́плиться, ту́скло горе́ть, тлеть; **2.** темне́ть; темне́ться.

**ЦЬМЯ́НА** *нареч.* **1.** ту́скло; **2.** *перен.* нея́сно, тума́нно, сму́тно; 1, 2 *см.* **цьмя́ны.**

**ЦЬМЯ́НАСЦЬ** *ж.* **1.** ту́склость; **2.** *перен.* нея́сность, тума́нность, сму́тность; 1, 2 *см.* **цьмя́ны.**

**ЦЬМЯНЕ́Й** *нареч. сравнит. ст.* тускле́е, потускле́е, бо́лее ту́скло.

**ЦЬМЯНЕ́ЙШЫ** *прил. сравнит. ст.* тускле́е, бо́лее ту́склый.

**ЦЬМЯНЕ́ЦЬ** *несов.* **1.** *(терять блеск, яркость)* ме́ркнуть; **зо́ркі ~не́лі** звёзды ме́ркли; **2.** *(становиться тусклым)* тускне́ть, ту́скнуть; **срэ́бра паступо́ва ~не́ла** серебро́ постепе́нно тускне́ло; **3.** *перен.* ме́ркнуть, тускне́ть; **~не́ла яго́ сла́ва** ме́ркла (тускне́ла) его́ сла́ва.

**ЦЬМЯ́НЫ 1.** *(неяркий)* ту́склый; **~нае святло́** ту́склый свет; **2.** *перен.* нея́сный, тума́нный, сму́тный; **~нае адчува́нне** нея́сное (тума́нное, сму́тное) ощуще́ние.

**ЦЬФУ** *межд.* тьфу.

**ЦЭАЛІ́Т, -ту** *м. мин.* цеоли́т.

**ЦЭ́БАР, -бра** *м.* уша́т.

**ЦЭ́ГЛА** *ж.* кирпи́ч *м.*

**ЦЭД,** *род.* **цэ́ду** *м. спец.* цеж.

**ЦЭ́ДЖАНЫ 1.** *прич.* це́женный; **2.** *прил.* цежёный.

**ЦЭ́ДРА** *ж.* це́дра; **лімо́нная ц.** лимо́нная це́дра.

**ЦЭЗАЛЬПІ́НІЕВЫЯ** *сущ. мн. бот.* цезальпи́ниевые.

**ЦЭ́ЗАР** *м. ист.* це́зарь.

**ЦЭ́ЗІЕВЫ** *хим.* це́зиевый.

**ЦЭ́ЗІЙ, -зію** *м. хим.* це́зий.

**ЦЭЗУ́РА** *ж. лит., муз.* цезу́ра.

**ЦЭЗУ́РНЫ** *лит., муз.* цезу́рный.

**ЦЭЙС** *м. спец.* цейс.

**ЦЭ́ЙСАЎСКІ** *спец.* це́йсовский.

**ЦЭЙТЛУ́ПА** *ж. кино* цейтлу́па.

**ЦЭЙТНО́Т, -ту** *м. шахм.* цейтно́т.

**ЦЭЙТНО́ТНЫ** цейтно́тный.

**ЦЭЙХГА́ЎЗ** *м. воен. уст.* цейхга́уз.

**ЦЭЛАБІЁЗА** *ж. бот.* целлобио́за.

**ЦЭ́ЛАЕ** *сущ.* це́лое; **адзі́нае ц.** еди́ное це́лое; ◊ **у цэ́лым** в це́лом.

**ЦЭЛАІДЫ́Н, -ну** *м. хим.* целлоиди́н.

**ЦЭ́ЛАСНАСЦЬ** *ж.* це́лостность.

**ЦЭ́ЛАСНЫ** це́лостный.

**ЦЭЛАСТА́Т** *м. астр.* целоста́т.

**ЦЭ́ЛАСЦЬ** *ж.* це́лость; сохра́нность.

**ЦЭЛАФА́Н, -ну** *м.* целлофа́н.

**ЦЭЛАФА́НАВЫ** целлофа́новый.

**ЦЭЛЕСЦІ́Н, -ну** *м. мин.* целести́н.

**ЦЭЛЕЎКАЗА́ННЕ** *ср. воен.* целеуказа́ние.

**ЦЭЛІБА́Т, -ту** *м. церк.* целиба́т.

**ЦЭ́ЛІК** *м. воен.* це́лик.

**ЦЭЛІ́Т, -ту** *м. хим.* целли́т.

**ЦЭ́ЛІЦЦА** *несов. прям., перен.* це́литься; ме́титься.

**ЦЭ́ЛІЦЬ 1.** *несов. прям., перен.* це́лить; ме́тить; **2.** *сов. разг.* попа́сть.

**ЦЭЛУЛО́ІД, -ду** *м.* целлуло́ид.

**ЦЭЛУЛО́ІДАВЫ** *см.* **целуло́ідны.**

**ЦЭЛУЛО́ІДНЫ** целлуло́идный.

**ЦЭ́ЛЫ** *в разн. знач.* це́лый; *(о единицах исчисления времени—ещё)* весь; **ц. дзень** це́лый (весь) день; **ц. тыдзень прахва́рэў** це́лую (всю) неде́лю проболе́л; **шкля́нка ўпа́ла, але́ засала́ся цэ́лая** стака́н упа́л, но оста́лся цел; **вы́піць цэ́лую шкля́нку малака́** вы́пить це́лый стака́н молока́; **узя́ць цэ́лым кава́лкам** взять це́лым куско́м; **ц. шэ́раг но́вых праблё́м** це́лый ряд но́вых пробле́м; **ідзі́, паку́ль ц.!** уходи́, пока́ цел!; **ц. лік** *мат.* це́лое число́; ◊ **ц. век** ве́ки ве́чные, це́лая ве́чность; **паку́ль ц.** по добру́, по здоро́ву; **цэ́лым і спра́ўным** в це́лости и сохра́нности; **нагавары́ць ц. мех** наговори́ть с три ко́роба; **цэ́лую ве́чнасць (не ба́чыліся)** це́лую ве́чность (не вида́лись); **і се́на цэ́лае і ко́зы сы́тыя** *погов.* и во́лки сы́ты и о́вцы це́лы.

**ЦЭЛЬ** *ж.* цель; **стральба́ па закры́тых цэ́лях** стрельба́ по закры́тым це́лям; ◊ **біць у ц.** бить в цель; **біць мі́ма цэ́лі** бить ми́мо це́ли.

**ЦЭ́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* це́льность.

**ЦЭ́ЛЬНЫ** *в разн. знач.* це́льный.

**ЦЭ́ЛЬСІЙ** *м.* Це́льсий; **тэрмо́метр ~сія** термо́метр Це́льсия; **пятна́ццаць гра́дусаў па ~сію** пятна́дцать гра́дусов по Це́льсию.

**ЦЭЛЮЛО́ЗА** *ж.* целлюло́за.

**ЦЭЛЮЛО́ЗНА-ПАПЯРО́ВЫ** целлюло́зно-бума́жный.

**ЦЭЛЮЛО́ЗНЫЙ** целлюло́зный.

**ЦЭМЕ́НТ, -ту** *м. в разн. знач.* цеме́нт.

**ЦЭМЕНТАВА́ЛЬНЫ** *тех.* цементиро́вочный.

**ЦЭМЕНТАВА́ННЕ** *ср. тех.* цементи́рование, цементиро́вка *ж.*

**ЦЭМЕНТАВА́НЫ** *прич., прил. тех.* цементи́рованный, цементо́ванный.

**ЦЭМЕНТАВА́ЦЦА** *тех.* **1.** *сов. и несов.* цементи́роваться, цементова́ться; **2.** *несов. страд.* цементи́роваться, цементова́ться.

**ЦЭМЕНТАВА́ЦЬ** *сов. и несов. тех., перен.* цементи́ровать, цементова́ть.

**ЦЭМЕНТАВО́З** *м.* цементово́з.

**ЦЭМЕ́НТАВЫ** *в разн. знач.* цеме́нтный; **ц. склад** цеме́нтный склад; **ц. раство́р** цеме́нтный раство́р; **~вая пліта́** цеме́нтная плита́.

**ЦЭМЕНТАЦЫ́ЙНЫ** *тех.* цементацио́нный.

**ЦЭМЕНТА́ЦЫЯ** *ж. в разн. знач.* цемента́ция.

**ЦЭМЕ́НТНІК** *м.* цеме́нтник.

**ЦЭМЕ́НТНЫ** *в разн. знач.* цеме́нтный; **ц. заво́д** цеме́нтный заво́д; **~ная пляцо́ўка** цеме́нтная площа́дка.

**ЦЭМЕНТЫ́Т, -ту** *м. спец.* цементи́т.

**ЦЭ́НАСНЫ** *эк.* це́нностный; **у ~ным выражэ́нні** в це́нностном выраже́нии.

**ЦЭНАЎТВАРА́ЛЬНЫ** *прил.* ценообразу́ющий.

**ЦЭНАЎТВАРЭ́ННЕ** *ср. эк.* ценообразова́ние.

**ЦЭНЗ,** *род.* **цэ́нзу** *м. в разн. знач.* ценз; **вы́барчы ц.** избира́тельный ценз; **узро́ставы ц.** возрастно́й ценз; **маёмасны ц.** иму́щественный ценз; **адукацы́йны ц.** образова́тельный ценз.

**ЦЭ́НЗАВЫ** *в разн. знач.* це́нзовый; **~вая прамысло́васць** це́нзовая промы́шленность.

**ЦЭ́НЗАР** *м.* це́нзор.

**ЦЭ́НЗАРСКІ** це́нзорский.

**ЦЭНЗУ́РА** *ж. в разн. знач.* цензу́ра.

**ЦЭНЗУРАВА́НЫ** цензуро́ванный.

**ЦЭНЗУРАВА́ЦЦА** *несов. страд.* цензурова́ться.

**ЦЭНЗУРАВА́ЦЬ** *несов. разг.* цензурова́ть.

**ЦЭНЗУ́РНЫ** *в разн. знач.* цензу́рный; **~ныя пра́вілы** цензу́рные пра́вила.

**ЦЭ́ННАСЦЬ** *ж.* це́нность; **пасы́лка з аб'яўленай ~цю** посы́лка с объя́вленной це́нностью.

**ЦЭ́ННІК** *м.* це́нник.

**ЦЭ́ННЫ** це́нный; **цэ́нныя папе́ры** це́нные бума́ги; **цэ́нная пасы́лка** це́нная посы́лка.

**ЦЭНТ** *м. (монета)* цент.

**ЦЭНТА́ЎР** *м. миф., астр.* цента́вр.

**ЦЭ́НТНЕР** *м.* це́нтнер.

**ЦЭНТР** *м. в разн. знач.* центр; **ц. го́рада** центр го́рода; **ц. акру́жнасці** центр окру́жности; **прамысло́вы ц.** промы́шленный центр; **раённы ц.** райо́нный центр; **зага́д цэ́нтра** прика́з це́нтра; **гандлёвы ц.** торго́вый центр; **тэлевізі́йны ц.** телевизио́нный центр; **ц. нападзе́ння** центр нападе́ния; ○ **ц. цяжа́ру** центр тя́жести; **вылі́чальны ц.** вычисли́тельный центр; ◊ **быць у цэ́нтры ўвагі** быть в це́нтре внима́ния.

**ЦЭНТРАБЕ́ЖНЫ** *в разн. знач.* центробе́жный.

**ЦЭНТРАВА́ЛЬНЫ** *тех.* центрова́льный.

**ЦЭНТРАВА́ННЕ** *ср. тех.* центри́рование, центриро́вка *ж.*, центро́вка *ж.*

**ЦЭНТРАВА́НЫ** центри́рованный, центро́ванный.

**ЦЭНТРАВА́ЦЦА** *несов. страд. спец.* центри́роваться, центрова́ться.

**ЦЭНТРАВА́ЦЬ** *сов. и несов. спец.* центри́ровать, центрова́ть.

**ЦЭ́НТРАВЫ** *в разн. знач.* центрово́й; **ц. пункт** центрова́я то́чка; **~выя ігракі́** центровы́е игроки́; **ц. све́рдзел** центрово́е сверло́.

**ЦЭНТРАІМКЛІ́ВЫ** центростреми́тельный.

**ЦЭНТРА́Л** *м. уст.* центра́л.

**ЦЭНТРАЛІЗАВА́НЫ** *прич., прил.* централизо́ванный.

**ЦЭНТРАЛІЗАВА́ЦЦА 1.** *сов. и несов.* централизова́ться; **2.** *несов. страд.* централизова́ться.

**ЦЭНТРАЛІЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* централизова́ть.

**ЦЭНТРАЛІЗА́ЦЫЯ** *ж. в разн. знач.* централиза́ция.

**ЦЭНТРАЛІ́ЗМ, -му** *м.* централи́зм; **дэмакраты́чны ц.** демократи́ческий централи́зм.

**ЦЭНТРА́ЛЬ** *ж.* центра́ль.

**ЦЭНТРАЛЬНАЧАРНАЗЁМНЫ** центральночернозёмный.

**ЦЭНТРА́ЛЬНЫ** *в разн. знач.* центра́льный; **~ная ву́ліца** центра́льная у́лица; **ц. камі́тэт** центра́льный комите́т; **~нае пыта́нне** центра́льный вопро́с; **ц. банк** центра́льный банк; ○ **~ная нерво́вая сістэ́ма** центра́льная не́рвная систе́ма; **~ная сіме́трыя** *мат.* центра́льная симметри́я.

**ЦЭНТРАПЛА́Н** *м. ав.* центропла́н.

**ЦЭНТРАСО́МА** *ж. біол.* центросо́ма.

**ЦЭНТРАСФЕ́РА** *ж. биол., геол.* центросфе́ра.

**ЦЭНТРА́ТАР** *м. спец.* центра́тор.

**ЦЭНТРО́ВАЧНЫ** *тех.* центро́вочный.

**ЦЭНТРО́ЎКА** *ж. тех.* **1.** *(действие)* центро́вка; центриро́вка; **2.** *(определённое размещение центра тяжести)* центро́вка; **разлі́к ~ро́ўкі самалёта** расчёт центро́вки самолёта.

**ЦЭНТРЫ́ЗМ, -му** *м. полит.* центри́зм.

**ЦЭНТРЫ́СТ** *м. полит.* центри́ст.

**ЦЭНТРЫ́СЦКІ** *полит.* центри́стский.

**ЦЭНТРЫФУ́ГА** *ж. тех.* центрифу́га.

**ЦЭНТРЫФУГАВА́ННЕ** *ср. тех.* центрифуги́рование.

**ЦЭНТРЫФУГАВА́ЦЦА** *несов. страд.* центрифуги́роваться.

**ЦЭНТРЫФУГАВА́ЦЬ** *сов. и несов. тех.* центрифуги́ровать.

**ЦЭНТРЫФУГА́ЛЬНЫ** *спец.* центрифуга́льный.

**ЦЭНТРЫФУ́ЖНЫ** *спец.* центрифу́жный.

**ЦЭНТРЫ́ЧНАСЦЬ** *ж. спец.* центри́чность.

**ЦЭНТРЫ́ЧНЫ** *спец.* центри́ческий.

**ЦЭНТУРЫЁН** *м. ист.* центурио́н.

**ЦЭНТУ́РЫЯ** *ж. ист.* центу́рия.

**ЦЭНТЫФО́ЛІЯ** *ж. бот.* центифо́лия.

**ЦЭП** *м. с.-х.* цеп.

**ЦЭПЕЛІ́Н** *м. ав.* цеппели́н.

**ЦЭ́ПЕНЬ,** *м. зоол.* це́пень.

**ЦЭ́РА** *ж. уст. (высушенный трутовик)* трут *м.*

**ЦЭ́РАВЫ** *уст.* трутяно́й.

**ЦЭРАПЛА́СТЫКА** *ж. иск.* церопла́стика.

**ЦЭ́РБЕР** *м. миф., перен.* це́рбер.

**ЦЭ́РКАЎКА** *ж. уменьш-ласк.* церкву́шка.

**ЦЭ́РЫЕВЫ** *хим.* це́риевый.

**ЦЭ́РЫЙ, -рыю** *м. хим.* це́рий.

**ЦЭРЭБРА́ЛЬНЫ** *анат., лингв.* церебра́льный; **ц. нерв** церебра́льный нерв; **ц. зы́чны** церебра́льный согла́сный.

**ЦЭРЭБРАСПІНА́ЛЬНЫ** *анат.* цереброспина́льный.

**ЦЭРЭЗІ́Н, -ну** *м. спец.* церези́н.

**ЦЭ́САР** *м. ист.* це́сарь.

**ЦЭ́САРСКІ** *ист.* це́сарский.

**ЦЭСАРЭ́ВІЧ** *м. уст.* цесаре́вич.

**ЦЭСАРЭ́ЎНА** *ж. уст.* цесаре́вна.

**ЦЭСТО́ДА** *ж. зоол.* цесто́да.

**ЦЭ́ТЛІК** *м. разг.* распи́ска *ж.*; квита́нция *ж.*

**ЦЭ́ЎКА** *ж. в разн. знач.* це́вка.

**ЦЭ́ЎКАВЫ** *в разн. знач.* це́вочный.

**ЦЭХ** *м. в разн. знач.* цех; **ліце́йны ц.** лите́йный цех; **запіса́цца ў ц.** *ист.* записа́ться в цех; **ц. здаро́ўя** цех здоро́вья.

**ЦЭ́ХАВЫ** *в разн. знач.* цехово́й.

**ЦЭХАЎШЧЫ́НА** *ж. неодобр.* цеховщи́на.

**ЦЕХІ́Н** *м. (монета)* цехи́н.

**ЦЭХКО́М** *м.* **(цэ́хавы камітэ́т)** цехко́м (цеховой комите́т).

**ЦЭХШТЭ́ЙН, -ну** *м. горн.* цехште́йн.

**ЦЭЦЭ́** *нескл. ж. зоол.* цеце́.

**ЦЭ́ШКА** *ж. обл.* кока́рда.

**ЦЮБЕЦЕ́ЙКА** *ж.* тюбете́йка.

**ЦЮ́БІК** *м.* тю́бик.

**ЦЮ́БІНГ** *м. тех.* тю́бинг.

**ЦЮ́БІНГАВЫ** *тех.* тю́бинговый.

**ЦЮГА́** *межд. охот.* улюлю́.

**ЦЮГА́КАННЕ** *ср. охот.* улюлю́канье.

**ЦЮГА́КАЦЬ** *несов. охот.* улюлю́кать.

**ЦЮК I** *род.* **цюка́** *сущ. м. (свёрток)* тюк.

**ЦЮК II** *межд. разг.* тюк; **ц. у шы́бу і разбі́ў** тюк в стекло́ и разби́л.

**ЦЮКАВА́ННЕ** *ср.* тюкова́ние, тюко́вка *ж.*

**ЦЮКАВА́НЫ** *прич., прил.* тюко́ванный.

**ЦЮКАВА́ЦЦА** *несов. страд. спец.* тюкова́ться.

**ЦЮКАВА́ЦЬ** *несов. спец.* тюкова́ть.

**ЦЮ́КАЦЦА** *несов. разг.* тю́каться.

**ЦЮ́КАЦЬ** *несов. разг. (ударять)* тю́кать; сту́кать.

**ЦЮ́КНУТЫ** *разг.* тю́кнутый; сту́кнутый; *см.* **цю́кнуць** 1.

**ЦЮ́КНУЦЦА** *сов. однокр. разг.* тю́кнуться; сту́кнуться.

**ЦЮ́КНУЦЬ** *сов. однокр. разг.* **1.** тю́кнуть; сту́кнуть; **2.** *(выпить)* клю́кнуть; **ц. ча́рачку** клю́кнуть рю́мочку; **3.** *безл.* прийти́ в го́лову; **яму́ ~нула, што тут не ўсё про́ста** ему́ пришло́ в го́лову, что тут не всё про́сто.

**ЦЮКО́ВАНЫ** *см.* **цюкава́ны.**

**ЦЮКО́ЎКА** *ж. спец.* тюко́вка.

**ЦЮКО́ЎШЧЫК** *м.* тюко́вщик.

**ЦЮКО́ЎШЧЫЦА** *ж.* тюко́вщица.

**ЦЮ́ЛЕВЫ** тю́левый.

**ЦЮЛЕ́НЕВЫ** 1. тюле́ний; **ц. тлушч** тюле́ний жир; 2. *(сделанный из кожи тюленя)* тюле́невый.

**ЦЮЛЕ́НЕВЫЯ** *сущ. мн. зоол.* тюле́невые.

**ЦЮЛЕ́НІНА** *ж.* тюле́нина.

**ЦЮЛЕ́НЬ** *м. зоол.* тюле́нь.

**ЦЮЛЕНЯБО́ЕЦ, -бо́йца** *м.* тюленебо́ец.

**ЦЮЛЕНЯБО́ЙНЫ** тюленебо́йный.

**ЦЮЛЕНЯНЯ́** *и* **ЦЮЛЕНЯНЁ, -ня́ці** *ср.* тюленёнок *м.*

**ЦЮЛЬ,** *род.* **цю́лю** *м. текст.* тюль.

**ЦЮ́ЛЬКА** *ж. зоол.* тю́лька.

**ЦЮЛЬПА́Н** *м. бот.* тюльпа́н.

**ЦЮЛЬПА́НАВЫ** тюльпа́нный.

**ЦЮЛЬПАНАПАДО́БНЫ** тюльпанообра́зный.

**ЦЮЛЮЛЮ́КАННЕ** *ср. разг.* тюлюлю́канье.

**ЦЮЛЮЛЮ́КАЦЬ** *несов. разг.* тюлюлю́кать.

**ЦЮПА́ГА** *ж. обл.* тюпа́га.

**ЦЮРБО́** *нескл. ср. зоол.* тюрбо́.

**ЦЮРК** *м.* тюрк.

**ЦЮРКАЛО́ГІЯ** *ж. филол.* тюркало́гия.

**ЦЮ́РКА-ТАТА́РСКІ** тю́рко-тата́рский.

**ЦЮ́РКІ, -каў** тю́рки.

**ЦЮРКІ́ЗМ** *м. лингв.* тюрки́зм.

**ЦЮРКО́ЛАГ** *м.* тюрко́лог.

**ЦЮ́РКСКІ** тю́ркский; **~кія мо́вы** тю́ркские языки́.

**ЦЮФЯ́К, -ка́** *м. (в гидротехнике)* тюфя́к.

**ЦЮХЦЯ́Й, -цяя́** *м. разг. бран.* ро́хля, пе́нтюх, у́валень, тюфя́к.

**ЦЮХЦЯ́ЙКА** *ж. разг. бран. (о женщине)* ро́хля.

**ЦЮ́ЦЕЛЬКА: ц. ў ~ку** тю́телька в тю́тельку.

**ЦЮ́ЦЬКА** *м.* 1. соба́ка *ж.*, соба́чка *ж.*; 2. *прост. бран.* соба́ка *ж.*, пёс.

**ЦЮ-ЦЮ́** *межд.* тю-тю́.

**ЦЮЦЮПА́Н, -ну** *м. бот.* попо́вник.

**ЦЮЧО́К, -чка́** *м. уменьш.* тючо́к.

**ЦЯБЕ́** *мест. личн. в род., вин. п.* тебя́; *см.* **ты.**

**ЦЯВІ́НА** *ж. разг.* были́нка.

**ЦЯВІ́НКА** *ж. разг. уменьш.* были́нка.

**ЦЯГ: з ця́гам ча́су** с тече́нием вре́мени; **даць ця́гу** дать тя́гу.

**ЦЯ́ГА** *ж.* 1. *в разн. знач.* тя́га; **электры́чная ц.** электри́ческая тя́га; **ко́нная ц.** ко́нная тя́га; **механі́чная ц.** механи́ческая тя́га; **у пе́чы мо́цная ц.** в пе́чи си́льная тя́га; **слу́жба ця́гі** *ж.-д.* слу́жба тя́ги; 2. *(склонность к чему-л.)* тя́га, влече́ние *ср.*, тяготе́ние *ср.*, пристра́стие *ср.*, страсть; **ц. да му́зыкі** тя́га (влече́ние, тяготе́ние, пристра́стие, страсть) к му́зыке.

**ЦЯГАВІ́ТАСЦЬ** *ж.* выно́сливость (в труде́).

**ЦЯГАВІ́ТЫ** выно́сливый (в труде́); работя́щий.

**ЦЯ́ГАВЫ** *в разн. знач.* тя́говый; **~вая сі́ла** тя́говая си́ла; **~вая электраста́нцыя** тя́говая электроста́нция.

**ЦЯГА́ЛЬНЫ** *тех.* тяга́льный; **~ная лябёдка** тяга́льная лебёдка.

**ЦЯГАМЕ́Р** *м. тех.* тягоме́р.

**ЦЯГАНІ́НА** *ж. разг.* волоки́та, канител́ь, проволо́чка; ◊ **разве́сці ~ну** развести́ волоки́ту; **папяро́вая ц.** бума́жная волоки́та.

**ЦЯГА́ННЕ** *ср.* **1.** таска́ние; дёрганье; *см.* **цяга́ць** 1; **2.** таска́ние, скита́ние.

**ЦЯГА́ЦЦА** *несов.* **1.** *(тянуться по земле)* волочи́ться; **2.** таска́ться, броди́ть; **3.** скита́ться; **4.** *с чем-л. (носить с собой без надобности)* таска́ться; **ц. з мяшко́м** таска́ться с мешко́м; **5.** *разг. (ухаживать)* таска́ться; волочи́ться; **6.** *(соперничать, состязаться в чём-л.)* тяга́ться; **дзе табе́ з ім ц.!** где тебе́ с ним тяга́ться!; **7.** *страд.* таска́ться; волочи́ться; *см.* **цяга́ць.**

**ЦЯГА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* таска́ть; *(тянуть рывками — ещё)* дёргать; **ц. бярве́нні** таска́ть брёвна; **ц. ваду́ са сту́дні** таска́ть во́ду из коло́дца; **ліса́ курэ́й цяга́е** лиса́ кур таска́ет; **пя́ты сезо́н паліто́ цяга́е** *прост.* пя́тый сезо́н пальто́ таска́ет; **ц. за валасы́** таска́ть (дёргать) за́ волосы; **ц. па суда́х** таска́ть по суда́м; **2.** *(по земле)* волочи́ть; **дзяўчы́нка цяга́е ху́стку па зямлі́** де́вочка воло́чит плато́к по земле́; ◊ **ледзь но́гі ц.** едва́ (е́ле) но́ги волочи́ть.

**ЦЯГА́Ч, -ча́** *м.* тяга́ч.

**ЦЯГЛАВЫ́** *ист.* тя́гловый, тя́глый; **~ва́я сі́ла** тя́гловая си́ла; **~ва́я гаспада́рка** тя́гловое (тя́глое) хозя́йство.

**ЦЯГЛЕ́Ц, -ляца́** *м. ист.* тягле́ц.

**ЦЯ́ГЛІ** *ед. нет* подж́илки.

**ЦЯГЛІ́ЦА** *ж. см.* **мы́шца.**

**ЦЯГЛІ́ЧНЫ** *см.* **мы́шачны.**

**ЦЯГЛО́** *ср. с.-х., ист.* тягло́.

**ЦЯ́ГЛЫ** *ист.* тя́глый, тя́гловый.

**ЦЯГНІ́К, -ка́** *м. см.* **по́езд.**

**ЦЯГНІКО́ВЫ** *см.* **паязны́.**

**ЦЯГНУ́ЛЬНЫ** *спец.* тяну́льный; **~ныя машы́ны** тяну́льные маши́ны.

**ЦЯ́ГНУТЫ** *спец.* тя́нутый.

**ЦЯГНУ́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* тяну́ться; **ні́тка ця́гнецца ад клубка́** ни́тка тя́нется от клубка́; **стэп ~ну́ўся на дзеся́ткі кіламе́траў** степь тяну́лась на деся́тки киломе́тров; **рызі́на ця́гнецца** рези́на тя́нется; **хваро́ба ця́гнецца ўжо ме́сяц** боле́знь тя́нется уже́ ме́сяц; **у даро́зе час ве́льмі ця́гнецца** в доро́ге вре́мя о́чень тя́нется; **раслі́ны ця́гнуцца да со́нца** расте́ния тя́нутся к со́лнцу; **з ко́міна ~ну́ўся дымо́к** с трубы́ тяну́лся дымо́к; **2.** *(тащиться по земле)* волочи́ться; **ле́йцы ~ну́ліся па зямлі́** во́жжи волочи́лись по земле́; **3.** *(медленно двигаться)* брести́, плести́сь, тащи́ться; **4.** *(двигаться, следовать друг за другом)* тяну́ться; **ця́гнуцца ба́ржы адна́ за адно́й** тя́нутся ба́ржи одна́ за друго́й; **5.** *страд.* тяну́ться; тащи́ться; *см.* **цягну́ць;** ◊ **ц. ў хвасце́** плести́сь в хвосте́.

**ЦЯГНУ́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* тяну́ть; **ц. ка́бель** тяну́ть ка́бель; **раслі́на ця́гне ві́льгаць з гле́бы** расте́ние тя́нет вла́гу из по́чвы; **ц. у сябе́ паве́тра** тяну́ть в себя́ во́здух; **ц. спра́ву** тяну́ть де́ло; **ц. пе́сню** тяну́ть пе́сню; **ц. серабро́** *спец.* тяну́ть серебро́; **ко́мін до́бра ця́гне** труба́ хорошо́ тя́нет; **ця́гне купа́цца** *безл.* тя́нет купа́ться; **ця́гне хо́ладам** *безл.* тя́нет хо́лодом; **вось куды́ ён ця́гне** вот куда́ он тя́нет; **цюк ця́гне два пуды́** тюк тя́нет два пу́да; **2.** тащи́ть; **конь ледзь ця́гне воз** конь е́ле та́щит воз; **3.** *(извлекать, вынимать)* тащи́ть; **ц. шчупака́** та-

шчы́ць шчу́ку; **4.** *(заставлять идти за собой)* тащи́ть, тяну́ть; **5.** *(растаскивать, красть)* тащи́ть, тяну́ть; ◊ **ц. ля́мку** тяну́ть ля́мку; **ц. жы́лы** *з каго* тяну́ть жи́лы *из кого*; **ц. рызі́ну** тяну́ть рези́ну; **ц. за язы́к** тяну́ть за язы́к; **ц. адну́ і ту́ю ж (усё ту́ю ж) пе́сню** тяну́ть одну́ и ту́ же (всё ту́ же) пе́сню; **ц. на вяро́ўцы** *каго* тащи́ть (тяну́ть) на верёвке *кого*; **за ву́шы ц.** *каго* за́ уши тащи́ть *кого*; **ц. валы́нку** тяну́ть канитéль; **ц. воз** тяну́ть воз; **ц. ярмо́** тяну́ть ярмо́; **ц. за душу́** тяну́ть за́ душу; **ц. ката́ за хвост** тяну́ть кота́ за хвост.

**ЦЯГУ́ЧА** *нареч.* тягу́че.

**ЦЯГУ́ЧАСЦЬ** *ж.* тягу́честь.

**ЦЯГУ́ЧКА** *ж. (конфета)* тяну́чка.

**ЦЯГУ́ЧЫ** *прям., перен.* тягу́чий; **ц. клей** тягу́чий клей; **ц. го́лас** тягу́чий го́лос.

**ЦЯЖ,** *род.* **цяжа́** *м. в разн. знач.* тяж.

**ЦЯ́ЖАНЬКА** *нареч. разг. в разн. знач.* тяжелéнько; **ц. не́сці** тяжелéнько нести́; **ц. яму́ прыйшло́ся** тяжелéнько ему́ пришло́сь.

**ЦЯЖА́Р, -ру** *м.* **1.** *в разн. знач.* тя́жесть *ж.*; **ц. но́шы** тя́жесть но́ши; **падня́ць ц.** подня́ть тя́жесть; **ц. ка́ры** тя́жесть наказа́ния; **ц. у галаве́** тя́жесть в голове́; **2.** *перен.* брéмя *ср.*; **непасі́льны ц.** непоси́льное брéмя; ○ **цэнтр ~ру** центр тя́жести; ◊ **скі́нуць ц.** сбро́сить брéмя; **быць ~рам** *для каго* быть в тя́гость *кому.*

**ЦЯЖА́РАЦЬ** *несов. разг.* берéменеть.

**ЦЯЖА́РНАСЦЬ** *ж.* берéменность; ○ **пазама́тачная ц.** внема́точная берéменность.

**ЦЯЖА́РНАЯ 1.** *прил.* берéменная; **ц. жанчы́на** берéменная жéнщина; **2.** *в знач. сущ.* берéменная; **дапамо́га для ~ных** посо́бие для берéменных.

**ЦЯ́ЖБА** *ж. уст.* тя́жба.

**ЦЯ́ЖКА** *нареч.* **1.** тяжело́; тя́жко; **не́сці было́ ц.** нести́ бы́ло тяжело́; **ц. дыхаць** тяжело́ (тя́жко) дыша́ть; **2.** тяжело́, тру́дно; тя́гостно, обремени́тельно; **3.** тру́дно, тяжело, тя́жко; **4.** тяжело́, тя́гостно; **5.** изнури́тельно; тяжело́; **6.** тяжело́, тяжеловéсно; 2—6 *см.* **ця́жкі;** ◊ **ц. сказа́ць** тру́дно сказа́ть.

**ЦЯЖКААТЛЕ́Т** *м. спорт.* тяжелоатлéт.

**ЦЯЖКААТЛЕТЫ́ЧНЫ** *спорт.* тяжелоатлети́ческий.

**ЦЯЖКАВА́ГАВАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* тяжеловéсность; *см.* **цяжкава́гавы.**

**ЦЯЖКАВАГАВІ́К, -ка́** *м. спорт.* тяжеловéс.

**ЦЯЖКАВА́ГАВЫ** *в разн. знач.* тяжеловéсный; **~вых паязды́** тяжеловéсные поезда́.

**ЦЯЖКАВА́ТА** *нареч. разг.* **1.** тяжелова́то, тяжелéнько; **2.** трудновáто; 1, 2 *см.* **цяжкава́ты.**

**ЦЯЖКАВА́ТЫ** *разг.* **1.** тяжелова́тый; **ц. воз** тяжелова́тый воз; **2.** трудновáтый; **~тая зада́ча** трудновáтая зада́ча.

**ЦЯЖКАВО́З** *м. (лошадь)* тяжелово́з.

**ЦЯЖКАВЫМО́ЎНЫ** неудобопроизноси́мый.

**ЦЯЖКАВЫХО́ЎНЫ** *пед.* трудновоспиту́емый.

**ЦЯЖКАГРУ́ЗНЫ** тяжелогру́зный; **~ныя су́дны** тяжелогру́зные суда́.

**ЦЯЖКАДАСТУ́ПНЫ** труднодосту́пный.

**ЦЯЖКАДУ́М** *м.* тяжелоду́м, тяжкоду́м, тугоду́м.

**ЦЯЖКАЗГАРА́ЛЬНЫ** трудносгора́емый.

**ЦЯЖКАКІРАВА́ЛЬНЫ** трудноуправля́емый.

**ЦЯЖКАНАГРУ́ЖАНЫ** тяжелогружёный.

**ЦЯЖКАПРАХО́ДНЫ** труднопроходи́мый.

**ЦЯЖКАРА́НЕНЫ 1.** *прил.* тяжелора́неный; **2.** *сущ.* тяжелора́неный.

**ЦЯЖКАРАСПУШЧА́ЛЬНЫ,** *см.* **цяжкараствара́льны.**

**ЦЯЖКАРАСТВАРА́ЛЬНЫ** *хим.* труднораствори́мый.

**ЦЯ́ЖКАСЦЬ** *ж.* **1.** тя́жесть; **2.** тя́жесть, тру́дность; тя́гостность, обремени́тельность; **3.** тру́дность, тя́жесть; **4.** тя́жесть, тя́гостность; **5.** изнури́тельность; тя́жесть; **6.** тяжелове́сность; 1—6 *см.* **ця́жкі; 7.** *(затруднение, препятствие)* тру́дность; **пасляваенныя ~ці** послевое́нные тру́дности; ◊ **без ~ці** без тру́да; **з ~цю** с трудо́м.

**ЦЯЖКАЎЗБРО́ЕНЫ** тяжеловооружённый.

**ЦЯЖКАЎЛО́ЎНЫ** трудноулови́мый.

**ЦЯЖКАХВО́РЫ** тяжелобольно́й.

**ЦЯ́ЖКІ 1.** *в разн. знач.* тяжёлый; тя́жкий; **ц. чамада́н** тяжёлый чемода́н; **~кая ка́ра** тяжёлое (тя́жкое) наказа́ние; **~кая віна́** тяжёлая (тя́жкая) вина́; **ц. крок** тяжёлый шаг; **~кае дыха́нне** тяжёлое дыха́ние; **~кае паве́тра** тяжёлый во́здух; **ц. сон** тяжёлый (тя́жкий) сон; **~кая галава́** тяжёлая голова́; **~кая е́жа** тяжёлая пища́; **ц. хара́ктар** тяжёлый хара́ктер; **~кая артыле́рыя** *воен.* тяжёлая артилле́рия; **~кая атле́тыка** *спорт.* тяжёлая атле́тика; **~кая інду́стрыя** тяжёлая инду́стри́я; **~кія мета́лы** тяжёлые мета́ллы; **2.** *(требующий больших усилий)* тяжёлый, трудный; *(обременяющий, доставляющий много неудобств — ещё)* тя́гостный, обремени́тельный; **~кая даро́га** тяжёлая (тру́дная) доро́га; **~кая зада́ча** тяжёлая (тру́дная) зада́ча; **~кія абавязкі** тяжёлые (тру́дные, тя́гостные, обремени́тельные) обя́занности; **3.** *(полный мучений, физических страданий)* тру́дный, тяжёлый, тя́жкий; **~кія ро́ды** тяжёлые (тру́дные) ро́ды; **~кая смерць** тяжёлая (тя́жкая) смерть; **4.** *(неприятный)* тяжёлый, тя́гостный; гнету́щий; **~кае ўра́жанне** тяжёлое (тя́гостное, гнету́щее) впечатле́ние; **5.** *(истощающий силы)* изнури́тельный; тяжёлый; **~кая пра́ца** изнури́тельный труд; **6.** тяжёлый, тяжелове́сный; **ц. стыль** тяжёлый (тяжелове́сный) стиль; ○ **~кая вада́** *хим.* тяжёлая вода́; ◊ **~кая рука́** тяжёлая рука́; **ц. на пад'ём** тяжёл на подъём; **ц. дух** дурно́й за́пах; **~кая до́ля** зла́я до́ля.

**ЦЯЖКІ́** *см.* **ця́жкі.**

**ЦЯЖЭ́Й** *нареч. сравнит ст.* тяжеле́е; потяжеле́е.

**ЦЯ́ЖЭЙШЫ** *прил. сравнит. ст.* тяжеле́е; потяжеле́е; бо́лее тяжёлый.

**ЦЯЖЭ́РНЫ** *разг.* о́чень тяжёлый, тяжеле́нный.

**ЦЯЖЭ́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* тяжеле́ть.

**ЦЯКУ́ЧАСЦЬ** *ж. прям., перен.* теку́честь; ○ **ц. ка́драў** теку́честь ка́дров.

**ЦЯКУ́ЧКА** *ж. разг.* теку́чка.

**ЦЯКУ́ЧЫ** *прям., перен.* теку́чий; **~чыя це́лы** теку́чие тела́; **ц. саста́ў брыга́ды** теку́чий соста́в брига́ды; **~чыя во́ды** теку́чие во́ды.

**ЦЯЛЕ́ЖКІ, -жак** *ед. нет* **1.** *тех.* теле́жка *ж.*; **кра́павая ц.** кра́повая теле́жка; **2.** *(передняя часть повозки, телеги)* передо́к *м.*

**ЦЯЛЕ́ННЕ** *ср.* отёл *м.*

**ЦЯЛЕ́СНАСЦЬ** *ж.* теле́сность.

**ЦЯЛЕ́СНЫ** *в разн. знач.* теле́сный; **~ныя ўласці́васці ша́ра** теле́сные сво́йства ша́ра; **~ныя пакале́чанні** теле́сные поврежде́ния; **~ная ка́ра** теле́сное наказа́ние; **ц. ко́лер** теле́сный цвет.

**ЦЯЛЕ́Ц, -льца́** *м. астр.* Теле́ц; ◊ **залаты́ ц.** золото́й теле́ц.

**ЦЯЛЁПКАЦЦА** *несов. разг.* **1.** шлёпаць по гря́зи; **2.** *(в воде)* плеска́ться, бара́хтаться.

**ЦЯЛІ́ЦА** *ж. обл.* тёлка.

**ЦЯЛІ́ЦЦА** *несов.* тели́ться.

**ЦЯЛУ́ШАЧКА** *ж.* тёлочка.

**ЦЯЛУ́ШКА** *ж.* тёлка, телу́шка.

**ЦЯЛЬНЯ́ШКА** *ж. разг.* тельня́шка.

**ЦЯЛЬПУ́К,** *род.* **цяльпука́** *м. разг.* пе́нтюх, ро́хля, те́лепень.

**ЦЯЛЯ́ и ЦЯЛЁ, -ля́ці** *ср. прям., перен.* телёнок *м.*; теля́, тело́к *м.*; **адсадзі́ць ц.** отня́ть телёнка от ма́тки; ◊ **цяля́ты язы́к аджава́лі** язы́к проглоти́л; **у бо́га ц. ўкра́сці** у бо́га телёнка укра́сть; **куды́ Мака́р цяля́т не ганя́ў** куда́ Мака́р теля́т не гоня́л; **бог не ц.— ба́чыць круцяля́** *посл.* ши́ло в мешке́ не спря́чешь; **гнілу́му цяля́ці хваста́ не адарве́** *погов.* тише́ воды́, ни́же травы́; **дай бо́жа на́шаму цяля́ці во́ўка спайма́ці** *посл.* дай бо́же на́шему теля́ти во́лка пойма́ти; **за мо́рам ц.— паў-рубля́, ды сто перавó зу** *посл.* за́ морем телу́шка — полу́шка, да рубль перево́з.

**ЦЯЛЯ́ТКА** *ср.* телёнок *м.*, телёночек *м.*; ◊ **ла́скавае ц. дзве ма́ткі ссе** *посл.* ла́сковый телёнок двух ма́ток сосёт.

**ЦЯЛЯ́ТНІК** *м. в разн. знач.* теля́тник.

**ЦЯЛЯ́ТНІЦА** *ж.* теля́тница.

**ЦЯЛЯ́ЦІНА** *ж.* теля́тина.

**ЦЯЛЯ́ЧЫ** теля́чий; ◊ **~чае захапле́нне** теля́чий восто́рг; **~чыя пяшчо́ты** теля́чьи не́жности.

**ЦЯ́МІЦЬ** *несов. разг.* сообража́ть, смека́ть.

**ЦЯ́МКІ** *разг. см.* **ця́млівы.**

**ЦЯ́МЛІВАСЦЬ** *ж. разг.* сообрази́тельность, смышлённость, сме́тливость, смётка; поня́тливость; дога́дливость.

**ЦЯ́МЛІВЫ** *разг.* сообрази́тельный, смышлённый, сме́тливый; поня́тливый; дога́дливый.

**ЦЯМЛЯ́К,** *род.* **цемляка́** *м. воен.* темля́к.

**ЦЯМНЕ́Й** *нареч. сравнит. ст.* темне́е.

**ЦЯМНЕ́ЙШЫ** *прил. сравнит. ст.* темне́е, потемне́е; бо́лее тёмный.

**ЦЯМНЕ́ЦЦА** *несов.* **1.** смерка́ться; **2.** *(выделяться тёмным цветом)* темне́ться.

**ЦЯМНЕ́ЦЬ** *несов.* **1.** темне́ть; **валасы́ ~не́юць** во́лосы темне́ют; **2.** *безл.* темне́ть; **~не́е ў ле́се** темне́ет в лесу́; **3.** *перен. (становиться мрачным)* темне́ть, мрачне́ть; **твар яго́ паступо́ва ~не́е** лицо́ его́ постепе́нно мрачне́ет; **4.** ме́ркнуть; **зо́ркі ~не́юць** звёзды ме́ркнут; **5.** тускне́ть; **срэ́бра ~не́е** серебро́ тускне́ет; **6.** *(выделяться тёмным цветом)* темне́ться; **удалечыні́ ~не́е лес** вдали́ темне́ется лес.

**ЦЯМНІ́ЦА** *ж.* темни́ца.

**ЦЯМНІ́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* темни́ть.

**ЦЯМНО́: ад ~на́ да ~на́** от зари́ до зари́.

**ЦЯМНО́ТА** *ж. см.* **цемната́.**

**ЦЯ́МНЫ** *разг. см.* **ця́млівы.**

**ЦЯМО́ЧАК: на ~чку** на рассве́те; на заре́.

**ЦЯМРА́ВЫ** *обл.* су́мрачный.

**ЦЯ́МЦЯ-ЛЯ́МЦЯ** *м. и ж. разг.* недотёпа.

**ЦЯНЁК, -ньку́** *м. (теневое, прохладное место)* холодо́к; тень *ж.*; **схава́цца ў ц.** спря́таться в холодо́к (в тень).

**ЦЯНЁТНІК** *м. зоол.* тенётник.

**ЦЯНЁТНЫ** тенётный.

**ЦЯНЁТЫ** *ед. нет* тенёта.

**ЦЯНІ́СТАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* тени́стость.

**ЦЯНІ́СТЫ** *в разн. знач.* тени́стый; **ц. сад** тени́стый сад; **ц. роў** тени́стый овра́г.

**ЦЯНІ́ЦЬ** *несов. жив.* тени́ть.

**ЦЯП** *межд. разг.* тяп.

**ЦЯ́ПАЦЬ** *несов. разг. (рубить, сечь)* тя́пать.

**ЦЯПЕ́ЛЬЦА** *ср. уменьш. обл.* огонёк *м.*, небольшо́й костёр.

**ЦЯПЕ́Р** *нареч.* **1.** тепе́рь, сейча́с, ны́не, в настоя́щее вре́мя; **ц. не той час** тепе́рь не то вре́мя; **2.** *(употребляется при обращении к новому объекту повествования, разговора)* тепе́рь; **а ц. пачнём е́сці** а тепе́рь начнём есть; **а ц. по́йдзем у тэа́тр** а тепе́рь пойдём в теа́тр; ◊ **не ц., дык у чацве́р** в ближа́йшем бу́дущем; **мялі́, Апана́с, твой ц. час** *погов.* мели́, Еме́ля, твоя́ неде́ля.

**ЦЯПЕ́РАКА** *нареч. обл.* тепе́рь, сейча́с, ны́не, в настоя́щее вре́мя.

**ЦЯПЕ́РАШНІ** тепе́решний, настоя́щий, ны́нешний; ○ **ц. час** настоя́щее вре́мя.

**ЦЯПЛЕ́Й** *нареч. сравнит. ст.* тепле́е; потепле́е.

**ЦЯПЛЕ́ЙШЫ** *прил. сравнит. ст.* тепле́е; потепле́е; бо́лее тёплый.

**ЦЯПЛЕ́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* тепле́ть.

**ЦЯПЛІ́ЦА** *ж.* тепли́ца.

**ЦЯПЛІ́ЦЦА** *несов. страд.* топи́ться, ната́пливаться.

**ЦЯПЛІ́ЦЬ** *несов. (помещение)* топи́ть, ната́пливать.

**ЦЯПЛІ́ЧНЫ** *в разн. знач.* тепли́чный; **~ная гаспада́рка** тепли́чное хозя́йство; **~ныя культу́ры** тепли́чные культу́ры; **~нае выхава́нне** тепли́чное воспита́ние.

**ЦЯПЛО́** *ср.* **1.** тепло́, теплота́ *ж.*; **2.** *обл.* ого́нь *м.*

**ЦЯПЛОАДБІВА́ЛЬНЫ** *физ.* теплоотража́тельный.

**ЦЯПЛО́СЦЬ: ад ~ці не баля́ць ко́сці** *посл.* пар косте́й не ло́мит.

**ЦЯПЛУ́ШАЧНЫ** *разг.* теплу́шечный.

**ЦЯПЛУ́ШКА** *ж. разг. в разн. знач.* теплу́шка.

**ЦЯПЛЫ́НЬ** *ж. (о погоде)* теплы́нь.

**ЦЯПЛЮ́СЕНЬКІ** теплёхонький.

**ЦЯПЛЮ́ТКІ** теплёхонький.

**ЦЯПЛЯ́К,** *род.* **цепляка́** *м. в разн. знач.* тепля́к.

**ЦЯП-ЛЯП** *межд. разг.* тяп-ля́п.

**ЦЯ́ПНУЦЬ** *сов. разг.* **1.** *однокр.* тя́пнуть; *см.* **ця́паць; 2.** *(зубами — о животных)* тя́пнуть, хвати́ть; **ц. за штаны́** тя́пнуть (хвати́ть) за штаны́; **3.** *(выпить спиртного)* тя́пнуть, хвати́ть; **ц. гарэ́лкі** тя́пнуть во́дкі; **4.**

*(ударить)* тя́пнуть; **ц. па галаве́** тя́пнуть по голове́; ◊ **ц. го́ра** тя́пнуть го́ря.

**ЦЯРНІ́СТАСЦЬ** *ж. книжн.* терни́стость.

**ЦЯРНІ́СТЫ** *прям., перен. книжн.* терни́стый; ◊ **ц. шлях** терни́стый путь.

**ЦЯРНО́ВЫ** терно́вый; ◊ **ц. вяно́к** терно́вый вене́ц.

**ЦЯРНО́ЎКА** *ж. (наливка)* терно́вка.

**ЦЯРНО́ЎНІК, -ку** *м. бот.* терно́вник.

**ЦЯРНУ́ЦЦА** *сов. однокр.* ша́ркнуться.

**ЦЯРНУ́ЦЬ** *сов. однокр.* ша́ркнуть; заде́ть что-л. с шу́мом.

**ЦЯРПЕ́ННЕ** *ср. в разн. знач.* терпе́ние; ◊ **ц. ло́пнула** *разг.* терпе́ние ло́пнуло; **перапо́ўніць ча́шу ~ння** перепо́лнить ча́шу терпе́ния; **на ўся́кае хаце́нне ёсць ц.** *посл.* на вся́кое хоте́ние есть терпе́ние.

**ЦЯРПЕ́ЦЦА** *несов. безл.* терпе́ться; **не цярпі́цца** не те́рпится.

**ЦЯРПЕ́ЦЬ** *несов.* **1.** *(безропотно переносить)* терпе́ть; **ц. боль** терпе́ть боль; **2.** терпе́ть; переноси́ть, пережива́ть; испы́тывать; **ц. го́ра** переноси́ть (пережива́ть) го́ре; **ц. ка́ру** терпе́ть наказа́ние; **ц. паражэ́нне** терпе́ть пораже́ние; **3.** *(мириться с кем-чем-л.)* терпе́ть, выноси́ть, переноси́ть; **я не ~плю́ хлусні́** я не терплю́ (не выношу́, не переношу́) лжи; ◊ **ц. стра́ту** быть в убы́тке; нести́ поте́ри; **ц. хо́лад і го́лад** терпе́ть хо́лод и го́лод; **~пі, каза́к, атама́нам бу́дзеш** *погов.* терпи́, каза́к, атама́ном бу́дешь.

**ЦЯРПІ́МА** *нареч.* терпи́мо.

**ЦЯРПІ́МАСЦЬ** *ж.* терпи́мость.

**ЦЯРПІ́МЫ** терпи́мый.

**ЦЯРПЛІ́ВА** *нареч.* **1.** терпели́во; **2.** безро́потно; 1, 2 *см.* **цярплі́вы.**

**ЦЯРПЛІ́ВАСЦЬ** *ж.* **1.** терпели́вость, терпе́ние *ср.*; **2.** безро́потность; ◊ **~ці не хапа́е** терпе́ние ло́пается; **запаса́цца ~цю** вооружа́ться терпе́нием; **тра́ціць ц.** теря́ть терпе́ние.

**ЦЯРПЛІ́ВЫ 1.** терпели́вый; **ц. хво́ры** терпели́вый больно́й; **2.** *(покорный)* безро́потный; **~вае ствара́нне** безро́потное существо́.

**ЦЯРПУ́Г,** *род.* **церпуга́** *м. (морская рыба)* терпу́г.

**ЦЯСА́К,** *род.* **цесака́** *м.* теса́к.

**ЦЯСЛА́** *ж. плотн.* тесло́ *ср.*

**ЦЯСЛЯ́Р,** *род.* цесляра́ *м.* пло́тник.

**ЦЯСЛЯ́РНЫ** *см.* **цясля́рскі.**

**ЦЯСЛЯ́РСКІ** пло́тничий; пло́тницкий.

**ЦЯСЛЯ́РСТВА** *ср.* пло́тничество.

**ЦЯСЛЯ́РЫЦЬ** *несов.* пло́тничать.

**ЦЯСНЕ́Й** *нареч. сравнит. ст.* тесне́е, потесне́е.

**ЦЯСНЕ́ЙШЫ** *прил. сравнит. ст.* тесне́е, потесне́е, бо́лее те́сный.

**ЦЯСНІ́НА** *ж.* **1.** тесни́на; **2.** *(узкая долина в горах)* уще́лье *ср.*

**ЦЯСНІ́НІСТЫ** уще́листый.

**ЦЯСНІ́ЦЬ** *несов. (заставлять отступать)* тесни́ть.

**ЦЯСНО́ТА** *ж. см.* **цесната́.**

**ЦЯЎ** *межд.* тяв.

**ЦЯ́ЎЕ** *собир. ср. разг.* ботва́ *ж.*

**ЦЯ́ЎКАННЕ** *ср.* тя́вканье.

**ЦЯ́ЎКАЦЬ** *несов.* тя́вкать.

**ЦЯ́ЎКНУЦЬ** *сов. однокр.* тя́вкнуть.

**ЦЯ́ЎНІК, -ку** *м. разг.* ботва́ *ж.*

**ЦЯЦЕ́РА** *ж. обл.* тэтэ́ря; ◊ **глуха́я ц.** глуха́я тетéря.

**ЦЯЦЕ́РКА** *ж. (самка тетерева)* тетёрка.

**ЦЯЦЬ** *сов.* **1.** уда́рить; хлестну́ть; **2.** укуси́ть, хвати́ть; **саба́ка мо́цна цяў за нагу́** соба́ка си́льно укуси́ла (хвати́ла) за́ ногу; **3.** *(чем-л. острым)* резану́ть, рубану́ть; хвати́ть; **ц. сякéрай** рубану́ть (хвати́ть) топоро́м.

**ЦЯЦЮ́ШНІК, -ку** *м. бот.* оча́нка *ж.*

**ЦЯЧЫ́** *несов.* **1.** *в разн. знач.* течь; **рэ́чка цячэ́** ре́чка течёт; **кроў цячэ́ з ра́ны** кровь течёт из ра́ны; **гу́кі цяку́ць** зву́ки теку́т; **цячэ́ жыццё** течёт жизнь; **2.** *(пропускать жидкость)* течь, протека́ть; **дах цячэ́** кры́ша течёт (протека́ет); ◊ **слі́нка цячэ́** слю́нки теку́т; **пад ляжа́чы ка́мень вада́ не цячэ́** *посл.* под лежа́чий ка́мень вода́ не течёт.

**ЦЯЧЭ́ННЕ** *ср.* **1.** *(действие)* тече́ние; ток *м.; см.* **цячы́** 1; **2.** *(движение потока воды)* тече́ние; **уні́з па ~нню ракі́** вниз по тече́нию реки́; **цёплае ц.** тёплое тече́ние; ◊ **плы́сці (плыць) па ~нню** плыть по тече́нию; **плы́сці (плыць) су́праць ~ння** плыть про́тив тече́ния.

# Ч

**ЧАБА́Н, -на́** *м.* чаба́н.

**ЧАБА́НІЦЬ** *несов.* чаба́нить.

**ЧАБА́НКА** *ж.* чаба́нка.

**ЧАБАНО́Ў** чабана́, чаба́ний.

**ЧАБАРО́К, -рку́** *м. уменьш-ласк.* тимья́н, чебре́ц.

**ЧАБО́Р, -бару́** *м. бот.* тимья́н, чебре́ц.

**ЧАБУРЭ́К** *м. кул.* чебуре́к.

**ЧАБУРЭ́ЧНАЯ** *сущ.* чебуре́чная.

**ЧА́ВУСКІ** ча́усский.

**ЧА́ВУСКІ РАЁН** Ча́усский райо́н.

**ЧА́ВУСЫ** *г.* Ча́усы.

**ЧАВЫ́ЧА** *ж. зоол.* чавы́ча́.

**ЧА́ГА** *ж. (грибной нарост на берёзе)* ча́га.

**ЧАГО́** I *нареч.* почему́, заче́м; чего́; **ч. ты прыйшо́ў?** почему́ (заче́м, чего́) ты пришёл?; **ч. ты так до́ўга е́здзіў?** почему́ (заче́м, чего́) ты так до́лго е́здил?; ◊ **ч. там!** чего́ там!

**ЧАГО́** II *мест. в род. п.* чего́; *см.* **што** I 1.

**ЧАГО-НЕ́БУДЗЬ** **1.** *нареч.* почему́-нибудь, почему́-либо; **2.** *мест. неопр. в род. п.* чего́-нибудь, чего́-либо; *см.* **што-не́будзь.**

**ЧАГО́СЬ** *нареч., мест. см.* **чаго́сьці.**

**ЧАГО́СЬЦІ** **1.** *нареч.* чего́-то, почему́-то, заче́м-то; **ён ч. мару́дзіў** он почему́-то (чего́-то) ме́длил; **2.** *мест. в род. п.* чего́-то; *см.* **што́сьці.**

**ЧАД,** *род.* **ча́ду** *м.* **1.** уга́р; чад; **2.** *перен.* уга́р; чад.

**ЧАД** *м. (озеро и государство)* Чад.

**ЧА́ДЗЕЦЬ** *несов.* угора́ть.

**ЧАДЗІ́ЦЬ** *несов.* чади́ть; **ля́мпа ч.** ла́мпа чади́т.

**ЧА́ДНА** *безл. в знач. сказ.* уга́рно; ча́дно; **у ха́це было́ ч.** в до́ме бы́ло уга́рно (ча́дно).

**ЧА́ДНЫ** уга́рный; ча́дный; **~нае паве́тра** уга́рный (ча́дный) во́здух; **~ная ла́зня** уга́рная ба́ня; ○ **ч. газ** уга́рный газ.

**ЧАДРА́** *ж.* чадра́.

**ЧАЕАПРАЦО́ЎКА** *ж.* чаеобрабо́тка.

**ЧАЕЎБО́РАЧНЫ** чаеубо́рочный.

**ЧАЁК,** *род.* **чайку́** *м. разг.* чаёк.

**ЧАІ́НКА** *ж.* чаинка.

**ЧАЙ,** *род.* **ча́ю** *м. в разн. знач.* чай; **кве́тачны ч.** цвето́чный чай; **мо́цны (сла́бы) ч.** кре́пкий (сла́бый) чай; **вячэ́рні ч.** вече́рний чай; **запрасі́ць на ч.** пригласи́ть на чай; пригласи́ть к ча́ю; ○ **зялёны ч.** зелёный чай; ◊ **дава́ць на ч.** дава́ть на чай.

**ЧА́ЙКА** I *ж. зоол.* ча́йка.

**ЧА́ЙКА** II *ж. обл.* ло́дка.

**ЧА́ЙКАВЫЯ** *сущ. мн. зоол.* ча́йковые.

**ЧА́ЙНА-КАФЕ́ЙНЫ** ча́йно-кофе́йный.

**ЧАЙНА́Я** *сущ.* ча́йная.

**ЧАЙНВО́РД** *м.* чайнво́рд.

**ЧА́ЙНІК** *м.* ча́йник.

**ЧА́ЙНІЦА** *ж.* ча́йница.

**ЧА́ЙНЫ** *в разн. знач.* ча́йный; **ч. куст** ча́йный куст; **~ная фа́брыка** ча́йная фа́брика; **~ная лы́жка** ча́йная ло́жка; ○ **ч. грыб** ча́йный гриб; ◊ **праз гадзі́ну па ~най лы́жцы** че́рез час по ча́йной ло́жке.

**ЧА́ЙНЫЯ** *сущ. мн. бот.* ча́йные.

**ЧАЙХАНА́** *ж.* чайхана́.

**ЧАЙХА́НШЧЫК** *м.* чайха́нщик.

**ЧАКА́** *ж. (в гранате)* чека́.

**ЧАКА́ЛЬНЫ** выжида́тельный.

**ЧАКА́ЛЬНЯ** *ж. разг.* ожида́льня.

**ЧАКА́Н** I *м.* **1.** *(изображение)* чека́н, чека́нка *ж.*; **2.** *(штемпель, инструмент)* чека́н.

**ЧАКА́Н** II *м. зоол.* чека́н.

**ЧАКА́НАЧНЫ** чека́ночный.

**ЧАКА́НЕННЕ** *ср.* чека́нка *ж.*, чека́н *м.*

**ЧАКА́НЕНЫ** чека́ненный.

**ЧАКА́НІЦЦА** *несов. страд.* чека́ниться.

**ЧАКА́НІЦЬ** *несов. в разн. знач.* чека́нить; **ч. мане́ту** чека́нить моне́ту; **ч. на́дпісы** чека́нить на́дписи; **ч. сло́вы** чека́нить слова́.

**ЧАКА́НКА** *ж. в разн. знач.* чека́нка; **мане́ты но́вай ~кі** моне́ты но́вой чека́нки; **шабля з залато́й ~кай** са́бля с золото́й чека́нкой; **падары́ць ~ку** подари́ть чека́нку.

**ЧАКА́ННАСЦЬ** *ж.* чека́нность.

**ЧАКА́ННЕ** *ср.* **1.** ожида́ние; **2.** выжида́ние.

**ЧАКА́ННЫ** *прям., перен.* чека́нный; **ч. стан** чека́нный стан; **~нная рабо́та** чека́нная рабо́та; **ч. крок** чека́нный шаг; **ч. верш** чека́нный стих.

**ЧАКА́НШЧЫК** *м.* чека́нщик.

**ЧАКА́НЫ** ожида́емый; жда́нный.

**ЧАКА́ЦЦА** *несов.* ожида́ться; **сёння чака́ецца прые́зд гасце́й** сего́дня ожида́ется прие́зд госте́й.

**ЧАКА́ЦЬ** *несов.* **1.** ждать, ожида́ть; дожида́ться; поджида́ть; **2.** выжида́ть; ◊ **час не чака́е** вре́мя не те́рпит (не ждёт); **так і чака́й** того́ и жди; того́ и смотри́; **чака́е не дачака́ецца** ждёт не дождётся; **ч. каля мо́ра паго́ды** ждать у мо́ря пого́ды; **ч. як вол до́ўбні** ждать как вол о́буха; **сямёра аднаго́ не чака́юць** *посл.* се́меро одного́ не ждут; **чака́й Пятра́, сыр з'ясі́ (бу́дзеш сыр е́сці)** *посл.* далеко́ кулику́ до Петро́ва дня.

**ЧАКО́НА** *ж. муз.* чако́на.

**ЧАЛ** *м. мор.* чал, ча́лка *ж.*

